# ЗАКЛІК

ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-
МАСТАЦКІ
ЧАСОПІС
АРГАНІЗАЦЫЙНАГА
КАМІТЭТУ
САЮЗУ
САВЕЦКІХ
ПІСЬМЕНЬНІКАЎ
БССР

КНІГА 3
1933

# ЗЬМЕСТ № 3

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# ЗАКЛІК

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МАСАВЫ ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ БССР

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА

3 САКАВІК 1933

ПЕРШАЯ бальшавіцкая вясна другой пяцігодкі праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Рэшткі эксплёататарскіх клясаў у сваім шалёным супраціўленьні пераможнаму наступу сацыялізму спрабавалі і спрабуюць яшчэ змагацца за свае пазыцыі— пазыцыі чужаедаў, сейбітаў атруты цемры, прыгнечаньня працоўных. Праўда, іх песьня сьпета, яны раздаўлены сталёвым ходам пралетарскай дыктатуры, яны разьбіты, але яшчэ не дабіты да канца, яшчэ сядзяць прытаіўшыся ў шчылінах нашае савецкае рэчаіснасьці. Яны распаўзьліся па краіне, прысмакталіся да асобных савецкіх устаноў, калгасаў, саўгасаў. Многія залезьлі на асобныя фабрыкі і заводы, апрануўшыся ў новую вопратку, замаскаваліся—і накіроўваюць сваё атрутнае жала супроць савецкага ладу, сацыялістычнай маёмасьці—стараюцца прытупіць клясавую пільнасьць асобных работнікаў.

Вораг хітры, пранырлівы, замаскаваны. Ён на словах за калгас, за нарыхтоўкі, за пасеўную, а на справе імкнецца згнаіць лён, збожжа, збыць яго спэкулянту, падарваць моц калгаснага руху.

У гэтым яму дапамагаюць шкодніцкія, нацдэмаўскія, кулацкія элемэнты, што заселі ў зямельных органах, элемэнты, галоўка якіх выкрыта ў апошнія часы ДПУ. Нашай задачай зьяўляецца выкрыць і выкарчаваць карэньні гэтых ахвосьцяў прышчэпаўшчыны.

Клясаваму ворагу дапамагаюць і буржуазныя пераражэнцы з партбілетам у кішэні, людзі, што згубілі кля-

савую пільнасьць, разучыліся пазнаваць клясавага ворага, зрасьліся з ім. Клясаваму ворагу дапамагаюць партыйныя „шляпы“, апартуністы, якія штампуюць паток папяровых дырэктыў, якія дапускаюць зрыў важнейшых мерапрыемстваў партыі і ўраду.

Наша пісьменьніцкая арганізацыя актыўна ўдзельнічала ў нарыхтоўках, як непасрэдным удзелам шэрагу пісьменьнікаў у якасьці ўпаўнаважаных ЦК, райкому, гэтак і выездамі асобных таварышоў творчымі брыгадамі.

Зараз ідзе разгорнутая падрыхтоўка да сяўбы. У гэтай рабоце выяўляюцца калгасьнікі—ударнікі, сапраўдныя героі сацыялістычнай перабудовы вёскі—новыя людзі—актыўныя дапаможцы партыі. Зьезды перадавікоў калгасьнікаў, што адбыліся ў Маскве, у кожным раёне БССР, усебеларускі зьезд—паказваюць нам твар гэтых змагароў сацыялістычных палёў. Задача пісьменьнікаў паказаць іх у мастацкіх творах, паказаць іхны рост, іхную барацьбу за генэральную лінію партыі. Паказаць бальшавікоў—арганізатараў сапраўдных бальшавіцкіх калгасаў.

Да гэтага часу мы ў літаратуры маем паказ толькі першае стадыі калгаснага будаўніцтва—арганізацыю калгасаў. Час падняцца на вышэйшую ступень, паказаць калгас у барацьбе за арганізацыйнае і гаспадарчае ўмацаваньне, за бальшавізацыю.

Гэта можна зрабіць толькі непасрэдна, актыўна ўдзельнічаючы ў пасеўнай кампаніі, толькі вывучаючы клясавыя зрухі, што адбываюцца на вёсцы, не па кніжках, а ў жыцьці, удзельнічаючы ў рабоце калгасу і дапамагаючы выхаваньню новага чалавека ў агні клясавае барацьбы.

Пасылка пісьменьніцкіх брыгад на вёску ў калгасы, удзел іх у растлумачэньні лініі партыі і задач вясеньняй сяўбы, актыўная дапамога мясцовым, партыйным і савецкім арганізацыям—зьяўляецца першачарговай задачай, як саміх пісьменьнікаў, так і ўсёй нашай пісьменьніцкай арганізацыі.

Барацьба за хлеб—ёсьць барацьба за сацыялізм—(Ленін). Савецкая літаратура—змагар за сацыялізм. Яна будзе такім змагаром і на фронце барацьбы за хлеб.

# АБ ФАКТАХ ПРАСОЧВАНЬНЯ КЛЯСАВА-ВАРОЖЫХ, НАЦЫЯНАЛДЭМАКРАТЫЧНЫХ УПЛЫВАЎ У МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ БССР

*ПАСТАНОВЫ ЦК КП(б)Б АД 28 СТУДЗЕНЯ 1933 г.*

1. ЦК КП(б)Б адзначае, што за апошні час меў месца рад фактаў прасочваньня і прасякненьня адкрыта клясава-варожых, рэваншысцкіх, нацыянал-дэмакратычных вылазак на літаратурным фронце БССР (артыкул Сідарэнкі-Пеначкіна, твор Нікановіча ў часопісі „Беларусь Калгасная“, твор С. Баранавых у „Літаратуры і Мастацтва“.

ЦК кваліфікуе зьяўленьне вышэй паказаных артыкулаў і твораў (Сідарэнкі-Пеначкіна, Нікановіча і С. Баранавых) у нашых часопісях, як клясава-варожую вылазку рэваншысцкіх, нацыянал-дэмакратычных элемэнтаў, адбіваючых ў гэтых сваіх выступленьнях шалёнае супраціўленьне разгромленага, але яшчэ канчаткова не дабітага клясавага ворага разгорнутаму сацыялістычнаму наступленьню на ўсім фронце, вядучых сваю антысавецкую работу, прыкрываючыся фальшыва нацыянальным сьцягам.

2. ЦК лічыць зусім недапушчальным і нецярпімым тое, што да гэтага часу фракцыяй Арганізацыйнага камітэту саюзу савецкіх пісьменьнікаў не дана разгорнутая палітычня кваліфікацыя вышэй паказаных фактаў антысавецкіх вылазак на літаратурным фронце, што сакратарыят ЦК расцэньвае як прытупленьне клясавай пільнасьці, палітычную блізарукасьць і праяўленьне гнілога лібэралізму з боку кіраўніцтва Аргкому да канкрэтных носьбітаў клясава-варожых уплываў у літаратуры, за што **вынесьці вымову фракцыі прэзыдыуму Аргкамітэту саюзу савецкіх пісьменьнікаў.**

Прапанаваць фракцыі Аргкому ў бліжэйшыя дні даць разгорнутую палітычную ацэнку становішчу літаратурнага фронта БССР.

3. Адзначыць, што з боку органаў Наркамасьветы,— у асаблівасьці Галоўліту ДВБ, у рабоце па пытаньнях літа-

ратуры (кіраўніцтва, выданьне, палітычная рэдакцыя) праяўлена прытупленьне клясавай пільнасьці і гнілы лібэралізм ў адносінах да клясава-варожых вылазак і асоб, якія вядуць антысавецкую барацьбу, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сьцягам.

Папярэдзіць тав. Платуна аб тым, што гэтыя факты, а таксама факты, выкрытыя ў рабоце Наркамасьветы па кіраўніцтву ВНУ і школамі і адзначаныя ў пастанове пленуму ЦК,—сьведчаць аб невыстарчальным бальшавіцкім кіраўніцтве з боку тав. Платуна даручанай яму Цэнтральным камітэтам справай і што ЦК патрабуе ад тав. Платуна стварэньня рашучага пералому і перабудовы ўсёй работы Наркамасьветы.

Тав. Сініцкаму, заг. галоўлітам, абвясьціць суровую вымову з папярэджаньнем і зьняць з работы. Прапанаваць тав. Рудніцкаму неадкладна ўскласьці пэрсанальна на аднаго з членаў калегіі Наркамасьветы абавязкі па нагляду за работай галоўліту да падбору адпаведнага работніка.

Тав. Некрашэвічу—заг. ДБВ—за зусім невыстарчальнае бальшавіцкае кіраўніцтва важнейшым вучасткам нацыянальна-культурнага будаўніцтва—выдавецкай справай, зусім няўважлівыя адносіны да падбору кадраў палітрэдактароў, што прывяло да цэлага раду зрываў палітыка-ідэалёгічнага парадку ў рабоце ДВБ,—вынесьці суровую вымову.

Папярэдзіць тав. Некрашэвіча, што калі ў бліжэйшы час ён не даб'ецца рашучай бальшавіцкай перабудовы работы і кіраўніцтва ДВБ у бок узмацненьня рэвалюцыйнай пільнасьці, падбору вытрыманых, надзейных, правераных рэдактарскіх кадраў, кіруючых выдавецкай справай не фармальна, а па сутнасьці, да яго будуць ужыты меры больш суровага партыйнага спагнаньня.

Прапанаваць Наркамасьветы і Культпропу ў блішэйжыя два-тры дні ўзмацніць апарат рэдактуры ДВБ, галоўліту галоўмастацтва партыйна-праверанымі і вытрыманымі работнікамі, адначасова ўзмацніўшы штодзённы кантроль і кіраўніцтва на літаратурна-мастацкім фронце.

4. Адзначыць зусім невыстарчальнае кіраўніцтва пытаньнямі мастацкай літаратуры і несвоечасовае рэагаваньне на наяўныя факты з боку культпропу ЦК, у асаблівасьці сэктару мастацтва, за што:

а) быламу загадчыку сэктарам мастацтва ЦК тав. Модэлю абвясьціць суровую вымову з папярэджаньнем, перадаўшы ўсё пытаньне аб ім на разгляд ЦКК;

б) папярэдзіць тав. Усса, заг. сэктару мастацтва ЦК, а таксама ўсіх работнікаў Культпропу, што падобнае стано-

вішча справы, якое выкрылася на літаратурным фронце, сьведчыць, што работнікі культпропу да гэтага часу не праявілі сябе палітычна-чулымі работнікамі партыйнага апарату, якія абавязаны хутка сыгналізаваць і рабіць вывады ў адносінах праяўленьняў клясава-варожых выступленьняў на фронце літаратуры і мастацтва.

Прапанаваць культпропу ЦК на працягу двух-трох дзён узмацніць сэктар мастацтва праверанымі надзейнымі партыйцамі, а таксама ўзмацніць штодзённае кіраўніцтва і дапамогу фракцыі Аргкому саюзу пісьменьнікаў.

5. Распусьціць рэдкалегію „Беларусь Калгасная". Пытаньне аб рэдактары часопісі тав. Мурашка, які ня толькі дапусьціў зьяўленьне паказаных клясава-варожых антысавецкіх артыкулаў у часопісі, але дамагаўся іх надрукаваньня,—перадаць у ЦКК на прадмет прыцягненьня да суровай партыйнай адказнасьці.

Прапанаваць Культпропу ЦК у трохдзённы тэрмін прадставіць на зацьверджаньне ЦК новы склад рэдкалегіі часопісі „Беларусь Калгасная".

За спазьненьне і несваячасовае выкрыцьцё клясава-варожых вылазак на літаратурным фронце рэдакцыі газэты „ЛІМ" абвясьціць вымову.

Прапанаваць культпропу ЦК ўзмацніць склад рэдкалегіі газэты „ЛІМ" моцнымі праверанымі партыйцамі. Паказаць тав. Дунцу, што факт выпуску ў газэце „ЛІМ" клясава-варожых артыкулаў сьведчыць аб тым, што тав. Дунец не дабіўся сапраўднага бальшавіцкага кіраўніцтва газэтай „ЛІМ". Прапанаваць тав. Дунцу прыняць меры да недапушчэньня ў далейшым падобных фактаў.

Адзначыць, што інстытут ЛІМ заняў „нейтральную" пазыцыю ў пытаньнях, доказам чаго зьяўляецца тое, што ён ня даў ніводнага крытычнага артыкулу, ня гледзячы на папярэджаньне з боку ЦК аб неабходнасьці адкрыта выступіць супраць клясава-варожых элемэнтаў. Гэта сьведчыць аб тым, што ў інстытуце ЛІМ няма выстарчальнай мабілізаванасьці і з боку АНБ не ажыцьцяўляецца небходнае партыйнае кіраўніцтва гэтымі справамі, за што дырэктару інстытуту ЛІМ тав. Вольскаму і намесьніку дырэктара тав. Ліманоўскаму абвясьціць вымову. Паказаць партчастцы акадэміі на неабходнасьць умацаваньня кіраўніцтва работай інстытуту.

Тав. Галавачу П., прапусціўшаму ў рэдагаваным ім зборніку (том VI) вершаў Купалы рад адкрыта нацыяналістычных клясава-варожых твораў Купалы пэрыяду, калі Купала ў сваёй творчасьці выразна адбіваў нацыянал-дэмакратычныя ідэі, у асаблівасьці без рэдакцыйных заўваг

і палітычнай іх ацэнкі,—абвясьціць суровую вымову з папярэджаньнем.

У сувязі з наяўнасьцю раду фактаў, якія паказваюць аб тым, што тав. Галавач ня толькі ня выправіў сваіх ранейшых памылак, а нават у даны момант дапускае таксама рад памылак палітычнага парадку,—пытаньне аб тав. Галавачу вырашыць дадаткова асобна.

6. Прапанаваць ЦК ЛКСМБ разгледзець пытаньне аб грубых палітычных памылках тав. Кучара, дапушчаных ім у радзе яго літаратурна-крытычных выступленьняў, падвергнуўшы іх самай бязьлітаснай, рэзкай бальшавіцкай крытыцы, і ў выпадку неабходнасьці свае прапановы ўнесьці ў ЦК.

7. У сувязі з наяўнасьцю раду фактаў, якія сьведчаць аб недапушчальных паводзінах тав. Хведаровіча ў пытаньнях правядзеньня партыйнай лініі на літаратурным фронце, даручыць ЦКК прыцягнуць Хведаровіча да партыйнай адказнасьці.

8. Бюро ЦК абавязвае кожнага камуніста і касамольца, пісьменьніка, усямерна ўзмацніць рэвалюцыйную пільнасьць, бальшавіцкую няпрымірымасьць да клясава-варожых вылазак, варожых уплываў на літаратурным фронце, бязьлітасна выкрываючы і зрываючы маскі з клясавага ворага, выступаючага часта пад фальшыва-нацыянальным сьцягам, даючы ім сакрушальны адпор, разам з тым чула і беражна адносячысь да тых пісьменьніцкіх кадраў, якія імкнуцца стаць на службу справе сацыялістычнага будаўніцтва, дабіваючыся сацыялістычнага іх перавыхаваньня ў працэсе творчай і грамадзкай работы.

---

**Бязьлітасны ўдар па носьбітах беларускага буржуазнага нацыяналізму!**

**Савецкі пісьменьнік! Вышай клясавую пільнасьць!**

**Вышэй узьнімем сьцяг пралетарскага інтэрнацыяналізму.**

---

АНДРЕЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

# ХЛЕБНАЯ ЗІМА

1

ЦІХА стала. Ветрагулам
Завіруха прамінула.
Разварачывала, рвала
На кавалкі грозным валам
Яры шал навалы хмар.

Злосным лётала разьбегам
І рассыпалася сьнегам.
І сумёты, быццам здані,
Быццам помнікі змаганьня,
Сьлед нязьлічаных ахвяр.

Ветрарухам завіруха
Прамінула. Стала глуха.
Ў сьнегавых сваіх сяцілах
Шум лясоў запаланіла,
Пакарыла шум прысад.

Ледзянее шыр. Трывожыць
Цішыня і бездарожжа.
Ў заварожаным бязьмежжы
Срэбраліты мярэжы
Апаясваюць закат.

У сутоннай сіняй стыні,
Як на лыжах па даліне,
Бег прасторным шляхам млечным
Непакорна—ўпарты вечар,
Зьяла зорная чалма.

Ускрылялася, вітала,
Сустракала карнавалам
Беласьнежнае паводкі—
Сьцяг другое пяцігодкі,
Бальшавіцкая зіма.

2

Цемра ў нетры нор нырае,
Мрыюць ветры змрочны цень.
Пераможцам наступае
Навагодні ўдарны дзень.

Ен ідзе... Ружовым зьяньнем
Погляд свой—гаспадара—
Рассыпае ў акіяне
Ледзянога серабра.

Ён ідзе... Стырнуе ўздымна,
Дзён бясклясавых вяшчун.
Нашай будучыні гімны
Грае аркестр праменных струн.

Ён ідзе... Аб ім паданьні
Дзіўным сказам створыць люд.
Загартоўваў ён змаганьнем
Свой кастрычніцкі маршрут...

3

Калі ўзыходзе сонца—
Тады пяе усход,
Калі пяецца песьня—
Тады мілей паход.

Тады ў разьлівах сонца—
К нам новы год ідзе,
Тады ў разьлівах песьні—
Шлях шчасьця грамадзе.
І мы стваралі сонца
Са жвіру і руды,
І песьню
За чатыры
Бяссонныя гады!

А калісь—была лучына,
І жыцьцё—турэмны склеп.
Так было! Цяпер краіна—
Танкі, трактары і хлеб!

Там, дзе вырас Новы горад,
Дзе шуміць пшаніцай стэп,
Там Дняпро сваім напорам
Выпрацоўвае нам хлеб!

Крок за крокам, працай дбайнай,
Край квітнее, край акрэп.
Ёсьць—варштаты, ёсьць камбайны,
Ёсьць—шаша, аўто і хлеб!

Людзі вырасьлі. Магутны
Росквіт родзіць рост патрэб.
Ёсьць—рабфакі, інстытуты,
Ёсьць—паэзія і хлеб!

Мы маем, ёсьць!
Магнітка ў нас,
І ў нас
Кузбас
Расьцьвету!
Грыміць наўсьцяж
Вялікі наш
Саюз краін саветаў.

А ўдары грому чуе,
Бляск сонца бачыць—той—
Хто ў злосьці к нам аглух,
Хто ў злосьці к нам асьлеп.
Каго, як гніль, карчуем,
Каго скрышае бой—
Раскатам завірух
За хлеб!
за хлеб!

4

Каб стрымаць, стрыножыць, збочыць,
Ход—якім ня йшлі вякі,—
Сапам змоў нянавісьць точаць
Воўчай ноччу кулакі.

Недабітых іх багата,
Ой, занадта іх яшчэ!
Трэба сэрцам бачыць ката,
Пазнаваць агонь вачэй!

Ласкаў ён, ён не абразіць,
І абрэз ня носіць свой,—
Спадцішка ў калгас пралазіць,—
Скот атручвае чумой.

Ён раўняецца па часе,
Стаў маленькім быццам крот.
Ён сьвінар,—і ў тым калгасе
Ўвесь прыплод ідзе за плот.

І дарма, што зьбіты крыльлі,
Помстай кроў гудзіць, як вар.
Ён ці мала знойдзе шчылін,
Каб глуміць народны скарб.

Поле вілася-ж калосьсем,
Хлебным быў зялёны шум.
Як жабрак, кулак галосіць,
Трэ сьлязу зьмяіных дум.

І зладзейскаю, ганебнай
Жменяй ярасьць гневу згрэб.
— „Трэба даць дзяржаве хлеба?"—
А таму—хавае хлеб.

А таму—на гной ссыпае,
А таму—ссыпае ў склеп.
Поле ўгнойваў для ўраджаю,
Каб згнаіць сабраны хлеб.

Хлеб стаіць у горле комам,
Грудзі роспач люта рве.
Хоць надломаны патомак
Чорных дзён,—але жыве!—

І выходзіць ён, каб глянуць
(Варажылі-ж з году ў год!)
Быў бляды ці быў румяны
Навагодні сонцаўсход.

Дый ці гнуцца долу вецьці?
Як клубіцца дым з трубы?
Дый з якога боку вецер?—
Шэпчуць вусны варажбы.

А густой чырвонай лавай
Сонца ткала дываны.
Полем бег і вецер нават
З бальшавіцкай стараны!

Выюць ворагі нарсду,
Вые ўласнась, зайздрасьць, гнеў.
З новым годам назаўсёды
Свой прысуд кулак сустрэў.

Шлях асьнежаны марозам
Слаў бярозавы свой шэпт.
Шляхам стройныя абозы
Везьлі свой калгасны хлеб.

Хлеб—будуе камяніцы,
Хлеб—імклівых дум агонь.
Хлеб—савецкія граніцы
Апранае горда ў броньі

Будзем біцца—
За хлеб,
Бальшавіцкі—
Наш хлеб.
Стройным шляхам—
За хлеб,
Фабрык гмахі—
Наш хлеб.
Бой суровы—
За хлеб,
Нетраў сховы—
Наш хлеб.
Моц разгорнем—
За хлеб,
Вугаль чорны—
Наш хлеб.

Цьвёрдым крокам—
За хлеб,
Торф глыбокі—
Наш хлеб.
Сьмерчам біцца—
За хлеб,
Бальшавіцкі—
Наш хлеб!

5

На шляху, у пераправах,
Стрэнем цяжкасьцяй карчы.
Бальшавік ня мае права
Цяжкасьць росту не змагчы!

Вораг той і самы страшны,
Хто ў паходзе здрадзіць змог.
Наша моц, магутнасьць наша
Заваёвана ў баёх.

З чатырох зямлі акраін,
Шчасьцем нашай грамадзе—
Пераможцам наступае
Навагодні ўдарны дзень.

Ён ідзе—(круты далі ўзмах,
Сьмелы ў будучыню ўзьлёт!)
Золак дзён сацыялізма
Векапомны новы год.

Новы год,
Свой горды ход,
Стырнаваў на штурм высот.
Году першага—другой
Пяцігодкі баявой,
Бальшавіцкай.

Пераможцам дзён грымот,
Сіл магутных разварот.
Новы год—
Разгортваў свой
І ўступіў у грозны бой,
Навальніцай.

Шмат дарогай перашкод,
Шчэ былых балюе зброд,
Новы год—
Сваёй хадой
Іх сатрэ ў пясок, на гной,
Як нястрэбу.

Бой ідзе, вялікі бой,
Бой астатні, злосны бой!
Барацьбой,
Гартуй паход,
Сустракай, вітай, народ,
Новы год
Хлебам!

6

Тым—хто сэрцам, думкай з намі,
Тым—радзіўся хто ў змаганьні,
Тым—хто рос на рыштаваньні,
Шле гарачыя вітаньні—
Наваголнім гордым шляхам,
Дзе за гмахам новых гмах,
Узмахам сонечнай папахі
Наша хлебная зіма!

Студзень, 1933
Магілеў—Менск

# МАЛАДОСЬЦЬ

Ёсьць вялікая сіла
вятроў і плянэт
І такая-ж—
у нашых плячах.
Яна вырасла,
новы будуючы сьвет,
пакрыла прастору і час;

Яна зьніштла
рочаць глыбокую рэк
і высокія водшыбы гор,
спапяліла агонь,
каб тугой не гарэў
недаказанай жальбы дакор;

Яна здолела
з цьвёрдай і крохкай руды
непагаснае сонца дастаць...
Падуладныя
дужасьці гэтай
сады
не адмовяцца больш зацьвітаць.

Так пакоранай стала
абыклая сьмерць,
пераможна ступае жыцьцё,
залатымі праменьнямі
сочыцца сьмех
на празрыстага сонца касьцёр.

Значыць,
сіла такая—
вялікая—
ёсьць,
што й навалу абложыць напрост:
гэта наша—
твая і мая—
маладосьць,
гэта нашых рэспублік узрост.

1932 г.

*ПЛАТОН ГАЛАВАЧ*

# НАВЭЛЯ БЯЗ НАЗВЫ

ЧАЛАВЕК у кэпі павольна перастаўляў ногі і ў такт крокам ледзь-ледзь схіляў па чарзе за нагой тулава. Ногі мералі дакладна: семнаццаць крокаў ад канца пляцоўкі і семнаццаць назад. І калі-б чалалавек у кэпі з кожным разам, як ідзе ў канец пляцоўкі, не азіраўся назад, можна было-б падумаць, што прышоў ён сюды трэніравацца ў рытмічнай хадзе і што ніякая рэч з навакольнага яго ня цікавіць.

Аднак, гэта было ня так. Чалавека ў кэпі зацікавіў шэры падношаны гарнітур, гаспадаром якога быў малады яшчэ белабрысы хлапец. Ён даўно ўжо стаіць каля трамвайнага прыпынку і ўсё ня едзе.

— Можа ён каго чакае?—Чалавек у кэпі, не прыпыняючы крокаў, выняў партсігар, дастаў папяроску і пашоў у бок да шэрага гарнітура.

— Прабачце, пане, дазвольце прыкурыць?

— Калі ласка, калі ласка.

Шэры гарнітур страсянуў з свае папяросы попел і падаў яе. А потым, пакуль чалавек у кэпі, крыху сагнуўшыся над папяросай, закурваў, ён пасьпеў разгледзець лёгкую, табачнага колеру кэпі ў клетку, туга накрахмалены белы каўнер і пад каўняром, на шыі, цёмна-шэрую поўсьць.

— Прабачце, пане,—сказаў ён,—сюдэй ідзе нумар трынаццаты?

— Бясспрэчна, бясспрэчна, пане,—адказаў чалавек у кэпі і выпрастаўшыся падзякваў за паслугу.—Дзякую, прабачце.

Чалавек у кэпі кіўнуў галавою і адыйшоў у бок.

На пляц з суседніх вуліц павольна падходзілі трамваі. Яны скрыгацелі на заваротах, выходзячы з перакрыжа-

ваньняў вуліц і густа званілі. Звонячы, прыцішалі ход і ўваходзячы ў людзкі натоўп, спыняліся, а потым зноў званілі і павольна рушылі з месца, каб зьнікнуць за камяніцамі ў блізкай вуліцы.

Яшчэ праз пяць хвілін шэры гарнітур зайшоў у вагон. Сядаючы ў вагоне на лаўку, ён зьмеціў, як мільганула пад самым вакном вагону лёгкая табачнага колеру кэпі ў клетку. І тады, ні да кога не зьвяртаючыся, выказваючы задаволенасьць тым, што дачакаўся трамвая, сказаў:

— Ну, вось мы і паехалі.

З бразгатам, зьлёгку гойдаючыся, ішоў трамвай ад аднаго прыпынку да другога, дальш ад цэнтру, ад парадная часткі гораду, ішоў і бесьперапынна званіў, перасьцерагаючы вузкія, шматлікія завулкі ўскраіны.

*

— Проша, проша.

Старэйшы адсунуўся і даў месца. Адась сеў.

— На вашым заводзе работаюць, пэўне, круглыя суткі?— запытаў ён.

— Круглыя суткі,—кажа старэйшы.—Мы работаем на войска. А табе што?—пытае ён у сваю чаргу і ўважліва аглядае Адася ўсяго адразу.—Праведаць што хочаш?— Пытае і праз плячо пазірае на залаплены Адасёў рукаў.

Адась выняў папяросу, але не закурыў, прыпомніў, што ў вагоне курыць забаронена.

Я шукаю работы,—сказаў ён.—Я трэці год хаджу без работы. Я цэлае лета гуляю.

— Цэлае лета, кажаш, гуляеш? Гм, дык чым-жа табе нядобра? Дзівак чалавек!.. Хе-хе!

І стары крывіць рот ухмылкай.

— Гуляе чалавек і нездаволены. Та-а-к...

— Цэлае лета гуляю,—зноў сказаў Адась.—Зімой хоць калі-ні-калі сьнег на вуліцах прыбіраю, а ўлетку няма чаго рабіць.

— Нашаму брату, выходзіць, і мяцеліца на карысьць, а?—І стары зноў ухмыляецца.—Мерзьнеш, ды рад ёй, бо, выходзіць, і яна кавалак хлеба дае. Та-а-к. А чаму ты, канечне, наш завод выбраў?—пытае ён у Адася.

— Мне так параілі. Сказалі, што ў вас часта наймаюць і што на ваш лёгка наняцца.

— Ту-ў! — Стары пацiснуў плячом і кіўнуў галавой у бок да маладога хлапца, што сядзеў насупроць. — У яго запытай. Лёгка наняцца! — ён прысьвіснуў, а тады сказаў, косячыся ў бок да Адася: — хоць... як каму, канечне. Каму й лёгка, каму й вельмі лёгка, а каму дык і ніяк ня можна, гэта справа такая.

Зм^ўк, зірнуў яшчэ раз на Адасеў лаплены рукаў і, прыжмурыўшы вока, неўзаметку падміргнуў малодшаму.

— У нас, — умяшаўся ў гутарку малодшы, — трэба каб паручыцельства было ад двох чалавек, вядомых на заводзе, або ад дыфэнзывы.

— Чаму ад дыфэнзывы?

Стары зноў зірнуў паверх пляча на Адася і гэтак-жа няпрыкметна, хітравата падміргнуў малодшаму.

— Во, як у нас, — сказаў ён. — І калі ў цябе, малойчык, ёсьць там добрыя знаёмыя, тады ў раз паступіш на Шкодаўскі завод.

— А ты якой прафэсіі? — запытаў малады.

— Я токар.

— Токар? Такароў набіралі часта. Я сам токар. — Сказаў і адвярнуўся да вакна, а праз нейкі час зусім нечакана зноў загаварыў:

— Ім яшчэ нічога! — ён кіўнуў галавой на старога, — а такім, як я, вельмі цяжка. Да прыкладу: год я рабіў бяз ніводнай капейкі, а цяпер трэці год раблю і раблю ня горш за дарослых, а плоцяць мне разоў у восем менш.

Адась пазірае на свае крыху зашмальцаваныя калёны і слухае, як бразгачаць пад вагонам колы.

— Значыць ніякай надзеі няма, — кажа ён ня то сам сабе, ня то пытаючы кагосьць. — А мне нагаварылі, нараілі...

А ведаеш што, — кажа малады, — пайдзі да стрэлецкай арганізацыі. На наш завод часам прымаюць па іхнаму паручыцельству. А я табе пасаблю паступіць да стрэлецкай арганізацыі.

— Пан пэўне даўно ў стрэльцах, — заўважыў стары. — Так, ці не?

— Не. А яны пасобяць?

— Могуць пасабіць. У нас на заводзе амаль уся моладзь пашла ў стрэлецкі саюз. Гэта значна спакайней. Больш на рабоце пратрымаешся.

— Дык ты пасобіш мне ў гэтым? Я даўно хочу ў стрэлецкі саюз,—кажа Адась.

— Ладна, чаму-ж.

— Ну і ладна. А я табе можа што зраблю. Калі хочаш, будзем сябраваць. Хочаш?

— Вельмі добра.

— Я жыву ў Прывісьлінскім,—сказаў Адась.

— А я на Касьцёльнай, у дзевятнаццатым нумары.

Адась падаў малодшаму руку, а пасьля прыўзьняў шапку і кіўнуў галавою старэйшаму. Той ледзь кіўнуў у адказ і зноў хітравата падміргнуў.

*

Праз два дні Адась блукаў па Касьцёльнай, шукаў дзевятнаццатага нумару. Ён павольна крочыў па тратуару ўздоўж усяе вуліцы, азіраўся на таблічкі каля дамоў і пачынаў нэрвавацца. Дзевятнаццатага нумару ня было. А пайсьці ў двор наўгад і пытаць ён не хацеў ды ня ведаў каго пытаць, ён ня ведаў прозьвішча свайго знаёмага. І акурат у гэты момант, калі ён разгублена прыпыніўся, мяркуючы, што рабіць, перад ім нечакана зьявіўся ягоны знаёмы.

— А я цябе здалёк пазнаў. Ну што? Нідзе яшчэ не работаеш?—запытаў ён.

— Не, што ты, хіба гэта так лёгка? Ого! А я хацеў перадаць табе, што ў нас сёньня вячорка.

— Сёньня?—перапытаў знаёмы.—А скажы, багата вас зьбіраецца?

— Як калі. Сёньня нас трое будзе і трое дзяўчат. Дзяўчаты свае.

— Любата.

Знаёмы Адасеў на хвіліну задумаўся.

— А ведаеш,—сказаў ён пасьля кароткае паўзы,—давай цяпер да мяне падойдзем, папалуднуем, пасядзім у мяне, а як зьвечарэе, пойдзем туды.

— Гэта то добра, толькі ці зручна мне?

— А чаму-ж? У мяне дома адна старая маці.

— Давай так,—згадзіўся Адась.—Толькі дзе ты жывеш тут? Я ні за што не знайшоў-бы. Вось тут-жа недзе павінен быць дзевятнаццаты нумар, а яго няма.

— Фу ты! А я забыўся сказаць табе, што ў дварэ жыву. Во, тутака-ж,—паказаў ён у двор.—Вунь у той камяніцы.

Дома знаёмы Адасеў пакінуў яго ў пакоі аднаго, а сам пашоў на кухню, дзе рыхтавала маці страву. Быў ён на кухні ня доўга і прышоў адтуль рагочучы. Рагатаў з парогу і, адышоўшы ў бок, ківаў галавой у бок да маці.

— А мама баіцца, што ты камсамоцец,—сказаў ён.—Яна вельмі баіцца, каб я ў камсамол не пашоў, баіцца майго арышту.

— Ну во, нашоў што казаць.—Маці засаромілася і вінаватым тонам, каб апраўдаць сябе перад сынавым госьцем, сказала:—баюся я, як і ўсякі кожны баіцца.—А потым дадала:—А якая-ж маці за сваіх дзяцей не баіцца? Песьціш, гадуеш... Ды ня дай бог што якое, дык як-жа я тады зусім адна застануся? Што-ж вы гэта?

Яна паставіла на стол страву, пастаяла перад сталом, азіраючы, ці ўсё патрэбнае падала да полудню, а тады, зьвяртаючыся да сына, сказала:

— Дык садзецеся-ж есьці, садзі, Вінцусь, хлапца, чаго-ж ты.

— Я сяду, цётачка, дзякую,—сказаў Адась.

Маці вышла. Вінцусь падсунуў да стала крэсла і сеў. За сталом захацелася нешта сказаць да Адася, але не знаходзілася слоў, і ён еў моўчкі. Еў і адчуваў сябе нязручна, што вось гаспадар ён і маўчыць. Але на дапамогу прышоў сам Адась. Ён адклаў у бок відэлец, усьміхнуўся і, зьвяртаючыся да Вінцэся, запытаўся:

— Тваё імя Вінцусь? Ведаеш, неяк сьмешна. Ходзім, сябруем і яшчэ адзін аднаго ня ведаем. Неяк так яно ў нас абыходзілася.

— Ну так, праўда-ж. Я Вінцусь Мальцэвіч.

— А я Адась Такарчук. Вось і знаёмства.

— А сапраўды-ж сьмех,—згадзіўся Вінцусь.—Каб каму сказаў, дык не паверыў-бы. Сустрэліся, пагутарылі троху і пасябравалі, а адзін аднаго ня ведаем.

Цяпер абое адчувалі сябе зручней, вальней. Адась заглядзеўся на карту, што вісела над канапай.

У чорных касьцяных рамках мясьцілася картка шырокаплечага паголенага мужчыны. Выглядаў мужчына дужым і не старым яшчэ, і Адась падумаў, што пэўне гэта Вінцусёў бацька і што ён пэўне маладзей за маці. У маці багата глыбокіх зморшчын на твары і галава ў сівых валасох. Ён узьняўся з крэсла, падыйшоў да канапы і спыніўся, каб уважлівей агледзець картку.

— Твой бацька, відаць, вельмі дужы чалавек,—сказаў ён.

Тады Вінцусь стаў побач з ім і вытлумачыў:

— Бацьку летась забіла на заводзе. А быў дужы, ого!..

З кухні прышла маці.

— Вось і вечар,—сказала яна, прыбіраючы посуд.—Дзень пакуль пратупаеш, дык і ногі і ўсё баліць. І каб яшчэ хто ў хаце быў, а то-ж адна,—паскардзілася яна.—Сядзіш і чакаеш вечару, калі ён прыдзе.

Сын усьміхнуўся. А Адась заўважыў, што разам са старой прышла у пакой шэрасьць кароткага восеньскага вечару. Яна зьнізіла столь у пакоі, адсунула ў бакі сьцены і шчыльней саставіла па кутках хатнія рэчы. Так іх, зусім па іначшаму ўбачыў цяпер Адась. І яшчэ цяпер ён услухаўся ў вячэрнюю цішыню. Цішыня авалодвала ўсім. У цішыні асобныя гукі як ніколі выразна даходзілі ў пакой і ўрэзваліся ў памяць. У гары, над стольлю, хадзіў нехта цяжкі ў ботах і раз-по-раз глыбока ўздыхаў. Пад нагам і ў яго дзеці рассыпалі драўляныя вытачаныя цацкі. Цацкі падалі на падлогу і са стукатам каціліся па ёй у розныя куты пакою, што быў у гары.

Цяжкія чалавечыя крокі і ўздыхі параджалі ў Адася сум, і ён сказаў да Вінцуся:

— Давай пойдзем ужо, гэта далекавата.

— Ну давай, давай,—засьпяшаўся Вінцусь.—Давай, а то я гатоў задрамаць, так ціха ў нас.

Праз хвіліну хлопцы былі на вуліцы.

*

Цёмна, ціха і пуста ў вуліцы. І крокі ў цішыні, у пустэчы чоткія, далёка чуваць.

Насустрач ідзе пара, хлапец і дзяўчына. Яны абое косяць няпрыкметна ў бок да Вінцуся погляды і, падаўшыся крышку ў бок, аглядаюць яго. Вінцусь ловіць іхныя погляды,

пазірае проста ў твар ім і ветліва ўсьміхаецца. У яго цяпер добры настрой, і ён хацеў-бы сказаць гэтай пары нешта добрае. „Вось так, каб зайшоў наперад, паклаў ім на плечы рукі і сказаў... Але тут-жа ён дакарае сябе:—ну і надумаўся, называецца; сказаў-бы што, а тыя чорт ведае што падумалі-б, яшчэ пакрыўдзіліся-б, вылаялі-б.

І ён ідзе далей, слухаючы свае крокі, адрозьніваючы іх ад чужых, тых, з кім разьмінуўся толькі што. Яшчэ чуваць, як шоргаюць па асфальце іхныя ногі, але гукі іхных крокаў слабеюць, згладжваюцца, і хутка ён перастае ўспрымаць іх. І тады ён слухае толькі свае крокі. Ногі ступаюць лёгка і ў кроках імкнуцца захаваць знаёмы ўжо рытм.

Ад вулічнага спакою прышло лёгкае забыцьцё. Вінцусь не адганяў гэтага забыцьцьця, нават рад быў яму.

...Тая, якую звалі Марысяй, паклала шырока далонь на струны, і гітара замоўкла. Спынілі скокі. Сябра Адасеў апавядаў пра стачку на іхным заводзе. А потым зноў іграла Марыся. Іграла і з гітарай пела. Песьня была задужа знаёмай Вінцусю, але ён адразу ня мог прыпомніць песенных слоў. Потым услухаўся ў мэлёдыю песьні, пачаў прыпамінаць яе, чутую дзесьці раней некалі, а прыпомніўшы пра сябе, уторыў Марысі. Потым ён нават сам гэтага не заўважыў, падыйшоў бліжэй, абапёрся локцямі на Адасева крэсла за плячыма ў яго і тады зусім выразна пачуў свой голас. Ён пеў. Пеў голасна. Сам разабраў словы:

На барыкады люду рабочы.
Чырвоны штандар до гуры ўзьнесь.

А Марыся ветліва, шырока заўсьміхалася насустрач яму і, выбіваючы такт песьні нагой, няпрыкметна адклала гітару, радасна замахала рукамі, кіруючы песьняй, у якую ўплялося і яшчэ некалькі ціхіх галасоў. За Марысінымі рукамі, сьледам за рухамі іхнымі рос, дужэў Вінцусёў голас.

Жар іскры тэй!—чуў свой голас Вінцусь і гэтак-жа радасна і шырока ўсьміхаўся да Марысі.

Прайшлі, пазіраючы на Вінцуся, яшчэ адна пара і яшчэ.

На скрыжаваньні вуліц калыхнуўся ад лёгкага ветру ліхтар на слупе, павярнуўся ў твар да Вінцуся, дапытліва аглядзеў яго. За ліхтаром цень Вінцусёва ажыла і захісталася на тратуары. Цень рытмічна гойдаўся ў бакі, выцяг-

вауся на ўсю даўжыню тратуара, вырастаў на сьцяне камяніцы і галавой нік у цемры, ідучы наперадзе ад Вінцуся, на сваіх даўгіх нагах.

Вінцусь усьміхнуўся.

„Вось і добра,—сказаў ён сам сабе.—Вельмі добра, што так выйшла.

*

Далей было так:

Адась ад самай заводзкай брамы ішоў у натоўпе рабочых, курыў і, паволі перастаўляючы ногі, час ад часу пазіраў у бакі, кагось шукаў поглядам і ўслухоўваўся ў гутаркі.

Непадалёк ад трамваю яго нагнаў Вінцусь. Ён няпрыкметна кіўнуў галавою і пашоў поруч. І адразу-ж папрасіў закурыць.

Як закурвалі, крыху затрымаліся. Адась выняў з кішэні невялічкі папяровы скрутак і разам з папяросамі перадаў яго Вінцусю.

— Вось тут усё, што мы абяцалі, рэшта, справа вашая.

— Усё будзе як сьлед. На заводзе вялікае нездавальненьне рэдукцыяй. Лісткі сымпатыкі заўтра-ж раскідаюць, і мітынг будзе толькі завяршэньнем таго, што ёсьць. Я даю слова, што першага жніўня мы будзем баставаць.

Вінцусь хваляваўся і гаворачы ня мог схаваць радаснай і ганарлівай усьмешкі.

— Гэта вельмі добра,—сказаў Адась.—Новых дырэктыў пакуль ніякіх. Трэба абявязкова арганізаваць сымпатыкаў для абароны ад шпіцляў і транспарант з лёзунгам супроць рэдукцыі. Пакуль і ўсё. Я пайду наперад і паеду першым вагонам. Ты паедзеш наступным.

— Разумею. Будзь здароў.

У вагоне было цеснавата. Адась стаяў за плячыма высокага рабочага і з-пад пахі ў яго сачыў за тым, што рабілася ў вагоне.

Як садзіліся, адзін падняў з лаўкі згорнутыя ў пачок лісткі. Два лісткі ён перадаў суседзям, а адзін няпрыкметна засунуў сабе ў кішэнь. Адзін з тых, хто ўзяў лісток, адразу-ж пусьціў яго за вакно. Папера мільганула за вакном, пакружылася ў паветры і зьнікла за вагонам. А трэці лісток прачыталі. І як прачыталі, адзін з рабочых сказаў:

— Усё правільна, варта-б арганізавацца, толькі хто ў нас будзе рабіць гэта? Тут слова ня так скажаш і то ф'юць, а каб арганізоўваць, гэта ўжо сур'ёзьней, чым адно слова...

І ён змоўк.

Вагон уздрыгваў, зьлёгку гойдаўся, бразгаў жалезам і густа зьвінеў, перасьцерагаючы вуліцу і завулкі. І скрозь званкі і бразгат Адась яшчэ чуў абрыўкі гаворак у вагоне. Гаварылі пра знойдзены лісток. Але з тым, як набліжаўся трамвай да цэнтру, усё менш і менш заставалася ў вагоне рабочых і ў напалову апусьцелым вагоне седзячы непадалёк ад выйсьця, Адась прыкмеціў на сабе ўважлівы погляд аднаго з пасажыраў.

Зьявілася трывога. Разумеў, што трэба падрыхтавацца і няпрыкметна зьнікнуць з вагона. Меркаваў, як-бы зрабіць гэта і, пазіраючы ў вакно, сачыў за пасажырам.

Калі вагон наблізіўся да першага прыпынку, дзе ў вуліцы быў вялікі натоўп, пасажыр падаўся да задняй пляцоўкі, а Адась пашоў наперад, каб першым выйсьці з вагона.

А выходзячы з вагона, Адась пазнаў чалавека ў лёгкай, табачнага колеру кэпі ўклетку.

— А-а, мой стары знаёмы!—чалавек у кэпі зласьліва ўсьміхнуўся і заківаў галавою.—Вельмі рад такому спатканьню,—сказаў ён.—Ну, якія-ж посьпехі ў пана?

— Я вас ня ведаю,—зьдзівіўся Адась.—Пра што вы гаворыце, я не разумею вас, пане!

— О, гэта зусім ня так важна, што пан мяне ня ведае і не разумее. Гэта зусім ня так важна. Важна, што я пана добра ведаю і разумею. І я прашу пана камсамольца пайсьці за мной вось сюды, зусім блізка адгэтуль...—Ён на хвіліну змоўк.

Цяпер Адась убачыў побач і пасажыра, які сачыў за ім у вагоне. Пасажыр стаяў гатовы дапамагчы чалавеку ў кэпі.

— Н-ну, проша, проша пайсьці за мной,—паўтарыў чалавек у лёгкай, табачнага колеру кэпі ў клетку і ўзяў Адася за локаць.

Побач з імі пашоў і той, што быў у вагоне.

**Менск**, сьнежань 1932 году.

Б. ЛЕАНІДАЎ

# ВЕЧАР У ТАКАРНЫМ

Ліся радасьць песьняй звонкаструннай...
Гэта я сюды прынёс с сабой,
Ад юнацтва плённы падарунак,—
Шчырасьць сэрца, палкасьць і любоў.

Мне ня трэба кволая ўцеха,
Мне ня трэба „слодач" слоў пустых.
Пакахаў ад сэрца гэты цэх я,
Працу і рабочы калектыў.

І калі гудок прабурапеніць,
І напомніць гэтым мне чарод,—
Я прыходжу на другую зьмену
Да цябе, ударны наш завод.

І цяпер ў вясёлым захапленьні
Я прышоў дзе калектыву моц.
Па станку, таварыш мой, Варэнік,—
Кажа мне:—Пазыцый не здамо!..

Помні, дружа, ты сваю умову,—
Не здарма ўключыўся ў штурм завод.
—Я клянуся камсамольскім словам,
Наш, такарны, возьме пяршынство!

...Я кранаю пас рукой умелай:
Засьпяваў на ўсе лады станок.
...А знадворку вечар закапцелы
Бязупынна лезе ў вакно...

А ў такарным—з ціхаю гамонкай
Кружацца балванкі па крысе.
А ў такарным—шопат шасьцяронак,
І разец мэталь грызе... грызе...

А як скончым працу—ў захапленьні—
Па-сапраўднаму, (урачыста так)
Скажа мне, таварыш мой, Варэнік:
— Прывітаньне палкае, юнак!..

Менск.

П. ШВЭНДЭЛЬ

# СКЛАДАНАЯ СПРАВА

— ...ваенны трыбунал ў складзе: старшыні Кірылава, членаў—Зайцава і Шаліма, пры прадстаўнікох: дзяржаўнага абвінавачваньня—Емельчуку і калегіі абаронцаў—Вэльцеры. Абвінавачваны! Супроць складу трыбунала маеце што небудзь? Можа ў каго з членаў трыбунала асабістыя рахункі з вамі, што можа мець уплыў на прысуд? Адказвайце!

— Н-не.

Вечар загнаў сонца на край неба, і, адступаючы, яно падпаліла аблокі. Яны гараць, нібы сухія стагі сена ў позьнюю асеньнюю пару. Але ня суняць гэтым упартага наступу вечару. Цямнее сонечная пазалота на верхавінах дрэў. На зямлю шырокімі, сьмелымі мазкамі кладуцца цені.

Паседжаньне ваеннага трыбуналу адбываецца пад трымя хвоямі, што мужна выступілі ўперад па пляцоўку, адлучыўшыся ад густых шэрагаў лесу. За шырокім, засланым чырвонай палатнінаю сталом, шэсьць чалавек разьбіраюць справу сёмага.

Чырвонаармейцы паселі проста на зямлі, а каторыя і стаяць. Сярод іх і закопчаныя ў зашмальцаваным абмундзіраваньні кулямётчыкі, і гонар палку—снайпэры, і чырвонаармейцы роты сувязі, якіх лёгка пазнаюць па белых скрыжаваных лініях на нашыўках... Усе яны запоўнілі пляцоўку, над якой ўсплывае гоман гаворкі, заціхаючы тады, калі падсудны адказвае на запытаньні старшыні.

— Значыцца вы адмаўляецеся назваць прозьвішча таго, хто вас падбухторыў на гэтую справу?

— Я ўжо сказаў, што ня ведаю,—упарта гаворыць Мікола Валуга і старанна разглядае свае боты.

„... Ён Зайцаў ці Шаліма?—зьбянтэжана думае Мікола:— Пастой... Яе-ж гэта прозьвішча! Чаму-ж ён жыве пад яе прозьвішчам?..“

„Чаму ён ня хоча сказаць?—разважае старшыня, паклаўшы голеную галаву на далоні рук.—Нібы палохаецца чагосьці. А можа ён зусім выдумаў гэтую гісторыю—хоча зваліць з сябе віну? З сваякоў хтосьці параіў....“

— У вас браты ёсьць?

„Зараз скажа!—Камандзір аддзяленьня Пятрусь Зайцаў, нядаўна абраны судовым заседацелем і ўпяршыню выкліканы па гэткай справе з Менску, ня можа ўседзець на месцы,—вось паскуда!“

Мікола падымае вочы ад зямлі і, ўбачыўшы злосны твар Зайцава, дастае з нутра ня зусім разумны адказ:

— Чатыры—жанатыя, трое—халастыя. У арміі пяць былі,— не чакаючы, пакуль старшыня запытае, гаворыць ён.

— Ну і як: з імі таксама здараліся гэткія гісторыі?

— Ды не!

„Сядзіць і хоць-бы што“...—Думкі, як гарох, скачуць ў галаве ў Міколы.—„Хоць бы знак які падаў. Засудзяць-жа“...

Ён сустракаецца з вачыма Зайцава і не знаходзіць у іх нічога добрага.—Якім быў, такі і застаўся, надумвае ён, хаваючыся глыбей у шынэль, каб пазбавіцца раптоўнай дрыготы.

— Як-жа будзе, Валуга? Самі кажаце, што ён кулак ўсёткі хаваеце яго? Ну, сьмялей, як яго прозьвішча?

— Ды хіба я хаваю! Забыўся, ня то Каралёў, ня то Стракуноў, а можа Сокалаў?—успамінае Мікола.

— Бач, які хлапец,—дзівіцца нехта з чырвонаармейцаў,— хоць у сьвятыя залічы яго.

— Цаца!—сьцьвярджае другі.

„А Собалеў—сукін сын, сволач... пачуцьцё крыўды расьце, і Мікола падбірае самыя ганебныя мянушкі.—„Пашлюць да хаты“—гаварыў. А куды далей—ня хочаш? Хоць бы ў кампаніі з табою...“

„Як гэта ён улез ў такую справу?—Панурая постаць падсуднага турбуе Зайцава.—Дурань!“

— „Трэба канчаць, нічога ад яго не даб'ешся“—вырашае старшыня і, азірнуўшы па чарзе двух членаў трыбуналу, пытае ў іх:

— У вас пытаньні да падсуднага ёсьць?

Зайцаў устае і зноў сядае, і, ня ведаючы, што рабіць з рукамі, валіць іх на стол.

— Скажыце, Валуга...

Мікола ўстае, і адзін з канвойных, больш востры на вуха, чуе шэптам сказаныя словы:

— Ня лезь, Пятрусь! Чаго табе яшчэ тут! Кінь!

*

За два гады жыцьця ў арміі, дзе ён зьбіраўся і застацца, падаўшы заяву аб звыштэрміновай службе, Пятрусь не парываў сувязі з камсамольскай ячэйкай вёскі Ляхава, што некалі аднагалосна ўзьняла рукі, прыймаючы яго ў камсамол. Ад яго ячэйка даведвалася пра цяжкую напружаную вучобу, пра тое, што ён узяў першае месца па конкурсу на лепшага стралка ў палку, пра тое, што яму даручылі камандваньне аддзяленьнем снайпэраў. Адказваў у лістох на запытаньне камсамольцаў, як паступіць у вайсковую школу, даставаў па просьбе ячэйкі літаратуру па лёнаводнай справе... Яны ў сваю чаргу пісалі, што ў сельсавеце заканчваецца суцэльная калектывізацыя, а ў ячэйку зноў падалі заяву чацьвёра чалавек, што бацька яго ўступіў урэшце ў калгас. ...„Можа варта было-б напісаць яму, Пятрусь? Стары шмат у чым зьмяніўся, а на яго гледзячы, і іншыя аднаасобнікі паварачваюць аглоблі да нас...“

Добра параіць—„напішы“. А як забыцца на ранейшае?

Балючыя ўспаміны заўсёды пачыналіся з таго вечару, калі ён, шчасьлівы і ўсе-ж з пачуцьцём нейкай няёмкасьці, ўвайшоў сьледам за Галяй у сельсавет.

— Генэральнаму сакратару Ке-Эс-Эм маё...—Сакратар сельсавету—комсамолец Арцюх—нудзіўся за нейкімі паперамі адзін у пакоі і вельмі ўзрадваўся іхнаму прыходу.

Пятрусь сарамліва папрасіў яго:

— Запішы нас, Арцюх!

— Чаго?—утаропіўся ў іх Арцюх. За вакном мільганулі людзі, і ў пакой ухмыляючыся ўвайшлі два камсамольцы.

— Запішы, Арцюх!—пацьвердзіла Галя.—Вось і сьведкі.

Пакуль Арцюх даставаў з шафы патрэбную кнігу і дзіваваў, калі гэта яны пасьпелі надумацца, прышлі дзяўчаты, заехалі па справе ў сельсавет некалькі фурманак. Такім

чынам пры даволі вялікім зборы Арцюх пачаў запісваць весткі пра маладых. Усё ішло, як, звычайна, пакуль ён не запытаўся:

— Пад якім прозьвішчам запісаць вас?

Яшчэ ня было такога выпадку, каб не прагучэў сарамлівы дзявочы голас:

— Няхай ужо будзе яго.

На гэты раз вышла інакш:

— Што ты, не раўнуючы, як дзяк усё па старому? Пішы: Пятрусь і Галя Зайцавы. Супроць ня маеш?—абярнулася яна да яго.

Зьбянтэжанага Пятруся канчаткова дабілі выбухам рогату.

— Вось гэта жонка будзе!

— Прапаў Пятрусь!

— Няхай будзе вядома:—адкінуўшы кнігу ў бок, Арцюх устаў і ўрачыста пракашляўся:—Пятрусь—сакратар камсамольскай ячэйкі,—гэта значыць правадыр працоўнай моладзі граза кулакоў...

Выпі вады!

— ...І Галя, настаўніца Ляхаўскай чатырохгодкі, культпроп'ячэйкі і правая рука Пятруся...

— Рэглямант!

— ...З сёняшняга дню лічацца афіцыйна мужам і жонкай Ам... Выбачайце... Ур-ра!

Вячорка адбылася ў школе. Да гэтага Пятрусь зайшоў быў у хату. Бацька, убачыўшы яго, яшчэ ніжэй схіліўся над ботам, які латаў. Браты, што елі з аднэй міскі капусту, глянулі на яго нібы на чужога цікавага чалавека. Толькі маці, хаваючы ад яго твар, запыталася:

— Есьці будзеш?

— Не.

— Што ты яго частуеш капустай?—Стары ўскочыў, згубіўшы ўсю сваю абыякавасьць.—Яго настаўніца лепшым пакарміла, ня бачыш?

— Кінь ты ўжо чапіцца, вось чалавек. Не хачу я есьці, Да таго-ж у мяне вячорка,—сёньня з Галяй запісаўся. Чым лаяцца ідзіце лепш туды.

— Гэта як—запісаўся?

— А як усе—у сельсавеце. Галя цяпер мая жонка.

— Каб цябе!..

... У школе ўжо хрыпеў гармонік, а Пятрусь парадкаваў сябе тут-жа побач, у пакойчыку Галі. Трэба было зашыць кашулю, памыцца, пачакаць, пакуль рукі перастануць дрыжэць.

А поўначы, калі пачало адчувацца самагоннае піва, Пятрусь зноў стаў хмурнець. Каля яго сабраліся самыя блізкія таварышы.

— ...Шапталіся з кулакамі ў нашай хаце—цярпеў, у калгас не пайшлі—стараўся словам узяць, самому спакою не давалі—усё не зважаў. А за тое, што Галю пакрыўдзілі—ніводзін ня прышоў сюды—за гэта я ім успомню. Нічо-га... І ён пайшоў да Галі, якая зацягвала:

Как родная меня мать...

Гарманіст разьвёў мяхі і ўсе падхапілі:

...провожала!

Шкло ў вокнах аж зьвінела ад напору галасоў, ды і ня дзіва, на вячорку сышлася амаль уся моладзь—ляхаўцы, ды яшчэ і з суседніх вёсак прышлі.

Тут я матушке родной поклонілся.

— Хлопцы! Стой!
— Цішэй!
— Хто гэта там?
На сярэдзіну выбіўся Арцюх.
— Сельсавет падпалілі.
— А-а-а!
— Хлопцы, сюды!
— Сволачы!
— Пяты раз на гэтым тыдні гарыць.
— Кулаччо праклятае!
— Галька, я пабег!
— Пачакай!
— Гавораць, бачылі Собалева там.
— Факт: ужо без яго не абыйшлося.
— Растраляць гада!
— Ён і вёску мучыць.
— Не адставай!
— Ланцугом, ланцугом давайце! Ад самага калодзежу!

Па чорнай ночы і шчодра мазанулі чырвонай фарбай; з вышыні капалі іскры на зьмятушоны народ. Разгонна

гойталіся вёдры на ланцугу з чалавечых рух. Аднак хутка людзі ўбачылі, што іхныя патугі не даюць вялікай карысьці, нечага было і думаць, каб ратаваць старую высушаную гадамі хату; выпадала адно—паклапаціцца, каб агонь не перакінуўся на суседнія стрэхі.

Нехта зноў успомніў:

— Собалева гэта справа, ня інакш.

— Гэта што-ж іх кампанія думае: усю вёску зьнішчыць? Словы захлыналіся ў моцнай роспачы.

— Арыштаваць яго і канец...

Невялічкі гурток адарваўся ад натоўпу. Вось яны пераступілі мяжу, за якую бляск полымя не дасягаў. Яны ўжо зьліліся з цемрай, толькі белая сукенка Галі яшчэ некалькі сэкунд была відаць.

Хапаючы поўныя вёдры з вадой, Пятрусь спачатку нічога ня прымеціў, толькі, калі ў гоман людзей, у трэск пажару клінам ўвайшоў стрэл, ён трывожна азірнуўся. Вёдры загойталіся павальней. І раптам чорная зяпа начы выплюнула чалавека:

— Собалеў Гальку забіў.

*

Гэткую ноч нельга забыць. Кроў і агонь вельмі моцнае злучэньне, каб хутка вывеяцца з памяці. Таму, нечакана ўбачыўшы Собалева на заводзкім двары, Мікола аслупянеў.

Віцька перастаў штурхаць ваганэтку. Быццам нічога ня звычайнага няма, прывітаў:

— Як жывеш? Гэта ты ў лік тых рабочых, што калгас абяцаў заводу? А хто яшчэ тут?

Відавочна адказ яго вельмі цікавіў.

— Пятрусю рад будзеш?—ашчэрыўся Мікола.

— Не, бяз жартаў.—Віцька непакойліва азірнуў двор.— Скажы, хто яшчэ з табой?

— Тут адзін я. Іншыя будуць вазіць цэглы на новы корпус.

— А-а! Слухай, праз поўгадзіны перапынак. Прыходзь у сталоўку адразу як гудок, трэба пагаварыць з табою. Ты дзе працаваць будзеш?

— А ня ведаю яшчэ. Вось іду ў кантору—дзе гэта?

— Ды вунь каля плоту гэта. Дык ты прыходзь—чакаць буду!.. Ён паклаў рукі на ваганэтку, нагружаную неапрацованымі дэталямі, і моцным штуршком рушыў яе з месца.

„Дужы“!.. пазайздросьціў яму Мікола.

Праз поўгадзіны ён увайшоў у сталоўку. Сярод чорных і сініх спэцовак ён кідаўся ў вочы сваім напалову вясковым адзеньнем. Яму стала прыкра пад позіркамі рабочых, і ён ужо ладзіўся выйсьці, аж яго гукнулі:

— Чаго гэта ты?—гаварыў Віцька, содзячы яго на раней занятае крэсла.—Вазьмеце талёны!—паклікаў ён жанчыну ў белым.

Мікола выняў грошы. Віцька адхіліў яго руку:

— Пасьпеем разьлічыцца.

Яны папалуднавалі хутка, але Віцька так і не пагаварыў з Міколай. У сталоўцы адбыўся мітынг, прысьвячаны падпісцы на пазыку „3-га, вырашальнага году пяцігодкі“. Віцька пашкадаваў:

— Ня ўдасца нам з табою пагаварыць. Ведаеш што—пойдзем да мяне сёньня. Між іншым, што табе сказалі ў канторы? Разам са мною, значыцца? Гэта добра. Са мной не прападзеш! Значыць, дамовіліся: пасьля работы я па цябе зайду—пойдзем да мяне, а заўтра з раніцы будзем ужо працаваць разам.

Міколу хацелася адмовіцца, але далікатнасьць, з якой абыходзіўся з ім Віцька, і абед, за які ён так і не заплаціў, перашкаджалі гэтаму.

Увечары ён апынуўся ў маленькім чыстым пакойчыку. Над акуратна прыбраным ложкам да сьценкі было прышпілена колькі паштовак з спартыўнымі малюнкамі. Між іх Віцькава фотографія—у трусіках і баксэрскіх пальчатках. На сталe, засланым каляровай паперай, знаходзілася: некалькі кніжак па фізвыху, пачатая бутэлька віна з насунутай на яе шклянкай, флякон одэколёну і пушачка пудры. Стаяла яшчэ невялічкае люстэрка, перад якім Віцька круціўся, завязваючы шаўковы гальштук.

— ...Мяне гэта не датычыцца. Усе ведаюць, што за апошні час я дома ня жыў, а ў тую ноч маім духам нават ня пахла на вёсцы. Бацька здурнеў, няхай і адпачывае ў Салаўках, а з мяне даволі, што з тэхнікуму выключылі. Я цяпер

працую і таму... Пад мяне не падкапаюцца... Убачым, яшчэ скора ў камсамол запросяць, сакратар ужо гаварыў са мной.

— Брэшаш!

— А ты, што—камсамолец?

— Не.

— Чаго-ж ты ўсхапіўся, як падсмалены?!

— Так. А толькі такіх у камсамол ня прымаюць.

— І ня трэба,—уступіў Віцька. Думаеш, бяз гэтага не пражыву? Папрацую тут яшчэ гады са два, а тады...

Твои глаза—как небо голубое
Та-та! Та-та! Та-та! Та-та-та!

— Хочаш, з дзяўчатамі пазнаёмлю. Зараз і пойдзем.

— Не, я да хаты пайду.

— У інтэрнаце цяпер пуста, хто ў такі вечар будзе сядзець у хаце? Хадзем—не пашкадуеш!

— Не—пайду.

Аднак праз нейкі час, калі Віцька паўтарыў запрашэньне, Мікола не адмовіўся. За гэтыя дні ён аж высах ад нуды. Работа адбірала сем гадзін, спаць ён мог ня больш, як дзевяць гадзін, а рэшту часу ён ня ведаў, што рабіць. Знаёмых, таварышоў у горадзе ня было, у інтэрнаце было брудна, цёмна... Першыя дні ён хадзіў па вуліцах, глядзеў у вітрыны, але неўзабаве яму гэта надакучыла.

У той вечар Віцька зрабіў дакладны агляд яго.

— Боты ў цябе спраўныя—пачысьці толькі. Штаны таксама. Кашулю скінь—надзень маю. Гальштук таксама патрэбен. Шапкі ня трэба—ў цябе валасы нішто. На мыла—памыйся...

Большасьць з таго, што адбылося на вечарыне, Мікола запамятаў, бо вярнуўся да хаты п'яны ўшчэнт. Спачатку Віцька, здаецца, знаёміў яго з нейкімі: Валянцінай, Максімам, Жоржам, Раісай, Мурай... Гулялі нібы ў нейкія гульні, у выніку якіх усе перацалаваліся. Потым пасылалі кагосьці па віно, і тут Мікола добра памятаў, што зьдзівіўся, калі Віцька выняў бумажнік; нешта замнога грошай было ў ім. Аднак доўга гэты ўспамін Мікола ў галаве ня трымаў.

Віцька запрашаў яго на такія гулянкі усё часьцей. Неяк завялося, што ён перапранаўся ў Віцькіна, нібы ў сваё

ўласнае, дазваляў плаціць за сябе ў рэстаране, якія яны часта наведвалі. Яму падабаўся Віцькін пакойчык, дзе ня рэдка грала гітара, а то і гармонь, дзе спрачаліся, хто пераможа ў чарговым футбольным матчы, ці кахае Макс Раісу, ці не, якая прычына таго, што ў кіно ня пускаюць фільм з удзелам Гарры Ллойда і дзе можна лепш зарабіць: у Маскве, ці ў Ленінградзе?

Калі Мікола канчаткова ўцягнуўся ў гэта жыцьцё, між ім і Віцькам адбылася гутарка зусім не падобная да ранейшых.

„Вось у чым справа"!—Мікола палахліва адхіснуўся.

— Як сабе хочаш,—пагардліва гледзячы на яго, сказаў Віцька,—ня ўздумай толькі даказаць: першы ўліпнеш.

Гутарка адбылася па дарозе з работы. Не разьвітваючыся, Віцька ўскочыў у трамвай.

Тыдні тры Мікола трымаўся. Звыкнуўшы жыць больш шырока, чым дазваляла зарплата, ён, прагуляўшы палучку за першыя дні, потым галадаў, пазычаючы ў каго рубель, а ў каго два.

Нарэшце ён здаўся. Зайшоўшы да Віцькі, ён кінуў на ложак некалькі сьвярдзелкаў, мечыкаў і штангель-цыркуль.

— Вось і маладзец!—Віцька засьмяяўся і хляпнуў яго па плячох.—Вып'ем сёньня.

Праз гадзіну на стале стаяла бутэлька каньяку і, захмялеўшы, Віцька сьпяваў:

Живи, пока живется...

Мікола піў моўчкі.

Яшчэ праз гадзіну ён плакаў і лез да Віцькі біцца. Той, ані не пакрыўджаны, супімаў яго.

— Гадзюка ты, Віцька,—усхліпваў Мікола.—Возьмуць нас калі небудзь...

— Не павесяць!

А поўначы настрой у Міколы ізноў зьмяніўся, і, канчаткова п'яны, ён пяшчотна абнімаў больш цьвярозага Віцьку.

— Ярунда, Віця! Пляваць! Усё роўна ў армію пайду...

— А ты, любы, ня ідзі, ня ідзі!

— Не, пайду. Вось Пятрусь пайшоў; кажуць, хутка камандзірам стане.

— Дык гэта Пятрусь...

— Тое самае. Ты ня думай, Віцька...

— Ды йдзі—патрэбен ты мне. Я толькі кажу, што разам зажылі-б—уга! А ў арміі далібог прападзеш.

— Брэшаш!

— Дабра зычу табе!

Ён нахіляецца, амаль падае на Міколу і, пырскаючы сьлінай, шэпча яму нешта.

— Не хачу.

— Як хочаш. А можа даць? Капнеш на нагу і усё. Пратрымаюць з месяц ці два і выправяць назад. Зажывем мы з табой тады, Колька! Ух!

Последний нынешний денечек!..

— Ня крычы, дурань!

Да вакна, зазіраючы ў пакой, прытуліўся золак.

*

Вецер гуляе ў сасоньніку, згінае маладзейшыя, трасе старэйшыя, ніводнаму дрэву не дае спакою.

Людзі сыйшліся шчыльней адзін да аднаго, стаяць нярухома, слухаюць прадстаўніка дзяржаўнага абвінавачваньня. Часам яго зусім ня чутно за лямантам ветру, часам сам вецер прыслухоўваецца да яго голасу, і тады словы падаюць ясна, выразна, як вайсковая каманда.

— ...Павінен быць клясавы падыход у гэтай справе. Але што значыць клясавы падыход, таварышы судзьдзі,—абвінавальнік азірае кожнага з бліжэйшых радоў.—Клясавы падыход значыць—абараняць інтарэсы ўсяе клясы ад злачынных дзеяньняў таксама і паасобных членаў гэтае клясы.

Даны выпадак патрабуе пільнага клясавага падыходу. Калгасьнік, якому рабочая кляса даверыла зброю, заклікаўшы яго ў шэрагі Чырвонай арміі, калечыць сябе, выводзіць сябе з гэтых шэрагаў. Па яго ўласнаму паказаньню, яму параіў гэта кулак. А прозьвішча кулака, прозьвішча ворага, які пашкодзіў нам, можа і зараз шкодзіць, прозьвішча таго, хто даў яму бутэльку з едкай вадкасьцю, абвінавачаны ня хоча сказаць. Ці ня ёсьць гэта сьвядомае злачынства, за якое мы павінны жорстка пакараць?

З-за дрэў высунуўся месяц падзівіцца, што гэта ў такі позьні час адбываецца ў лягеры. Ён зазірнуў у твар сябру трыбунала Зайцаву. Той адвярнуўся.

„Шкада хлопца,—Пятрусь цісьне сабе пальцы, разьдзіраючы скуру ў кроў,—каб ведаў, хто гэта падсунаў яму...“

Месяц прымусіў і Міколу выкупацца ў ягоным сьвятле. Маленькі, ён зусім схаваўся ў сваёй шынэлі і глядзеў уважліва слухаючы ўсё, што гавораць пра яго асобу. Махорачны дым, на які ён дагэтуль ня зьвяртаў ўвагі, цяпер раздражняў яго.

— Схавай назад. Нельга!—Канвойны нездаволена глядзеў на пальцы, якімі Мікола скручваў сабе папяросу. Яна затрымалася на далоні, потым ўпала пад ногі, дзе боты ўтапталі яе ў зямлю.

Гаварыў абаронца, а Мікола думаў сваё:

„Засудзіць і носам не чмыхне. Трэба-ж мне было ўлезьці ў гэткую справу! А Віцька цяпер гуляе сьцерва... Каб знаў Пятрусь, што ён...

— ...Яго трэба пакараць. Пытаньне толькі якой мерай сацыяльнай абароны. Трэба ўлічыць, што перад намі ня вораг, а цёмны чалавек, якога кулак скарыстаў супроць нас, і які сваё злачынства адразу прызнаў. Трэба сказаць, што справа, якую мы разьбіраем, досыць складаная; мы ня ведаем усяго таго, што павінны былі-б ведаць і што дало-бы справе можа зусім іншы характар. У кожным выпадку кара, якую суд вызначыць абвінавачанаму, не павінна быць карай супроць сьвядомага ворага.

Старшыня трыбуналу пачакаў, пакуль абаронца адыйшоўся ад стала, і тады ўстаў.

— Абвінавачаны Валуга, вам даецца апошняе слова. Маеце што сказаць?

Мікола, стоячы, задумаўся:

— Што-ж гаварыць... Вінен я... Дайце кару... Толькі пад канвоем каб мяне доўга не цягалі—не магу я,—хмура папрасіў ён.

Быў абвешчаны кароткі перапынак. Чырвонаармейцы шумна загаманілі пра суд:

— Хлопец хітры!

— Зануда нейкая. Хай-бы гэта мне параілі за такую справу ўзяцца. Згубіць нагу, дык і будзе ведаць.

За сталом тры галавы скаціліся ў адну кучу. Нарада не забрала многа часу.

— Устаць!

Стала зусім ціха. Старшыня, нахіліўшыся блізка да газоўкі, марудна зьбіраў з паперы словы.

— ...Прысуджваецца... пяць год...

Пастанова можа быць аскарджана на працягу 72 гадзін. Абвінавачаны, зразумелі пастанову?

Зразумеў—стараючыся не ляскаць зубамі, адказаў Мікола.

Чырвонаармейцы разыходзіліся. Адзін з канвойных, увесь час неспакойна пазіраючы на абвінавачанага, на Зайцава, урэшце адважыўся, і калі камэндант суду падышоў да іх, прашаптаў яму нешта.

Той, зацікаўлены, засьпяшаўся да старшыні. Старшыня гутарыў з камісарам палку, але, выслухаўшы камэнданта, паклікаў:

— Таварыш Зайцаў!

І калі той падышоў:

— Вы знаёмы з падсудным?

Старшыня падазрона глядзеў на Зайцава.

Зайцаў адказаў:

— Гэта мой брат...

---

# ЭПІГРАМЫ

Яшчэ нам шкодзіць шмат—каля
Літаратурная трухля.
Плённай творчай працы для—
Час іх—колкім венікам
Далей ад пісьменьніка!

*А. Александровіч*

**На М. Хведаровіча**

Баталійны вэнігрэт
На музэйных трактах.
Істэрычны б ы ў паэт,
Ціхі с т а ў рэдактар.

*М. Багун*

*А. С. СЕРАФІМОВІЧ*

# У НУМАРЫ

*Гэта апавяданьне перадае шэраг момантаў сапраўднага жыцьця А. Серафімовіча, якраз той пэрыяд, калі пан ваньне рэакцыі паставіла мастака-рэвалюцыянэра ў становішча да пэўнае ступені „лішняга“ на фоне росквіту Зайцавых, Салагубаў і інш. Напісана ў 1910 годзе.*

Вакно ў маім нумары выходзіць у жоўтую, тупую, што ўверсе прападае, сьцяну. Яна ўся чарнее безьліччу вакон.

Глыбока ўнізе чарнее асфальт двара, і ходзяць маленькія людзі... З левага боку сьляпая, без вакон, нізкая сьцяна стайняў.

Адзінокае, дзіўна скрыўленае, выцягнуўшы чорныя сукі, сярод асфальту мураваных сьцен бясплённа стаіць дрэва. Яно праз нейкае цуда асталося цэлае тут, як здань, як цёмны, напалову забыты ўспамін, нярухомае, бязьлістае, як-бы ў роспачы заплюшчыўшы вочы.

У мяне камода, стол, ложак, два крэслы, мыцельнік. Удоўж я магу ступіць сем крокаў, упоперак толькі два— нумар доўгі і вузкі, як труна. Увечары пад стольлю магільна-сіне гарыць электрычная лямпачка.

Я нібы ў адзіночным зьняволеньні. Навакол мураваная пустка, бяз ліку перагароджаная на асобныя клетачкі. Ніхто да мяне ня мае ніякага інтарэсу, і я ня маю ні да кога інтарэсу.

Гэтыя шпалеры, гэта абстаноўка, гэта вакно, што выходзіць у тупую сьцяну,—як і ў дзесятках такіх самых нумароў.

Я нічогаа не заўважаю, ні цеснаты, ні застоенага паху ў калідорах, які толькі бывае ў гатэлях, ні бязвокай сьцяны, што сьлепа, не адрываючыся, заўсёды глядзіць у маё вакно. Пасьля беганіны ў шумным, кіпучым сотнямі людзкіх жыцьцяў горадзе, змогшыся, прывалакаюся ў нумар, рад адсапнуць і валюся на ложак, не заўважаючы ні сьцен, ні шпалераў, ні адасобленасьці мае адзіночкі.

Усё паглынае людзкое цякучае мора на вуліцы, гмахі дамоў, з-за якіх ня відаць ні неба, ні паветра, палацы, сурова адлюстраваныя ў пыхоўнай халоднай рацэ, цёмныя сьцены цытадэлі, у маўчаньні якіх чуцён стогн. Халодная вада, сады і паркі, фабрычныя коміны, а над імі чорны дым. Спрадвечная імгла дыму над усім горадам.

Усё такое вялізарнае, такое непараўнальнае з інтарэсамі, з радасьцямі, зморанасьцю, горам асобнага жыцьця, што я тану, як у віры. Тут ужо не да абстаноўкі.

Я прыехаў здабываць шчасьце, удачу, усьмешку жыцьця. У шчуплым чамадане ў мяне ні вопраткі, ні бялізны, ні рэчаў, затое цэлая папка рукапісаў.

Ведаю—шындзёлісты і цесны шлях таго, хто выходаіць напярэдадні жыцьця.

Што-ж—буду біцца, буду здабываць.

Мяне, бяз імя, дрэнна апранутага чалавека, сустракаюць па рэдакцыях холадна, моўчкі, пагарджальна і... варочаюць рукапісы, ня чытаўшы. Мала таго—яшчэ ілгуць,—кажуць, чыталі. Дармо, я-ж буду біцца,—шындзёлісты і цесны шлях таго, хто выходзіць раніцаю сваіх дзён.

Якая рознастайнасьць у гэтым жывым вулічным віры. У кожнага свае вочы, свае думкі, свае турботы, свая хада, Нібыта і аднак, але кожны па свойму апрануты. І ў кожнага сваё жыцьцё.

Чаго яны ўсе так сьпяшаюцца? Урэшце і я іду, сьпяшаючыся, махаю рукамі,—у гэтай, што так вар'яцкі імчыцца, плыні нельга траціць ні сэкунды.

Калі ўвечары займуцца безьліччу агнёў вуліцы, магазыны, бязьмежна, раскіданыя ў вышыні вокны, праімчацца—сьлепячы—ліхтары карэтаў, аўтамабіляў; як сьветлякі, замільгаюць чырвоныя, зялёныя, усякія-розныя вочы трамваеў, гэта чароўна.

Чорна мігціцца вада. Таемнымі здаюцца асьвечаныя дрэвы. І няспынны шорах соцен крокаў вісіць над усім. Нібы вялізны, нявымернае сілы гад, як пярсьцёнак, без канца варочаецца ўлукаткі.

Ён магутны, бо ў ім — веды, у ім—думка, у ім—творчасьць, уяўленьне, дзіўная сіла тэхнікі, вынаходзтва і неўтаймаваная ўпартасьць. І я, згубленая, дробнюсенькая частачка ягонага ланцуга, іду радасна і пераможна, бо і я—частка гэтае невядомае, нявымернае сілы... Шорах соцен тысяч крокаў... Але ў ім-жа і гандаль чалавечым целам і дзяўчаткі—прастытуткі, і зьмяртвелыя сутарэньні, што нагналіся беднотаю, і ўзлаваныя натоўпы бледых аблічаў у тысячах душных майстэрняў і фабрыкаў.

Бясконцымі агнямі, заходзячы ў белаватую імжаку, бягуць сьветлыя вуліцы, і бязьмежна варочаецца ўлукаткі неперамажная чалавечая сіла.

*

Я ў сваім нумары, але я ўвесь там з людзьмі, з іхняю бязсоннай дзейнасьцю, з іхняю няспыннаю сілаю і напружаньнем. Я з імі, з іхнімі бязьмежна рознастайнымі абліччамі.

Як і раней, стукаю ў рэдакцыю, і выходзяць халодна спакойныя людзі і кажуць, што мне там няма чаго рабіць. Дармо, цяжкі і цесны шлях, які пачынаецца. Трэба-ж спачуваць і ім,—яны захлынаюцца ў моры рукапісаў, што плывуць адусюль. З ста рукапісаў, сама больш, хоць крыху па чалавечаму напісан адзін, а рэшта: дзевяноста дзевяць—трызьненьне, лухта, а прачытаць-жа трэба ўсё.

От толькі што я пакінуў палуднаваць. Затое раніцою і ўвечары п'ю гарбату з кілбасою і хлебам, і кожны раз мне робіцца бяз прычыны весела.

Гарадзкі шум не даходзіць да мяне: вакно выходзіць на двор.

Я пазіраю на адзінокае дрэва ўнізу, што скрыўлена чарнее пасярод асфальту з застыглым болем у голых каржакаватых гуках.

Дайду-ж я калі-небудзь свайго? А можа і я патану ў гэтым чалавечым моры, вар'яцкі мітусьлівым моры, патану бяз сьледу, як-бы і ня жыў.

*

Я занёс у рэдакцыю новае апавяданьне і чакаю.

Сягоньня заплацію па рахунку за нумар. Спачатку мне падавалі рахунак праз кожныя тры дні—не давяралі, і гэта хвалявала. Цяпер падаюць праз тыдзень, нават праз дзесяць дзён,—уверыліся, але затое адразу апаражняюць маю кішэню. Пакінуў за вячэрняю гарбатаю есьці кілбасу, адзін хлеб. Усёроўна—уночы ляжу, ня кратаюся, не патрэбна шмат траціцца на падтрыманьне сілы. Затое раніцою наядаюся.

Няўжо і гэта маё апавяданьне затоне ў парахне? Ня можа-ж быць... Паслухайце: у ім плывуць хмары, у ім сонца, там мая радзіма, там загарэлыя стэповыя аблічча, там сэрца б'ецца...

І не кране прытоеных струн вашае душы? І не задрыжаць сэрцы вашы насустрач трапяткому сэрцу? Гэта жахліва!

Халодна-спакойныя людзі сказалі мне:

— Прыдзеце праз месяц...

Але-ж іх маленькая кучка, а нас—безьліч. У іх-жа ня хопіць фізычнае магчымасьці кожнага паслухаць, кожнага зразумець, кожнага ўгадаць, кожнаму зірнуць у душу.

Так, але-ж я жывы, мне баліць, я гіну...

Пачарнелае, разьдзетае крывое дрэва пасярод асфальту заўсёды стаіць у ваччу.

Я адпачываю толькі ў натоўпе. Я выходжу з нумара і тану ў гэтым цудоўным людзкім натоўпе, такім нястрымана рухомым, поўным бесьперапынна затоенай жыцьцёвай энэргіі. Тут мільёны сьмеху...

Яны ідуць з сур'ёзнымі абліччамі. Але няўжо кожны з іх паасобку не сьмяецца палка і весела?

Тут кіпяць шляхетныя чалавечыя жарсьці і брудныя зьвярыныя, тут усё—напружаньне розуму і волі і нястрымна прагны размах асалоды...

Яны ідуць са стрыманымі рухамі і абліччамі.

Так, але кожны ідзе на спатканьне, і горача б'ецца нецярплівае сэрца. Або ідзе са спатканьня, зморана са зьняможана разьлітаю па целе пяшчотаю, што астые. Або ідзе з напружаньнем неадчэпнае думкі творчасьці, якая гоніцца

за ім. Або ідзе рабіць страшную нявольніцкую працу. Або ідзе, а за ім патаемна гоняцца шпікі, на чалавечае змаганьне за тых, каго высылае гэта вар'яцкая праца.

Я люблю чалавечы натоўп, такі шалёны рознастайны ў сваёй аднастайнасьці.

*

Трапілася маленькая, на некалькі рублёў, работа, і я першы раз на гэтым тыдні папалуднаваў.

У сталоўцы шмат маладых сьвежых абліччаў вучняў, студэнты, студэнткі. Весела, жыва хістаецца гамонка. І ніхто з іх ня зьвернецца да мяне, не засьмяецца, не падасьць рукі: „А, дык гэта вы“...—як бы мяне і няма тут, як бы гэта і ня я, што прыехаў шукаць жыцьця, ягонае ўсьмешкі, ягонага змаганьня, а вольнае месца. Дзівакі!

Урэшце, усё роўна. Дзіўна, як прымірэнча да ўсяго ставішся, калі папалуднуеш.

Выходжу. Што гэта? Не пазнаю месца, не пазнаю дамоў, не пазнаю шумлівае вуліцы.

Абарачваюся ў адзін бок. Вялікая, вясёлая яна йдзе ў бліскучую даль мільёнамі агнёў, сьвяточна пабліскваючы ў змроку яшчэ не патухшага дня, і ўся кішыць жывым рухам.

Абарачваюся ў другі бок. Няма ні дамоў, ні вуліц, ні дрэў, ні вады, ні агнёў. Усё тане ў густой маўклівай, як дымок, чорнай імгле туману. Ён скрадвае вуглы, налепленыя ўкрасы, лініі, фарбы, моўчкі праглынае гукі. Вуліца з дамамі і з усім, што ў ёй ёсьць, нібы праваліласся ў траурна чорны правал. Людзі, коні, рамізьнікі, карэты бясконца ідуць і едуць туды і гінуць, ды ізноў ідуць і едуць, ды ізноў гінуць у імжыстай пустаце—без канца-краю, ня чуваць іхніх галасоў, шарханьня крокаў, нібы там здані.

Адтуль-жа, з гэтай роўнай, што ўсё паглынае, чарнаты вее холадам бясконцае абыякавасьці. Адтуль-жа зусім неўспадзеўкі ідуць людзі, ідуць бясконцаю жывою чарадой. Раптоўна выкочваюцца, мірганууўшы чырвоным вокам, трамваі, выбягаюць рамізьнікі, ды ідуць, ідуць людзі.

Адтуль-жа пачынаюцца дамы і шчыльна, плячо пры плячы, валакуцца ў другі, ярка асьвечаны жывымі агнямі, бок. Ідуць чароды агнёў, гаворка, звон, фарбы і лініі.

Усё-ж як весела!

Саджуся ў трамвай, і ён, са што раз мацнейшым напалоханым гулам хутка пабег да траурнага беражка туману.

Агні наўкола тухлі. Ні асьвечаных дамоў, ні ліхтароў, ні рухомага натоўпу. У шыбы вагону змрочна пазірае мёртвая імжака.

Вагон грыміць, хістаецца, як бы на адным месцы, пасярод спрадвечнае, бяскрайнае ночы, і дзіўна бачыць у сярэдзіне асьвятленьне, калі за чорнымі шыбамі нічога няма,— адзін змрок бяз краю.

Пасажыры сядзяць, хістаючыся, сурова—з нярухомымі абліччамі.

Дзяўчынка—белая шыя, сьветлыя валасы, капялюш-жа асабліва, па-маладому...

Я ня зводжу захопленых вачэй.

„Сэрца б'ецца трывожна і палка“.

Яна пазірае перад сабою. Доўзазныя чорныя выгнутыя вейкі крышку трымцяць. Колькі чыстаты ў лініях белага ілба, чыстаты наіўнай, любай, прывабнай.

Любая!.. Як бяз памяці хочацца каханьня, асьвечанага, ласкавага, чыстага.

Крышку ўзьняліся вейкі, зірнулі чыстыя шэрыя вочы. Ці ня ўсьмешка на губах, што яшчэ ня ведалі пацалунку?

У шыбах густая чарната, грыміць і хістаецца, як бы на месцы, вагон. І дзіўна з таго, што тут абліччы, столь, падлога ярка асьвечаны электрычнасьцю, а за шыбамі чарната.

Я ня ведаю гэтае дзяўчыны. Ці не ўвасабленьне каханьня яркага і прыгожага сваёю нязнанаю чыстатою, што бывае толькі ў юнацтве? Чаго-ж цяпер так б'ецца сэрца?

Яна ўстае і выходзіць, тонкая і стройная ззаду дзявочаю стройнасьцю.

Раптам робіцца сумна і адзінока, хоць таксама ўсё ў сярэдзіне асьвечана і, невядома дзе, грыміць і хістаецца вагон.

Кандуктар, паводле ня выкараненай нават у гэтых абставінах прывычцы, кажа ў дзьвярах:

— Рог Вялікага і Крывой.

Я выходжу. Але адкуль-жа ён ведае? Ні Вялікага, ні Крывой, ні дамоў, ні ліхтароў, ні асьвятленьня. Адна на дым падобна імжака. Трамвай зьнікае, і ягоныя агні, робячыся цынамонавымі, як ў дыме, растаюць у змроку.

Куды-ж ісьці? Я ступаю крокаў колькі. Наўкола патануў у дымнай імгле цэлы горад са шматпавярхонымі дамамі, з асьветленымі недзе вокнамі, з ліхтарамі.

Ня толькі туман, але і дым разаслаўся—пяршыць у горле, есьць вочы.

Каля самага майго аблічча вырысоўваецца цьмяны абрыс чалавека. Працягваю руку—коньская пыса, гарачыя ноздры дыхаюць мне проста ў твар, стук капытоў. Я адскакваю ў бок.

Голас:

— Ды куды ты вязеш? дзе мы?

— А хто-ж яго ведае... што я ведаю... ці-ж тут разьбярэш?

Бездапаможныя, што раз далей званкі трамваю. Чуваць трэск, стогны, храпе конь.

— Ой-ой-ой!.. дапамажэцэ!..

— Гэй, выцягвай!.. цягні яго!..

— Конь замінае... Адцягвай яго...

Мусіць каламшку рассадзіла.

Я блукаю ў імгле. Пад нагамі чую брук. Хоць бы на панэль трапіць.

Іду з выцягнутымі ў імгле рукамі. То з правага, то з левага боку галасы заміраюць. Асьцярожны стук капытоў.

— Гарадавы!

Але ён цяпер такі самы бездапаможны, як і ўсе.

Часам імгла крыху бялее сьветлымі плямамі, нібы месяц— хоць яго і ня відаць—прагна прабіваецца.

Гэта, напэўна, ліхтар. Ён, напэўна, нада мною, але я не знайду слупа.

— Мама... мама... мама...—бездапаможна, тоненька, жаласна, як тыя кацяняты, якіх выкідаюць пад плот здыхаць.

То з правага, то з левага боку. Але я нічога пе магу зрабіць. Вандрую абы як і рад, калі натыкаюся на сьцены.

А гэта-ж дамы, вялікія, зьверху і аж уніз напакаваныя людзьмі.

— Мама... ма-ама... ма-а-ама...—усё цішэй, слабей, з звонкімі сьлязьмі, і яны тухнуць.

Я зусім згубіў кірунак. Мусіць цяпер іду па невядомай вуліцы. Ня чуваць трамвайных званкоў. А можа спыніўся рух.

Часам стыкаемся з кім-небудзь жыватамі.

— Выбачце, калі ласка.

— Ды якія тут выбачаньні!.. Ня ведаеце, якая гэта вуліца

— Ня маю ніякага ўяўленьня.

— Гэта-ж чорт вядома што. От ужо дзьве гадзіны ніяк не магу трапіць дадому. Ды ўжо хоць-бы мясцовасьць пазнаць.

Зьнікае.

Імжака, то роўная, абыякавая, то крыху сьвятлейшая ўверсе, як туманнасьць.

Глядзі, што трапіш у ваду. Я крыху чую—мне недзе каля ног і вее вільгацьцю.

От яна, не прыхаваная чалавечая адзінота. Хоць крычы, хоць памірай, хоць тані сярод сотні тысяч дамоў—як бы зьніклі ўсе сувязі.

Ага, гэта мост, рукою абмацаў парэнчы. Які ж?

Ня чуваць коньскіх капытоў, званкоў, замёр вялізарны рух, толькі такія адзінкі, як я, то зьяўляюцца, то зьнікаюць у нярухомай, што раз гусьцейшай імгле.

Мяркуючы паводле стомленасьці, я вандрую гадзіны дзьве, тры. Цяпер ноч, але нічога не зьмянілася, тая самая гушчыня з бледымі туманнасьцямі ліхтароў угары, якія зараз-жа праглынае чарната, як толькі ступіш раз у бок.

Любая дзяўчынка з белаю шыйкаю і чыстым цнотным лбом. Як я люблю яе...

У мяне ад зморанасьці гнуцца ногі. Цяпер мой нумар, з крывым нядэшлым каржакаватым дрэвам унізу, здаецца раем. Каб толькі дабрацца!

*

Выпадкова, дастаючы ручнік з цьвіка, узірнуў у пацямнелае ад даўнасьці, нібы ўкрытае дробнай расою, садрапанае надпісамі, заседжанае мухамі люстэрка, і аслупянеў: на мяне зірнуў зблажнелы ў твары стары. Вялая скура ў складках, ад носу і да куткоў спусьцістых губ дзьве глыбокія баразны, зямлістыя тні пад ачыма. Няўжо гэта я? Ня можа быць!

Урэшце і дзіва няма,—я ня бачу гарачага ўжо месяц, ня ем кілбасы, жыву аб адным хлебе. Не заўсёды нават п'ю гарбату, бо ня кожны раз падаюць самавар—завінаваціўся.

Спакойна-халодныя людзі сказалі мне:

— Ваш рукапіс яшчэ не прагледжан.

— Вы-ж самі вызначылі месяц тэрміну.

— Так, але вы не адзін-жа тут. Да нас тысячы прысылаюць рукапісы, а чытаюць толькі ў двух. Прыходзьце праз месяц,—і ён паварачваецца плячыма,—яму-ж няма калі.

Я йшоў па вуліцы, сьцяўшы зубы. Добра, яшчэ месяц, яшчэ месяц пакуты, голаду, месяц бесьперапынных зьмен роспачы і спадзяваньня. Ды й сапраўды яму няма калі.

Я йду хмурны, сьцяўшы зубы, пазіраючы ў зямлю. Горад недзе далёка вялізарным пярсьцёнкам шуміць і мігціцца. Я адзін пасярод соцен тысяч дамоў, пасярод мільёну людзей.

З пэўнага часу яны зрабіліся мне агідныя сваёю жахлівую аднастойнасьцю. Зірнеце на гэтыя дамы, як адзін вялізныя, як адзін бязгустоўныя, яны аднакім спосабам прытыкаюцца шчыльна адзін да аднаго бясконцаю стужкаю. І ўкрасы, і пад'езды, і вокны—усё аднакае.

А твары? Зірнеце вы на іх. Усе ідуць і пазіраюць у адзін бок. І вочы адны і тыя самыя, і выраз, і хада, і вопратка і ўсё вышла з-пад штампавальнага варштату.

І жыцьцё ў іх страшное сваім нівіліравальным падабенствам: уночы аднакім спосабам перадаюцца жаданьні, аднакім спосабам п'юць, аднакім галеюць, панявольніцку працуюць, аднакім манэрам сьмяюцца, аднакім паміраюць. Страшна!..

Хоць-бы ўсьмешка, хоць-бы гук, хоць-бы насок бота, хоць-бы адзін рух чалавечае душы не такі, як ува ўсіх.

Страшны горад, пракляты горад!

Ці сонца сьвеціць, ці йдзе дождж, ці бялеюць сьнягі, усёроўна, дзень і ноч—роўная, сьляпая, аднакая імжака. І ў ёй бадзяюцца людзі ,тысячы людзей, бадзяюццаа адзінокія людзі.

І я.

З мора гукаў, з няўміручага шуму, руху, мігценьня, вызначаецца, расьце, шырыцца і ўкрывае пераможным гімнам толькі адно:

— Пераможцаў ня судзяць... Ня судзяць... ня судзяць... ня судзяць... ня судзяць..,

— Ага, дык ня судзяць... так, так...

У мяне круціцца галава: ня судзяць.

— Прыходзьце праз месяц...

Праз месяц...

Я да крыві сьціснуў зубы. Да вас прыходзяць тысячы рукапісаў, а чытаюць іх толькі ў двух. Ня маеце права на гэта спасылацца. Ня маеце права. Цяжка? Але-ж вы карыстаецеся за гэта павагаю, як кіраўнікі грамадзкае думкі, грамадзкіх густаў, грамадзкае сьвядомасьці. Вам прыпадае шчасьце працаваць не на страх, а на сумленьне. Вам прыпадае шчасьце дашуквацца змарагдаў творчасьці, змарагдаў таленту, а можа і—генія.

Толькі не забывайцеся, гэтыя росшукі вы робіце сярод жывых, трапяткіх, палкіх сэрцаў чалавечых. Ня цэглу-ж вы перабіраеце...

Я з сэкунду стаяў перад ім бледы, скамячыўшы рукі. Дрыжэлі губы, але саўладаў і пашоў не сказаўшы,—я хачу выпрабаваць лёс да канца. Адказ-жа іхны быў-бы адзін: вярнуць рукапіс.

Азіраюся: ажно я стаю на панэлі, размаўляю ў голас, размахваю рукамі. Паўз мяне праходзяць, абарачванюцца на мяне, усьміхаюцца. Але мне ўсё роўна. Я-ж адзін сярод тысяч будынін, сярод мільёнаў людзей.

Урэшце я кідаю размаўляць у голас і змрочна іду далей, каб ня зьбіраць наўкола сябе гэтых павіянаў.

Я ня раз заўважаў, як сярод грому, гулу, гаворкі, стуку капытоў, званкоў трамваю—чалавек ідзе і сам з сабою гаворыць.

Нэгацыянт у цыліндры, у беззаганным паліце ціхенька вылічвае магарыч. Старая бабка ў салопе ідзе, дробненька ступаючы, і апавядае сама сабе, як яна пасварылася з дачкою. Маленькі рэалістык уголас перажывае клясную сутычку з настаўнікам.

Ці не адзінота гэта ў моры гукаў і руху?

Як я раней гэтага не заўважыў?!

*

Я ўжо амаль ня выходжу на вуліцу—няма чаго.

Цэлыя гадзіны ляжу на ложку і пазіраю. Месяц цягнецца жахліва марудна.

На вуліцах, на плошчах усё мяне раздражнівае: спрадвечны шум, мігценьне, плямы чалавечых абліччаў, бесьпера-

пынная, бясконцая сьцяна дамоў, усыпаная вокнамі, шыльдамі, магазынамі, вітрынамі.

А ўночы гэтыя агні! Мільёны, бязьліч агнёў, якімі літаральна ўсё заліта. Часам яны гараць кучамі, як над уваходамі ў сінематографы, і назойліва, нахабна лезуць у вочы, мігцяць, сьляпяць. Месячнае ціхае, як прывід, таемнае сьвятло ў лесе цяпер здаецца недасяжным лятуценьнем.

...Пераможцаў ня судзяць...

Я першы раз бачу, які цесны, маўклівы і хмурны мой нумар і які ён чужы мне.

Шпалеры ўсыпаны плямамі, ня то тлустымі, ня то потнымі, ня то ад сьлёз чалавечых.

Да мяне тут перавярнулася тысячы людзей, і кожны сьмяяўся, удаваўся ў роспач, плакаў ці п'янстваваў, тут была распуста, а можа згаварваліся рабаваць і рабіць забойствы.

У кутку моцны і хмурны відзён крук. Можа не аднаго і не адну з яго зьнялі.

...Пераможцаў ня судзяць... А колькі... пераможаных прайшло праз гэты маленькі нумар.

Можа, таксама, дзень-у-дзень ляжаў ён на гэтым ложку і пазіраў перад сабою, і ўнізе было крывое дрэва.

Жыцьцё тут ідзе паводле раз заведзенага парадку.

Раніцою ў калідоры чуваць тупат. Пасьпешныя дробныя крокі загадчыка разьмеркаваньнем нумароў. Грузны тупат насільшчыкаў... цяжка дыхаюць, мусіць нясуць чамаданы. Змораныя, мяккія крокі людзей, што прыехалі раняшнімі цягнікамі.

Потым супакойваецца. Адно чутны ў людзкой бесьперапынныя званкі. Па калідоры раз-по-разу прабягаюць пакаёўкі, калідорныя. Звоняць пасудкам, разносяць самавары, бегаюць купіць піражок, кілбасу, малако, сыр; адносяць тэлеграмы, лісты.

Раз-по-разу ў кутку калідора трашчыць тэлефонны званок, і чуваць асіплы, прастылы з дарогі голас:

— Ды гэта я, я, матачка... толькі што прыехаў... цалую твае ножкі... У нумарох... трыццаць два з галоўнага пад'

езду. Ды ўжо такая журба... Жартуеш? матачка мая... Ну-ну-ну, зараз пераапрануся, прыеду... Кавы прырыхтуй...

Або:

— Корак за гэту цану не аддамо... як хочаце... рубель з саракоўкаю... Які брак?!. ну, абрэзаны канцы... ды што вы Лазара сьпяваеце.

Або:

— Толькі што прыехалі, да зарэзу патрэбна дзьвесьце... Ды не магу-ж... Зразумейце... Ах, божа мой... Ну добра, вы мне прышлеце паўтараста... і слухаць не хачу... Не, не, не... От вам апошняе маё слова: пяцёрку прышлеце—і квіта...

Нарэшце і тэлефон утаймаваўся.

Па калідорах ціха. Пазірае безьліч зачыненых маўклівых дзьвярэй. На іх толькі нумары. За ім нічога ня чуваць.

Большасьць жыхароў разышліся па горадзе.

Калі ўрэдкую хто-небудзь бяз гуку праходзіць па белай у паўзмроку калідоры дарожцы, на твары таксама як бы толькі нумар, ён маўкліва абасоблены. Усе чужыя адзін аднаму, ува ўсіх на абліччы адно: пераможцаў ня судзяць.

Дзень цягнецца роўна, журботна, як гэты без канца калідор, з боку ў якім безьліч дзьвярэй.

На вуліцы яшчэ сьветла, а ў калідоры ўжо запалены агні, што прыносяць асаблівае ўражаньне начных ценяў.

Калі-ж на вуліцах займуцца агнём ліхтары, і на панэлях лягуць густыя і рэдкія сіняватыя цені электрычнага сьвятла, калідор іэноў ажывае. У пакоі слугаў абрыдлыя ім званкі; звоняць пасудкам, праносяць самавары. Трашчыць тэлефон і асіплы голас:

— Дзьвесьце сем нуль адзін. Так. Дзякую. Хто гаворыць?

Калідор ажывае. Безьліч дзьвярэй таксама пазірае нумарамі, але адтуль урыўкамі чуваць то сьмех, то моцная гамонка, то прыглушаныя фразы раялю, то дзіўныя з пералівамі рулады сьпявачкі.

Слугі змораныя бегаюць на званкі. Уваходзяць, выходзяць наведвальнікі.

Да дванаццаці гадзін калідорнае жыцьцё пачынае слабець, сьціхаць. Нямыя пазіраюць дзьверы. Тухнуць агні. Нярухома і мёртва ў далёкіх куткох гарацъ адзінокія, што яшчэ засталіся, лямпачкі. Усюды цені, паўзмрок.

Толькі ўнізе ў вэстыбюлі ня сьпіць швэйцар.

Ноч.

*

Мне што дзень, што ноч—усё адно. Часам я зусім забываюся, што тут ёсьць людзі, і хаджу, ня чуючы ні галасоў, ні гаворкі, ні стуку крокаў, нібы наўкола пуста і маўкліва.

Ня зьменьвае гэтага адчуваньня і слуга, што прыносіць самавар, уваходзіць прыбраць пакой. На яе адасобленым твары тое самае, што і ва ўсіх: пераможцаў ня судзяць.

Нават у пакаёвак, гэтых пераможаных з пераможаных, што гандлююць сваім целам у гэтых подлых сьценах, тая самая пагарда да пераможаных.

...Яшчэ цэлы месяц...

Я доўга не магу заснуць з вечара. Ляжу і думаю. Пра што? Ні пра што. Усё-ж перадумана.

Ня думаю, а прыслухоўваюся да цёмных, што скруціліся цяжкім камяком пачуцьцяў адзіноты і нянавісьці. Я цяпер разумею адчуваньні гідлівасьці, амаль злосьці, калі сустракаеш, што просяць на вуліцы апранутыя ў транты людзі, сьвецячы брудным целам.

На зблажнелых іхніх абліччах выраз, што яны гатовы на ўсё—забойства, рабаваньне, зьдзек з нябошчыка, і ад іх заўсёды чуваць гарэлкаю.

От каб толькі ўзьняцца мне з пераможаных у стан тых, каго ня судзяць. Гэта—закон жыцьця ў вялізарнай праклятай мураванай пустцы, што бясплённа шуміць наўкола.

Я пільную свае злосьці, пільную свае нянавісьці, як прысмоктаных да грудзей дзяцей.

Сьцены майго нумару вельмі тонкія. Чуваць як там ходзяць, гавораць, перасоўваюць крэслы. Чуваць самы малы шорах.

  

Не. Я нічога ня чую. Гэта я раней чуў. Для мяне нямыя гэтыя тонкія перагародкі, як бы гэта халодныя сьцены, паўтары аршына таўшчынёй. Я ня ведаю, хто там, чаго ім трэба. Ды й ня цікаўлюся... Яшчэ цэлы месяц.

*

А я такі, мусіць, змогся. Мне цяжка ўставаць з пасьцелі, дый гультайства, апатыя,--ня хочацца ўставаць. Ужо ня мучыць пачуцьцё вастраты голаду. Нібы я даўно раз назаўсёды папалуднаваў, і цяпер пра гэта ня варта турбавацца і думаць.

З вечара цяжка заснуць, але як засну, сплю цяжка, цёмна, маўкліва, бяз сноў. Стаіць роўная, траурная імжака, без канца нямая і бязьлюдная.

Яна, скажам, стаіць і ўдзень, але, ашукваючы сябе, ў ёй рухаюцца, ходзяць, гавораць людзі, стаяць дамы, сьвеціць цьмянае сонца. Роўная, чорная, маўклівая імжака.

І раптам сярод яе, нямое чарнаты і пустаты холаду, голас:

— Чуеш?

Я ўсхапіўся. Сэрца б'ецца. Усьпёрся локцем на падушку. Услухоўваюся з пашыранамі зрэнкамі.

Вакно паволі і слаба граючы фасфарытным водбліскам, рассыпае ў цемры пераплётам. Загарджваючы крыху здаецца стаіць сьцяна. А там унізе, я ведаю, крывое, з выцягнутымі каржакаватымі сукамі, дрэва.

Але ня гэта стукнула па сэрцы жывым, несьвядомым, трапяткім болем, а прыглушаныя, утаймаваныя, мусіць праз сьціснутую ў зубы падушку, рымзаньні, жаночыя рымзаньні за перагародкаю.

Напэўна, да яе даляцеў шорах, як я стаў, і там усё сьціхла.

Я ўтаіў дух, не варушуся. Нібы цяпер пытаньне жыцьця—ня ўдаваць свайго існаваньня.

Мне няспрытна. Рука здранцьвела, локаць сшэрх, але я ўсё гэтакі самы, напружана нярухомы, гэтак сама не варушуся, стрымліваючы дыханьне.

Ціха. Паволі цячэ доўгая ноч. За перагародкаю утаіліся нейчыя прыгнечаныя рымзаньні.

Напэўна, там думаюць, што я заснуў. Ізноў слаба, як праз сьціснутую падушку: ы... ы... ы...

Гэтак нельга трываць. Так сама ня дыхаючы, я ўстаю, ціхенька, каб ня шаснуць, крадуся, як злодзей, прыкладаю вуха да перагародкі. Я ня ведаю, хто там, ведаю толькі, што нейчае разрываецца сэрца.

І раптам зьяўляецца ўспамін: шэрая, як дымок, імжака, туман і ў ёй затануў горад. Толькі ў сярэдзіне вагону ярка асьветлена: абліччы, дзьверы, столь, чысты дзявочы лоб, белая шыйка і ясныя вочы.

Ды гэта-ж—яна, гэта яна там ціха рымзае, яна пакінутая, абабраная, з адабраным жыцьцём. Гэта яна!

Я запускаю кабдзюры і да болю прыціскаю вуха да шарахаватых шпалераў.

— Ну, што я магу зрабіць? Што я магу сказаць ёй? Як я магу дапамагчы ёй? Ці не прапанаваць шклянку вады, каб супакоілася.

Мусіць у мяне луснулі пальцы—там ізноў усё сьціхла, і моўчкі гаспадарыць нямая ноч з фасфарытным водбліскам вакна.

Я ціхенька крадуся да ложку і, ціхенька дыхаючы разяўленым ротам, прыслухоўваюся.

Цяпер не засьнеш. Буду чакаць, покуль разьвіднее сьцяна за вакном, а ў пакоі выйдуць з радкаватага змроку камода, стол, мыцельнік.

Ізноў. Што-ж гэта?.. Таксама прыглушана, таксама разрываючы душу. Не, гэта не дзяўчына. Гэта не такія сьлёзы. У яе ўсё-ж такі наперадзе жыцьцё, можна-ж залячыць рану на сэрцы, можна ізноў пакахаць, дыхаць і радавацца сонцу.

Не, гэта не яна. Гэта—і ў мяне мурашкі холаду паўзуць, гэта—старыя матчыны, што адбіраюць усякую надзею, сьлёзы.

І я зноў крадуся, дрыжучы, і прыкладаю вуха да цьвярдых шпалераў.

Як я не ўгадаў? Я яе ніколі ня бачыў і ня ўбачу, але-ж яна худзенькая, старая ўсюды ходзіць у старэнькім салопе, усюды моліць пра сына свайго...

Я ведаю, я ведаю гэтыя страшныя сьлёзы.

Так мінае ноч і пачынаюць выходзіць камода, стол, крэслы... Пра сына свайго прысуджанага.

*

Дні мінаюць. Я ня ведаю, хто мае суседзі. Яны зьменьваюцца траха ня кожан дзень. Часта нумары пустуюць. Я гэтак сама, як і раней, чакаю. Але клубок нянавісьці і лютасьці расстаў у грудзях. Я ізноў хаджу па вуліцах і пазіраю на людзей, і ў кожнага з іх—свой твар, свае думы, сваё гора, свае сьлёзы.

І яшчэ я ведаю, чаму можна жыць у гэтым вялізным мураваным, што разьлёгся так шырока, горадзе: таму, што, людзі зьвязаны, крэўна зьвязаны адзін з адным сьлязьмі якія ў цішы начной сочацца праз сьцены.

З рускае мовы пераклаў **Кандратаў**.

---

# ЭПІГРАМА

**На Л. Бэндэ**

О! Ён крытык артадокс
Баявой сыстэмы—
Вынімае па рабру
З кожнае паэмы.

*С. Дарожны.*

А. РУСАК

# ВЕСНАВЫЯ ПЛЫНІ

Зашумелі...
Зашумелі ў лозах ніцых
З лёдам рэкі ды крыніцы.
Паліліся
Пералівам
Зырка воды ў далячынь.

І плывуць... плывуць у далі
Крыгі, ломячыся у хвалях...
І паўз бераг
Усё наперад
Вадзяная мчыць іх плынь.

А я еду пад дуброву
Ў сьпевах раніцы вясновай,
Паласую
Ў кругавую
Цаліну крутой гары.

Мы сягоньня прывіталі
Наш палетак песьняй сталі,
Стройным звонам
Праз загоны
Мчыцца рэха па бары.

Вось і гусі прыляцелі,
Селі ў рэчцы там на мелі...
Гэй, ляцеце,
Лапачэце,
З вамі сэрцу весялей!

„Ціха... ціха... гляньце, што там?
Пакапанае балота...
Ня было так...
Ня было так...“
Дзіва дзівіць тут гусей.

За гарою на прагалку
Пракацілася сявалка.
Страпянуліся як сполах
Гусі ў далях васільковых.
Над вадою
Чарадою
Паляцелі дзесь за гай.

Ня пужайцеся вы, гусі,
Новых рытмаў Беларусі,
Што тут хваляй
Ўскалыхалі
Над балотам бор глухі.

Гэта вышла з песьняй Маю
Наша дужасьць маладая,—
Пахаваць ў разорах
Гора
І жабрацкія шляхі.

Ленінград.

---

**Вольны запіс прамовы аднаго пісьменьніка на пленуме ЄСП**

(*Пародыя*)

Я, браточкі, не палітык,
Я ў памылках вырас.
Дай мне дыхту, братка крытык!
Дай мне нашатыру!

Каб ня збочыць воз са сьледу,
Ці спусьціць пад кручу—
Садані па правай, Бэнда!
Дай па левай, Кучар!

Часта ў думках я, браточкі,
Ой, як быў ня шчырым.
Стаць хачу-ж на шлях рабочых,
Дайце-ж нашатыру!

*Т. Кляшторны*

АДАМ ТУМАНСКІ

# НЯСКОНЧАНАЯ АПОВЕСЬЦЬ

Мазурэнка, плячысты, васемнаццаці-гадовы хлапец, сядзеў на зэдліку, смачна дакурваў цыгарку, вадзіў доўгаю хударлявою рукою па калену.

Кінуўшы недакурак, выдыхнуў грудзьмі шэры расплыўкі ахапак дыму, удыхнуў у сябе застоенае паветра. Яно было крыху кіславатае, нагрэтае і на пах дужа няпрыемнае. Той-жа рукою павёў па рыжых скронях, памацаў за бараду і, нібы сьціраючы дотык дыму, пацёр ёю пяньку валаскоў—сьвежых, ня кошаных брытваю.

Калі добра ўтаропіўся вачыма ў кут, дык заўважыў, як кінутая ім цыгарка даходзіла ў дыме, як падымаўся ўверх шэры яе хвосьцік.

Гэта яму дужа не спадабалася, і ён прытка перавёў позірк на свае чаравікі. На іхных мыскох зьмецію гразь, зьмешаную ў невялічкія камочкі-бурбалачкі. Засохлыя яны, здавалася, хочуць адпасьці ад скуры, адарвацца, рассыпаўшыся на драбнюткія часьцінкі пылу... І тады Мазурэнка ўбачыць дзірку, з якое вылезе яго палец.

За гэтым ён трапна ўспомніў, што ў той дзень, калі насіў іх у майстэрню—працаваў на другой зьмене ў ботах, што тыя боты падарыў Макару ў знак іхнага сяброўства...

Услухаўшыся у гаворку сяброў (тыя сядзелі поруч з ім, захапляліся, бы малыя дзеці гульнямі, сказамі-перасказамі), прарваў сваю думку.

Дужа спадабаліся яму апошнія словы, якія аж нарасьпеў галаском сьцілым, сьмехатлівым прамармытаў цясьляр Саўка:

— Ён мяне часта пугаю сьвіх-сьвях, а я яго калі-нікалі цэпам бах-бах...

... Жывым, от выразаўся перад ім беладзяроўны цэх.

„Вось машынная заля.

Скажам, калі правядзе незнаёмы чалавек сваімі вачыма, дык убачыць безьліч дэталяў, знаходкамі яму пакажуцца чорныя варштаты. Сваёю жвавасьцю яны, бадай, і напалохаюць яго...

Вось клеечны аўтамат, стругальныя, фрэзэры—адны, другія, трэція—у палон забяруць ягоную ўвагу. Ашалушаць яго сваімі гукамі. А яшчэ-ж зборачны з сушылкай... раскройка... Таксама-ж беладзяроўны...“

Ён нават і не заўважыў, як усё гэта ружоваю істужкаю прабіралася ў яго галаву. Прыемную асалоду, задавальненьне выклікаў у яго гэты ланцужок думак, разаслаў на твары ўспаміны, шчодрую здагадку расьцёг.

Падаўшыся бліжэй к хлопцам, Мазурэнка заварушыўся. Яму закарцела расказаць сябром праўду, з якою ён ужо сыходзіўся ў сваім жыцьці, якая і цяпер сядзіць у яго нутры.

„— увайсьці ў кожную дробязь, папрацаваць... Тады зьмеціш увішлівых варштаковых: ну, скажам, сябра Заброцкага, паэта Целеша, Альшуля—хлопчыка на від, а на справе бой-чалавека, начцэху; шмат чаго ўбачыш... пачнеш ўяўляць тады жыцьцё беладзяроўнага. Так мо“ адпіхнуў-бы першую думку пра той цэх, але Міколавы вочкі, гледзячы на яго, наўмысьля кпілі з ягонай скошанай маўчанкі, а Саўкаў сказ-пераказ затрымаў аж у губах словы гэтыя.

... — Эх, блямба... Працаваў я тады брыгадзірам транспарту, быў рэдактарам штодзёнкі...

І, удаючыся глыбей у перажытую праўду, прыгладжваў залатыя ад сьвятла, палысклівыя косы.

Казаў пра Макара Кудраўцава, што той тады быў падобны да меху, што нос у яго быў даўгі, чырванаваты, асабліва на канцы, тоўсты, пра тое, што на Макаравых плячох была шэрая кашуля, а з-пад латаных, даўно згубіўшых колер і форму, порткаў відаць былі ступні ног з жоўтымі, бы тыя ракавая шыі, пальцамі.

Адылі адзначыў, што блатным Макара лічыць няварта, што ягоныя маладыя гады пражыты на вёсцы—ну, мо' за пастай кароў, за кошляй у сенакос, за жнівом—так, ды гэтак, што яго вытворчы стаж—з 4 месяцаў усяго складаўся.

Глядзеў на Міколу Сухога (стаяў той, нахінуўшыся к печцы, для забавы зьвіхаў правую нагу ў двурогі корчык-стаўмачок).

На ягонай галаве хоць ты кашу таўчы. Таму Мазурэнка і рупіўся прагна ўглядацца ў ягоную сыроўню-бела-жоўценькую—з роду таго засушаную, а ўчора цырульнікам толькі паголеную ды вымытую да чыста-бела.

Гаварыў, што Макар як бык моцны, баламут гэткі, хуліган.

— Аднойчы мы адвозілі папярэчкі. І задужа такі перагрузілі вагонку. Бачым—ідзе ён з сваёю баталіяю. Вясёлыя... гальмакуюць, псямацькаюцца... пхаюць у пострыч адзін аднаго. Гады! Заўважылі, што мы не ўпраўляемся, сказалі гэтаму Макару, а ён сілаю перад сваімі любіў пахвастацца. Не пасьцелі мы азірнуцца, як пацёг гэтую вагонку, абрушыў медзьвядзёваю лапаю.

Выслухаўшы яго, хлопцы даведаліся, што Макара ўжо суд судзіў, што гэтага судом ня ўнімеш, сходам не з'агітуеш (ласьне іх наведваў?).

— Засудачылі мы яго ў штодзёнку, рэзкую пастанову сходу вывелі там, размалявалі—на кожных дзьвярох цэху льга было бачыць рожы: яго і іншых, радыё штодня напаміналa, што вось такія, гэткія...

Галасок прыпыніў рэзкім пацёкам думкі ўперад, шчыльна расьцёг вусны ў посьмех:

— Ха-ха-ха-а-а... Кулакі сьцяўшы, прыходзіць ён да мяне, злосны, бачу, бяз канца. Кажа, размахваючы дубінкай:—

— Гэта ты напісаў? Маць тваю... ды чуць і не хвасянуў...

Слухаў Саўка, поглядам дабратлівым удаваўся ў чорныя шыбіны вакна, ціха-ціха: зводзіў павекамі, раз-по-раз, відаць, уяўляючы ўсё да дробязі, бровы брудныя скошваў.

— Браточкі. Як сёньня памятую.

Зрабіўшы лёгкі ўзмах рук, ён нібы паскорыў палёт думак і тут-жа пачаў гаварыць, што было гэта на другой зьмене, што тады дождж ішоў, і што ён неяк уладзіўся хутка папалуднаваць.

— Выйшаў... чую ў раскройцы варштат ня выключаны. Я—туды. Бачу—Макар каля вентылятара. Бярэ гэта ён абрэзак, падносіць к зубам пілы шалёнай... і—брык...

Сказаў, што і сам не пямятуе, як кінуўся ратаваць Макара, што ў той час ён ні рукамі, ні нагамі ня кратаў і што ён яго адкачаў ўсёткі, аб тым, што з разьбітай ніжняй губы цякла кроў, выпальваючы на дэталі чырвоную лапіну, і што ён ледзь-ледзь дапаў з ім да мэдпункту.

# Гаворыць краіна

СЬЦЯПАН НОРТМАН

*Сьцёжкаю новай.*
*працай вірлівай,*
*нязнаныя дні*
*спатыкаем цяпер.*

## ЁСЬЦЬ 2500

ШПАРКА імчыцца трамвай па рабочай ускраіне Менску— Ляхаўцы.

Выпрасталася вуліца, пра́рэзалі яе вужы-рэйкі трамвайнага шляху, скапаны ўзгоркі, засыпаны лагчыны, што былі да 1932 году

Паламаныя драўляныя тратувары саступаюць месца новым—асфальтавым, і будуць яны гладкія, пакладзеныя пад адну лінейку, ня будуць выгінацца, пырскаць гразьзю, як гэта было раней.

Харошыцца Ляхаўка. Цьвёрды поступ бальшавіцкіх плянаў—рэальных, як усё, што адбываецца ў нашай краіне, перайначвае твар былой расійскай імпэрыі, робячы з яе краіну квітнеючую, сацыялістычную.

П'яная рабочая ўскраіна з пілíканьнем гармоніка, бойкамі, панажоўшчынай і п'янымі роспачлівымі сьлязьмі адыходзіць, становіцца зданьню мінуўшчыны.

На зьмену прыходзяць клюб, сацыялістычныя рэканструяваныя прадпрыемствы, трамвай і яшчэ цэлы шэраг дасягненьняў, што ператварылі п'яную ўскраіну ў рабочы цэнтр сталіцы БССР.

Галоўным—мэханічным--корпусам мяжуе з вуліцаю машына-будаўнічы завод імя Кліма Варашылава.

Праз вокны чуваць, як б'ецца сэрца заводу, як кіпіць работа.

У адным кутку гэтага корпусу, прымайстраваўшы варштаты каля вялічэзных вакон, працуе гаспадарча-разьліковая брыгада па зборцы сьвідравальных варштатаў.

Брыгадзір Якубсон, нізкага росту, хударлявы, з чорным валасамі, што скамечаныя ляжаць пад шапкаю, жвавымі вачыма, якія перабягаюць з аднае рэчы на другую, у кашулі колеру хакі, які аднак згубіўся пад тлустаю скарынкаю жалезнага і чугуннага пілавіньня,—крыху нэрвуецца.

Глыбокія зморшчкі праразаюць лоб, а тоўстыя бровы нібы дзьве дугі, навісаюць над вачыма. І тады здаецца, што чалавек гэты вельмі злосны, і яму няпрыемна гутарыць з кім-небудзь з староньніх, што назольліва цярэбяць яго пытаньнямі.

Але гэта толькі на першы погляд. Пазнаёмся з Якубсонам бліжэй, і разгарнецца перад табою, як старонкі цікавае кнігі, характар гэтага чалавека. Ён прышоў на завод у 1930 годзе і працаваў чорнарабочым, потым выбаршчыкам дэталяй у ліцейным цэху. Потым стаў ля сьлясарнага вярстака, да ціскоў, навучыўся падганяць, падпілоўваць дэталі, зьбіраць машыны. Стаў сьлесарам чацьвертага разраду, і ўжо тры месяцы,як кіруе брыгадай.

Складаны жыцьцёвы шлях быў у Якубсона. Чаго ён толькі ня перарабіў гэтымі загрубелымі пакрытымі мазалямі, рукамі. Кожная прафэсія—а іх было багата—накладалі пэўны адбітак на псыхіку і характар чалавека.

Гэтаму дапамагалі ўмовы сацыяльнага парадку, якія прыгняталі Якубсона, як чалавека іншае „веры і мовы"— як яўрэя. Але гэта было даўно. Гэта цяпер здаецца толькі зданьню мінуўшчыны--жорсткай, несправядлівай і нікчэмнай як і тыя законы, што той сацыяльны парадак падтрымлівалі.

Мінула старое, зарасло горкім палыном, і ня вернецца.

А наперадзе ў чалавека сьветлая будучыня, усё тое, што калісьці насіў у марах. Вабіць гэтае сьветлае і патрабуе:

— Калі хочаш сьветлае будучыні, працуй. Перарабляй усё тое, што засталося ад старога, перайначвай сваім розумам і рукамі!

І чалавек працуе.

Кожны дзень ад васьмой гадзіны раніцы да чацьвертае ўвечары працуе чалавек, дамагаецца сваёй працай гэтае сьветлае будучыні ня толькі для сябе, а для ўсёй грамады.

Бегае Якубсон ад брыгады ў такарны цэх, падштурхвае такароў, каб не затрымлівалі апрацоўку дэталяй, саячасова падавалі іх у брыгаду для зборкі. А прыбегшы з такарнага, становіцца да ціскоў, падпілоўвае дэталі, сочыць за зборкаю варштатаў; здае іх прыёмшчыку.

Якубсону хочацца, каб работа брыгады ішла, як добры гадзіньнік, як хранамэтр. А людзей у брыгадзе блізка трох дзесяткаў. За кожным даглядзі, кожнаму растлумач, кожнаму, калі трэба, пакажы і дапамажы, дай працу па яго густу і вартасьці.

А бывае, што работа ня ладзіцца. Не даюць такары саячасова дэталяй, затрымліваюць. Вось тады, калі бачыш што гатова сарвацца выкананьне прамфінпляну, нехаця станеш нэрвавацца.

А калі ідзе работа без затрымкі, Якубсон выглядае зусім іншым чалавекам. Ветлівая ўсьмешка расплываецца па твары і зьнікае ў драбнюсенькіх зморшчынках. Вочы вёсела глядзяць з-пад узьнятых брывей і здаецца што яны таксама ўсьміхаюцца.

А праз некалькі чалавек ад Якубсона працуе партарганізатар брыгады Сара Голуб.

З-пад хусткі выбіваюцца русыя валасы і ледзь-ледзь прыкметна варушацца пад час рухаў. Яна раз-по-раз адрывае адну руку ад падпілка і хавае валасы зноў под хустку На шчоках грае чырвань. Вось-вось яна—гэта чырвань—пырсьне маладой і гарачай крывёю...

Дзяўчына захоплена працай і не зьвяртае ўвагі на тое, што робіцца вакол яе пад час работы. Яна занята тым, што ёй даручана, і адказвае за адну—дзьве апэрацыі, за пэўны тэхналёгічны працэс.

Сара прышла на завод у 1929 годзе па сканчэньні ЦІПу. Два гады працавала ў інструмантальным цэху заводу. Работы там не хапала на ўсіх сьлесароў, таму былі дні, калі ёй выпадала прастойваць па некалькі гадзін, а яна прагла работы. Дый як маладая дзяўчына, поўная сілы і камсамольскага задору, магла гэтага ня прагнуць?

А ёй выпадала прастойваць. І вось аднойчы яна не ўцярпела і пашла да начальніка цэху прасіць перавод у сьлесарна-зборачны, дзе не хапала людзей. Той зьдзівіўся яе просьбы і адмовіў.

Назаўтра было тое-ж самае, на трэці дзень зноў, аж покуль нячулыя адносіны начальніка цэха ня вывялі яе з цярплівасьці.

— Дайце перавод, інакш сама кіну і пайду ў сьлясарна-зборачны цэх— крычала Сара ў канторцы начальніка цэху.—Я прышла працаваць, а не стаяць пад час работы.

Той паціснуў плячыма і задаволіў просьбу. А калі яна вышла з канторкі, зьвярнуўся да майстра:

— Хай ідзе, аднэй „бузацёркай" менш будзе!

І яна пашла у другі цэх, у брыгаду па зборцы сьвідравальных варштатаў, дзе разам з ростам выпуску прадукцыі стала расьці яе кваліфікацыя, выкрашталізовывацца сьветапогляд, дзе яна ўступіла ў шэрагі партыі і ад радавога партыйца прасунулася да партарганізатара брыгады.

Ды яшчэ і якога! Аднаго з лепшых па заводу. Вось табе і „бузацёрка"!

Гэта кіраўнікі брыгады. Яе старэйшыя таварышы. А вось радавы рабочы, камсамолец Фельдман. Высокі, танклявы, такі-ж замурзаны, як і іншыя. З-пад цененькага пласту пылу, што асеў на твары пад час работы, ледзь прыкметны рэдзенькія бялявыя валасы, што прабіваюцца пухам на верхняй губе.

Гэта ён, калі надыходзіла 15-годзьдзе Кастрычніка, першым у брыгадзе ўзяў на сябе абавязак: поўнасьцю выканаць свой прамфінплян. Узяў абавязак і выклікаў на сацспаборніцтва групы па зборцы галовак верхніх і ніжніх валікаў. Яго выклік падхапілі. Група шпіндэлей, прымаючы выклік, дала сустрэчны:

— Выпусьціць звыш пляну адзін варштат.

Імжэў дождж. Барабаніў у вaконныя шыбы. Восень сваім надвор'ем наганяла сум. А брыгада зьвінела маладымі галасамі, гарэла творчаю радасьцю.

Увечары, калі гудок паклiча спыняць работу, падагульваліся вынікі.

— Малайчына, Фельдман! Працуе за трох!—адзначае сусед па рабоце.

— Бачыш ты! Выклікаў на спаборніцтва і ўсіх перагнаць у рабоце мяркуе—ну што-ж, сып, сып, Фельдман, націскай, каб аж гарэла работка ў руках!

А Фельдман, слухаючы гутарку і заўвагі таварышоў, сарамліва адыходзіўся ў куток, здаволены тым, што выклік ягоны падтрыманы.

*

Так за работай ня прыкмецілі, як падпоўз і стаў на парадак дню сьнежанскі прамфінплян.

А тут, як на тое ліха, не хапае дэталяў для зборкі. Зноў такары затрымліваюць.

— Што рабіць?—думаў Якубсон. Як даць рады гэткаму становішчу? Плян не чакае. З кожнаю хвілінай, якую адзначае гадзіньнік і якая становіцца прастоем, уцякаюць дні, скарачаюць гадзіны працы. А іх нагнаць трэба. Празявай, не пасьпей сваячасова запоўніць работаю, не нагоніш потым.

Кожны дзень улічаны, апэрацыі разьбіты на хвіліны, а яны, гэтыя хвіліны, бягуць, марна трацяцца, людзі стаяць без работы.

— Што-ж рабіць нарэшце? Што? Да чаго дадумацца?

Якубсон нэрвуецца. Часьцей бегае ў такарны да варштату № 41, да Кандрашова і Хаткоўскага. Але гэта не дапамагае, дэталяй няма. А тут брыгада кормазапарнікаў вывесіла ў цаху плякат:

„Брыгада сьвідравальных варштатаў у прарыве. Гэта пагражае зрывам прамфінпляну 4-га заключнага году пяцігодкі. Мы бярэм яе на грамадзкі буксір!“

— Няўжо-ж прарыў? Няўжо чорная ганебная пляма ляжа на брыгаду, што была перадавой?—Гэтыя думкі непакоілі Якубсона. Закрадвалася нявер'е ў сілы брыгады.

— Эх! Да чаго дайшлі. Калісьці самі бралі іншых на буксіра, цяпер...

У часе перапынку на полудзень у гэты дзень прышлі ў брыгаду сьвідравальных варштатаў два сьлесары з брыгады кормазапарнікаў. Прышлі і сказалі:

— Брыгада прыслала дапамагчы вам. На буксір, значыцца, бярэм.

— Самі ліквідуем! Ня прымаць буксіра!—пачуліся галасы ўдзельнікаў брыгады. Якубсон і Голуб зьбянтэжана пазіралі то на сваіх таварышоў па рабоце, то на буксірнікаў.

— Дык як-жа будзем рабіць?—спытала Голуб.—Прымем буксір ці не? Можа сваімі сіламі!—(эх, ды каб сваімі!—маланкай прабегла думка)...

— Вядома, сваімі. Яшчэ ня страчана надзея на тое, каб ліквідаваць прарыў без дапамогі. Але трэба памятаць, што час ня церпіць—пачаў Якубсон.

— Аб чым казаць—перапыніў Якубсона Фельдман. Сам зробім...

Сказаў некалькі слоў, а спацеў, як пасьля гадзіны самае цяжкое фізычнае працы.

І словы гэтыя былі важкія—не магло быць сумненьня што яны зьдзейсьняцца, бо ішлі яны ад самага сэрца.

Буксір ня прынялі.

А пасьля перапынку шпарчэй пашла работа. Адтрымалі зарадку на кароценькай нарадзе, і хацелася кожнаму ня зблышыць, не цягнуцца ў хвасьце, ня быць на чорнай ганебнай дошцы.

А назаўтра зноў нарада і пастанова:

— „Узяць на грамадзкі буксір такароў“.

— Табе, Райцэс,—зьвярнулася Голуб да сяброўкі па рабоце,—даручана намаляваць плякат аб гэтым.

— Ды я-ж ніколі не малявала. Нязграбна выйдзе,—адказала Райцэс.

Не на выстаўку-ж мастацтва ты яго панясеш, а ў цэху вісець будзе. Пішы толькі так, каб кожны прачытаць здолеў, запэўніла Сара.

Райцэс пісала плякат на шпалернай паперы. З няпрывычкі ня клеілася гэтая работа. Але напісала і панесла у такарны цэх. Там прачыталі і па цэху папаўзьлі гутаркі Ішлі ад варштату да варштату. Перасыпаліся колкай і едкай насьмешкай над тымі, хто пачаў адставаць. Раіліся, як выйсьці з гэтага ганебнага становішча.

— На буксір папалі... Як ня сорам!

— А яшчэ такары—вядучая прафэсія...

— Вядучая?—ну значыць і падвялі...

— Раскісьлі, на кагосьці паспадзяваліся—выцягнем. Вось і выцягнулі—каб быць наперадзе, апынуліся ў хвасьце...

А плякат вісіць якраз насупраць сорак першага варштату. Так і кідаецца ў вочы. Куды ні павернешся, б'юць словы:

„Ганьба Вам, такары першае групы! Вы зрываеце выкананьне пляну сьвідравальных варштатаў, стаіце перад тым, што будзеце занесены на чорную дошку“.

— Вось трасца іх мамцы!—вылаяўся Хаткоўскі—не дадуць спакойна працаваць. І куды іх гоніць—дадаў ужо жартаўліва.— А націснуць усё-ж такі трэба. Вось толькі ліцейшчыкі блышуць, зноў даюць цьвёрды чугун,—гаварыў ён далей, нахіляючыся, каб падшабраваць дэталь.

Ягоны зьменшчык Зьмітро Кандрашоў уважліва сочыць іза рухамі Хакоўскага, які трымае ў руках шабер і здымае ім заўсеніцы. Спрытна і добра працуе Хаткоўскі, ня любіць гультаяваць. Але бывае часам і кіне якое-небудзь слаўцо па адрасе тых, хто задужа любіць многа гаварыць.

— Ударнік... Языком толькі меньціць, а вось рукі, як рабіць, ня так ходзяць.

Такі ўжо ў чалавека характар. Сам ня любіць многа гаварыць і не паважае тых, хто замнога гаворыць. А калі даюць грамадзкую нагрузку, Хаткоўскі таксама адмаўляецца.

— Вы ўжо даручайце таму, хто гаварыць можа. А я, што я магу зрабіць?—кажа ён вельмі часта Кандрашову.

— Я ўмею працаваць на варштаце, любую работу дай, самую складаную—зраблю. А нагрузка, хоць яна і маленькая, але ніяк у мяне з ёю ня выходзіць. І ня тое, каб я, скажам, не хацеў, хачу зрабіць... ды ня выходзіць...

І Хаткоўскаму далі спакой з нагрузкамі. Ён і сходы наведвае і слова сваё невялічкае скажа, калі гэта трэба, і дапаможа каму-небудзь другому выканаць свой грамадзкі абавязак, але сам за нагрузкі не бярэцца

— Цяжка мне выказаць тое, што я думаю, а разумею я ўсё, як сьледуе,—кажа ён часамі Кандрашову.

І пасябраваў Кандрашоў з Хакоўскім, хоць і розныя яны па характару. Зблізіла іх работа на адным варштаце, і паважаюць яны адзін аднаго за работу, за тое, што яна робіцца дакладна і бяз браку.

Кандрашоў пераапранаецца, завязвае рукавы спэцоўкі, каб не матляліся і, падышоўшы да варштату, стаўшы поплеч з Хаткоўскім, прапануе:

— Канчай, я буду рабіць далей.

— Няўжо пара?—пытае Хаткоўскі і, зірнуўшы на гадзіньнік, дадае:— Бач ты, ня ўгледзеў, як дзень праскочыў. Потым павольна дастае з сваёй скрынкі рызьзё і выцірае ім варштат на-хаду. Сьцірае чыгунны пыл і стружкі, што насыпаліся на станіну ў часе работы, і змазвае маслам.

— Здаецца, добра прыбраў,—зьвяртаецца ён да Зьмітра.

— Добра—адказвае той, а Хаткоўскі выцірае рызьзём рукі і ідзе мыцца.

Кандрашоў застаецца ля варштату і сочыць за тым, як разец угрызаецца ў чугун. Стружкі, нібы попел, сыплюцца з-пад разца і ападаюць на падлогу. Над грудаю стружак вісіць ледзь прыкметны пыл.

Хаткоўскі, памыўшыся, варочаецца да варштату, каб забраць сваю вопратку, зьмяніць брудную спэцоўку на чыстую кашулю. І калі ён разьвітваецца з Зьмітром, той пытае:

— Дык як думаеш, дамо ў тэрмін дэталі?

— За мной затрымкі ня будзе. Вось толькі дрэнна, што няма чацьвертага чалавека. У трох ня зробіш за чатырох,—падумаўшы крыху, дадае Хаткоўскі.

— А як трэба?—зноў пытае Зьмітро.

— А як трэба?—перапытвае Хаткоўскі—Дык і дамо. Ня можа, быць каб ня далі. Ну, бывай!

Кіўнуўшы галавою, ён выходзіць з цэху.

Кандрашоў спыняе варштат, прамярае нутрамерам дзюрку ў утулцы і, бачачы, што расточваць больш ня трэба, змочвае газаю разьвёртку і пачынае падганяць па калібры—паліраваць дэталь.

Скончыўшы апрацоўваць адну, выкідае яе з патрона і замацоўвае другую. І покуль разец выгразае чугун, здымае прыпуск, падганяе дыамэтыр, Зьмітро ўспамінае сваё мінулае, багатае, герачнымі эпізодамі з часоў грамадзянскае вайны. Перад вачыма паўстае крывавае зарыва пажараў—шлях крыві і агню, што пакідалі помнікам па сабе азьвярэлыя банды.

Густыя лясы Ніжняе Волгі кішэлі бандамі. Фармаваліся дабраахвотніцкія атрады пабараць без бандытамам. У адным з такіх атрадаў быў і ён—18-гадовы Зьмітро Кандрашоў.

Баявая адзінка, у якой быў Зьмітро, дзейнічала ў Доб-ленскім раёне.

Як толькі вячэрні змрок ахутваў зямлю, атрад выяжджаў на аблаву. Насіўся з вёскі ў вёску, перастрэльваўся з бандамі, кідаўся ў рукапашную...

І так кожную ноч. А ў дзень адпачывалі стомленыя байцы і коні, каб зноў, як змрок агорне зямлю, выйсьці ў рашучую бойку бараніць жыцьцё партыйных і савецкіх работнікаў, вясковых актывістаў, каб даць магчымасьць мірна працаваць у вольнай савецкай краіне, каб гэтая краіна квітнела руньню збожжа, гаманіла пералівамі гудкоў кіпела творчай энэргіяй фабрык і заводаў.

Не аднойчы жыцьцё вісела на валаску. Было гэта ля хутару Сурочы, калі вінтоўка сапсавалася—не выкідала стрэляных ладункаў, і калі трэба было адстрэльвацца ад ворага, было гэта і на хутары Гарачын калі Зьмітро папаўся ў палон бандытам.

Ня выкрасьліцца з памяці гэты палон, застанецца з ёй на ўсё жыцьцё. Ведаў, што жывым з палону ніхто не варочаўся, а сьмерць страшная чакала. Ня так сьмерць—ёй у вочы глядзець навучыўся—як страшылі перадсьмяротныя мукі.

— Рэзаць, рваць цела на кавалкі будуць,—сьвідравала думка мозаг.

А яго, разьдзетага, дрыжачага ад холаду, пасадзілі ў склеп, замкнулі:

— Чакай да раніцы, потым разьбярэмся.

Але ноччу гаспадар склепу дапамог уцячы. І хоць грымелі ззаду стрэлы, але імчаўся Зьмітро шпарка, ды цемень начная дапамагла зьнікнуць, усьцерагчыся кулі з бандыцкага абрэзу.

Прайшлі гады вайсковай завірухі. Прайшлі, загартаваўшы Кандрашова ў сьвядомага байца за справу рэвалюцыі. Прайшлі, саступілі месца мірнай будоўлі, і Зьмітро пашоў нагэты новы фронт. Цяжка было спачатку працаваць на заводзе. Заробку ледзь хапала на пражыцьцё з сям'ёй. Часта паўставала пытаньне:

— Ці ня кінуць завод і пашукаць іншай працы, якая лепш забясьпечыла-б?

Але заціскаў у сабе гэтую думку, не даваў ёй разьвіцца і замер.

— Ня можа быць, каб так цягнулася доўга. Кваліфікацыя прыходзіць не адразу. Павысіцца кваліфікацыя, буду

больш зарабляць, лягчэй жыць будзе. І не пайшоў, не пакінуў завод. Сарвацца лёгка, а як далей жыць бяз кваліфікацыі? Нездарма-ж патрачаны час на вучобу.

І Зьмітро перамог спакусу лягчэйшага заробку. Дый дзе ён такі заробак знойдзе? А зараз—токар пятага разраду. І тое, што не пасьпела выкрышталізавацца ў сутычках з бандамі, прышло разам з набыцьцём кваліфікацыі, з цяжкасьцямі ў часе навучаньня, з набыцьцём палітычнай пісьменнасьці.

Як убачыў плякат, што ганьбіў дрэнную работу, зацяў моцна зубы.

— Ня можа быць, каб ня выправіліся. Ня можа быць.

Замест чатырох працавалі ўтрох і далі выкананьне 178 процантаў. І ня толькі адзін 41-ы варштат, дзе працаваў Кандрашоў, Хаткоўскі і Мінц, а ўся група націснула, абгаварыўшы плякат і патрабаваньне брыгады.

Нипрыкметная на першы погляд гэтая справа—энтузыязм ня возьмеш яе на далонь, ня ўзважыш у руцэ, ня прыкінеш на вока, колькі важыць. І нічым яе вымерыць, здаецца, ня можна. Прыгледзішся да рабочых—працуюць звычайныя людзі, і варштаты, здаецца, круцяцца так, як звычайна, і такары між сабой гутараць, як за звычай, а работа шпарчэй ідзе. Больш жвава паварочваюцца людзі, ня бегаюць дарма па цэху—калі трэба, а калі і ня трэба—эканомяць хвіліны,—пераводзяць іх на апрацоўку дэталяй і даюць рэальныя вынікі.

Звычайныя людзі, а становяцца гэроямі нашых дзён. Працуюць людзі на будучыню, на сацыялістычную грамаду.

Так перавыканалі прамфінплян сьнежня і далі дэталі на зборку ў сьлясарна-зборачны.

*

А ў гэты час у брыгадзе ішло сацыялістычнае спаборніцтва.

Якубсон стаяў сем гадзін ля ціскоў, а пасьля гудка, пасьля сваёй зьмены, заставаўся на рабоце і здаваў прыёмшчыку сабраныя варштаты. Прыёмшчык ставіў індуктар і сачыў за адхіленьнямі. Калі адхіленьне было звыш пяці сотых мілімэтра, варштат бракаваўся.

Але адхіленьняў ня было, бо дакладнасьць, якасьць работы не занядбала брыгада ў напружаных тэмпах барацьбы за колькасьць.

Усё ішло добра, і варштаты на ваганэтках адвозіліся ў склад гатовай прадукцыі, дзе яны паклююцца і фарбуюцца—праходзяць апошнюю стадыю апрацоўкі і адкуль з таблічкай, на якой азначаны нумар, год і назва заводу, пападуць у вагоны і па чыгунцы будуць адмерваць кілёмэтры, аж покуль не пападуць на гіганты буйнай савецкай індустрыі ці ня будуць экспартаваць за мяжу.

І калі зараз Якубсон успамінае дні на.пружанай штурмавой работы, ён і сам дзівіцца:

— Я ніколі ня бачыў такое работы,—кажа ён,—колькі ўжо ні працую на заводзе. Людзі нібы забыліся на ўсё. Ведалі толькі працу, жылі толькі ёю. І сходаў ня было, ня было і гутарак, што трэба „націскаць". Толькі й было гамонкі, што тады, як нас хацелі ўзяць на грамадзкі буксір.

Гэта-ж люба было глядзець на работу. Сара скончыць сваю работу, бачыць, што Ліза „запарылася", ня спраўляецца—ёй дапамагае. Фэльдман таксама. Кожны працаваў за двух. За тое ж і вынікі нядрэнныя. Лепш ня трэба. Далі нам плянавае заданьне на сто варштатаў, а да 30-га сьнежня выпусьцілі **сто два**.

А на сходзе цэху ўзялі абавязак даць яшчэ да канца другой пяцігодкі два варштаты. І далі. Праўда, і такары малайцы, падтрымалі

А калі падсумавалі вынікі работы па ўсяму цэху, то аказалася, што мы з апошняга месца, якое займалі ў пачатку месяца, перайшлі на першае.

Так сустрэла брыгада першы дзень другой пяцігодкі, усесаюзны дзень ударніка.

І ў гэты дзень, калі гадзіньнік паказваў роўна дзевятую гадзіну вечару, у клюбе мэталістых, што на Унівэрсытэцкай вуліцы, на сцэне перад поўнаю заляю рабочых Якубсон прымаў Чырвоны пераходны сьцяг і 500 рублёў—прэмію брыгадзе за ўдарную работу.

Прымаў і даў слова ад усяе брыгады працаваць і надалей так, як працаваў у сьнежні.

*

У адзін з студзеньскіх марозных дзён, калі завіруха гуляла над горадам і заводам, скавытала ў падстрэшшы і кружыла белую луску, пакрываючы ёю замёрзлую зямлю, чалавек сярэдняга росту ў кажуху, у шапцы з вушамі, насунутай на самыя бровы, адзначыў на варштаце лічбу 2500.

Адзначыў на варштаце крэйдаю, а сабе для памяці запісаў у блёкнот алоўкам; і працаваў далей. А, скончыўшы нумарацыю варштатаў, падышоўшы да Якубсона, сказаў:

— Вы сабралі дзьве тысячы пяцьсот варштатаў.

Якубсон узьняў галаву ад ціскоў, паклаў падпілак на вярстак і зьвярнуўся да Сары:

— Ты чуеш? Ёсьць дзьве тысячы пяцьсот. Тая кіўнула галавою.—Яна ведае, што гэта значыць!—І зноў узялася за работу. А Якубсон ня ўцерпеў і пабег да начальніка цэху.

Адным махам расчыніў дзьверы ў габінэт начальніка цэху і, яшчэ не ўвайшоўшы ў пакой, гукнуў:

— Таварыш Андронаў, сабралі дзьве тысячы пяцьсот варштатаў.—У Якубсонавым голасе адчуваўся гонар за зробленую работу.

Андронаў устаў ад стала і падаў Якубсону руку.

— Малайцы! Адным словам, што трэба. Жадаю і на далей посьпехаў. Ну, я пайду далажу аб гэтым дырэктару.

## Радкі гісторыі.

У 1927 годзе, па прапанове майстра Якава Ерынгроза (які цяпер працуе тэхнічным дырэктарам заводу), завод пачаў працаваць над канструяваньнем сьвідравальных варштатаў.

Студзень 1933 году,—першага году другой пяцігодкі—падрахаваў вынікі—выпушчана дзьве тысячы пяцьсот варштатаў канструкцыі і вырабу заводу імя Варашылава.

Ёсьць 2500. Ёсьць уласнае машынабудаўніцтва ў былой царскай калёніі—зараз Савецкай Беларусі, якая ў саюзе з братнімі рэспублікамі будуе сацыялізм!

Студзень, 1933
Менск

# 50 ГОД З ДНЮ СЬМЕРЦІ КАРЛА МАРКСА

## ТАВ. ЛЕНІН ПРА ТРЫ КРЫНІЦЫ І ТРЫ СУСТАЎНЫЯ ЧАСТКІ МАРКСЫЗМУ

ВУЧЭНЬНЕ Маркса выклікае да сябе ва ўсім цывілізаваным сьвеце вялізарнейшую варожасьць і нянавісьць усёй буржуазнай (і казённай лібэральнай) навукі, якая бачыць у марксызьме нешта накшталт „шкоднай сэкты“. Іншых адносін нельга і чакаць, бо „беспристрастной“ сацыяльнай навукі ня можа быць у грамадзтве, пабудаваным на клясавай барацьбе. Так ці інкш, але ўся казённая і лібэральная навука абараняе наёмнае рабства, а марксызм абвясьціў бязьлітасную вайну гэтаму рабству. Чакаць бяспрыстраснай навукі ў грамадзтве наёмнага рабства—такая-ж дурная наіўнасьць, як чакаць бяспрыстраснасьці фабрыкантаў у пытаньні аб тым, ці ня варта павялічыць плату рабочым, зьменшыўшы прыбытак капіталу.

Але гэтага мала. Гісторыя філёзофіі і гісторыя сацыяльнай навукі паказваюць з поўнай яснасьцю, што ў марксызьме няма нічога падобнага на „сэктанцтва“ у сэнсе якога-небудзь замкнутага, закасьцянелага вучэньня, узьнікшага ў баку ад сталбавой дарогі разьвіцьця сусьветнае цывілізацыі. Наадварот, уся геніяльнасьць Маркса заключаецца менавіта у тым, што ён даў адказы на пытаньні, якія перадавая думка чалавецтва ўжо паставіла. Яго вучэньне ўзьнікла, як просты і непасрэдны **працяг** вучэньня вялізарнейшых прадстаўнікоў філёзофіі, палітычнай эканоміі і сацыялізму.

Вучэньне Маркса ўсясільна таму, што яно верна. Яно поўнае і стройнае, дае людзям цэлы сьветапогляд непрымірымы ні з якімі забабонамі, ні з якой рэакцыяй, ні з якой абаронай буржуазнага прыгнёту. Яно ёсьць законны прыем-

нік лепшага, што стварыла чалавецтва ў XIX ст., у асобе нямецкай філёзофіі, ангельскае палітычнае экономіі, французскага сацыялізму.

На гэтых трох крыніцах і разам з тым сустаўных частках марксызму мы коратка і спынімся.

*

Філёзофія марксызму ёсьць матэрыялізм. На працягу ўсяе навейшае гісторыі Эўропы і асабліва ў канцы XVIII ст. у Францыі, дзе распачалася рашучая барацьба супроць прыгодніцтва ва ўстановах і ў ідэях, матэрыялізм аказаўся адзінай пасьлядоўнай філёзофіяй, вернай усім вучэньням прыродазнаўчых навук, варожай забабонам, ханжаству і г. д. Ворагі дэмакратыі імкнуліся таму ўсімі сіламі „опровергнуть“ падарваць, збэсьціць матэрыялізм і абаранялі розныя формы філёзофскага ідэалізму, які заўсёды зводзіўся так ці інакш да абароны ці падтрыманьня рэлігіі.

Маркс і Энгельс самым рашучым чынам абаранялі філёзофскі матэрыякізм і не адзін раз растлумачвалі глыбокую памылковасьць усякага адхіленьня ад гэтае асновы. Найбольш ясна і падрабязна выкладзены іх погляды ў творах Энгельса „Людвиг Фейербах“ і „Опровержение Дюринга“, якія падобна „Камуністычнаму маніфэсту“ зьяўляюцца настольнай кнігай кожнага сьвядомага рабочага.

Але Маркс ня спыніўся на матэрыялізьме XVIII ст., а пасунуў філёзофію наперад. Ён абагаціў яе набыцьцём нямецкай клясычнай філёзофіі, асабліва сыстэмы Гэгеля, якая ў сваю чаргу прывяла да матэрыялізму Фэйербаха. Галоўнае з гэтага набыцьця—д ы я л е к т ы к а, гэта значыць вучэньне аб разьвіцьці ў яго найбольш поўным, глыбокім і вольным ад аднабаковасьці выглядзе, вучэньне аб адноснасьці чалавечых ведаў, якія даюць нам адлюстраваньне вечна разьвіваючайся матэрыі. Навейшае адкрыцьцё прыродазнаўства—радый, электроны, ператварэньне элемэнтаў—удала падцьвердзілі дыялектычны матэрылізм Маркса, наперакор вучэньням буржуазных філёзафаў з іх „новымі“ зваротамі назад да старога і гнілога ідэалізму.

Паглыбляючы і разьвіваючы філёзофскі матэрыялізм, Маркс давёў яго да канца, распаўсюджыў яго пазнаньне прыроды на пазнаньне ч а л а в е ц к а г а г р а м а д з т в а. Вялізар-

нейшай заваёвай навуковай думкі зьявіўся гістарычны матэрыялізм Маркса. Блытаніна і самавольства, якое панавала да гэтага часу ў погллядах на гісторыю і на палітыку, зьмянілася надзвычай цэлай і стройнай навуковай тэорыяй, якая паказвае, як з аднаго ўкладу грамадзкага жыцьця разьвіваецца ў выніку росту вытворчых сіл другі, больш высокі,—з прыгодніцтва, напрыклад, вырастае капіталізм.

Таксама, як пазнаньне чалавека адлюстроўвае незалежна ад яго існуючую прыроду, гэта значыць, матэрыю, якая разьвіваецца, так грамадзкае пазнаньне чалавека (гэта значыць розныя погляды і вучэньні: філёзофскія, рэлігійныя, палітычныя і г. д.) адлюстроўвае эканамічны лад грамадзтва. Палітычныя ўстановы зьяўляюцца надбудовай над эканамічнай асновай. Мы бачым, напрыклад, як розныя палітычныя формы сучасных эўрапейскіх дзяржаў служаць умацаваньню панаваньня буржуазіі над пралетарыятам.

Філёзофія Маркса ёсьць закончаны філёзофскі матэрыялізм, які даў чалавецтву вялікую зброю пазнаньня, а рабочай клясе ў асаблівасьці.

*

Прызнаўшы, што эканамічны лад зьяўляецца асновай, на якой узвышаецца палітычная надбудова, Маркс больш за ўсё ўдзяліў увагі вывучэньню гэтага эканамічнага ладу. Галоўная праца Маркса—„Капітал“—прысьвячана вывучэньню эканамічнага ладу сучаснага, гэта значыць, капіталістычнага грамадзтва.

Клясычная палітычная эканомія да Маркса склалася ў Ангельшчыне, самай разьвітай капіталістычнай краіне. Адам Сьміт і Давід Рыкардо, дасьледуючы эканамічны лад, паклалі пачатак працоўнай тэорыі вартасьці Маркс працягваў іх справу. Ён строга абаснаваў і пасьлядоўна разьвіў теорыю. Ён паказаў, што каштоўнасьць усякага тавару вызначаецца колькасьцю грамадзка-неабходнага рабочага часу, які ідзе на выраб тавару.

Там, дзе буржуазныя эканамістыя бачылі адносіны рэчаў (памен тавару на тавар), там Маркс ускрыў адносіны

паміж людзьмі. Памен тавараў выражае сувязь паміж паасобнымі вытворцамі пры дапамозе рынку. Грошы абазначаюць, што гэта сувязь становіцца ўсё цясьней, непарыўна злучае ўсё гаспадарчае жыцьцё паасобных вытворцаў у адно цэлае. Капітал азначае далейшае разьвіцьцё гэтае сувязі: таварам становіцца рабочая сіла чалавека. Наёмны рабочы прадае сваю рабочую сілу ўласьніку зямлі, фабрык, прылад працы. Адну частку рабочага дню рабочы скарыстоўвае на тое, каб пакрыць выдаткі на ўтрыманьне сваё і сваей сям'і (заработная плата), а другую частку дню рабочы працуе дарма, ствярае дадатковую вартасьць для капіталістага, крыніцу прыбытку, крыніцу багацьця клясе капіталістых.

Вучэньне аб дадатковай вартасьці ёсьць краявугольны камень эканамічнай тэорыі Маркса.

Капітал, які створаны працай рабочага, душыць рабочага, разбурае дробных гаспадароў і ствярае армію беспрацоўных. У прамысловасьці перамога буйнай вытворчасьці відавочна адразу. Але і ў земляробстве мы бачым тыя-ж зьявы: пераважнасьць буйнага капіталістычнага земляробства павялічваецца, расьце дапасаваньне машын, сялянская гаспадарка пападае ў пятлю грашовага капіталу, падае і разбураецца пад ціскам адсталае тэхнікі. У земляробстве—іншыя формы разбурэньня дробнай вытворчасьці, але само разбурэньне яе ёсьць бясспрэчны факт.

Зьнішчаючы дробную вытворчасьць, капітал вядзе да павялічэньня прадукцыйнасьці працы і да стварэньня манапольнага становішча саюзаў буйнейшых капіталістых. Сама вытворчасьць становіцца ўсё больш грамадзкай—сотні тысяч і мільёны рабочых зьвязваюцца ў плянамерны гаспадарчы арганізм, а прадукт агульнай працы прысвойваецца жменькай капіталістых. Растуць анархіі вытворчасьці, крызісы, шалёная пагоня за рынкам, незабясьпечанасьць існаваньня для масы насельніцтва.

Павялічваючы залежнасьць рабочых ад капіталу, капіталістычны лад ствярае вялікую магутнасьць аб'яднанай працы.

Ад першых зачаткаў таварнай гаспадаркі, ад простага памену Маркс прасачыў разьвіцьцё капіталізму да яго вышэйшых формаў, да буйнае вытворчасьці.

І вопыт усіх капіталістычных краін, як старых так і новых, наглядна паказвае з кожным годам усё большай і большай колькасьці рабочых правільнасьць вучэньня Маркса.

Капіталізм перамог ува ўсім сьвеце, але гэта перамога ёсьць толькі пераддзьвер'е перамогі працы над капіталам.

*

Калі было скінута прыгоньніцтва і на сьвет божы зьявілася „вольнае“ капіталістычнае грамадзтва, адразу выявілася, што гэта воля азначае новую сыстэму ўціску і эксплёатацыі працоўных. Рознастайныя сацыялістычныя вучэньні зараз-жа пачалі ўзьнікаць, як адлюстраваньне гэтага ўціску і пратэст супроць яго. Але першапачатковы сацыялізм быў утапічным сацыялізмам. Ён крытыкаваў капіталістычнае грамадзтва, асуджаў, праклінаў яго, марыў аб яго зьнішчэньні, марыў аб лепшым ладзе, параконваў багатых у неабычнасьці эксплёатацыі.

Але утапічны сацыялізм ня змог паказаць сапраўднага выхаду. Ён ня ўмеў ні растлумачыць сутнасьці наёмнага рабства пры капіталізьме, ні адкрыць законы яго разьвіцьця, ні знайсьці тую грамадзкую сілу, якая спасобна стаць тварцом новага грамадзтва.

Між тым бурныя рэвалюцыі, якімі суправаджалася падзеньне фэўдалізму, прыгодніцтва усюды ў Эўропе і асабліва ў Францыі, усё відавочна ўскрывала, як аснову ўсяго разьвіцьця і яго рухаючую сілу, б а р а ц ь б у к л я с а ў.

Ніводная перамога палітычнай свабоды над клясай прыгоднікаў ня была заваёвана бяз вострага супраціўленьня. Ніводная капіталістычная краіна ня склалася на больш ці менш дэмакратычнай аснове, без барацьбы не на жыцьцё, а на сьмерць паміж рознымі клясамі капіталістычнага грамадзтва.

Гэніяльнасьць Маркса заключаецца ў тым, што ён змог раней за ўсіх зрабіць адсюль і правесьці пасьлядоўна той вывад, якому вучыць сусьветная гісторыя. Гэты вывад ёсьць вучэньне аб клясавай барацьбе.

Людзі заўсёды былі і заўсёды будуць дурнаватымі ахвярамі абману і самаабману ў палітыцы, пакуль яны не

навучацца за любымі звычкамі: рэлігійнымі, палітычнымі, сацыяльнымі формамі, заявамі, абяцанкамі адшукоўваць інтарэсы тых ці іншых клясаў. Прыхільнікі рэформы і палепшаньняў заўсёды будуць абманутымі абаронцамі старога, пакуль не зразумеюць, што ўсякая старая ўстанова, як-бы дзікай і гнілой яна ні здавалася, трымаецца сіламі тых ці іншых пануючых клясаў, ёсьць толькі адзін сродак: знайсьці ў самым акружаючым нас грамадзтве, навучыць і арганізаваць для барацьбы такія сілы, якія могуць—і па свайму грамадзкаму становішчу павінны скласьці сілу, якая зможа зьмесьці старое і стварыць новае.

Толькі філёзофскі матэрыялізм Маркса ўказаў пралетарыяту выхад з духоўнага рабства, у якім марынаваліся да гэтага часу ўсе прыгнечаныя клясы. Толькі эканамічная тэорыя Маркса растлумачыла сапраўднае становішча пралетарыяту ў агульным ладзе капіталізму.

Ва ўсім сьвеце—ад Амэрыкі да Японіі і ад Швэцыі да паўднёвай Афрыкі—множацца самастойныя арганізацыі пралетарыяту. Ён навучаецца і выхоўваецца, вядучы сваю клясавую барацьбу, пазбаўляецца ад забабонаў буржуазнага грамадзтва, злучаецца ўсё шчыльней і вучыцца вымяраць меру сваіх посьпехаў, загартоўвае свае сілы і расьце нястрымна.

*(ЛЕНІН т. XVI, СТАР. 349—353).*

# ТАВ. СТАЛІН ПРА ДЗЕЙНЫ РЭВАЛЮЦЫЙНЫ ХАРАКТАР МАРКСЫЗМУ-ЛЕНІНІЗМУ.

ІСНУЮЦЬ дзьве групы марксыстых. Абедзьве яны працуюць пад сьцягам марксызму, лічаць сябе сапраўды марксыцкімі. І ўсёткі яны далёка не аднолькавыя. Больш таго, паміж імі цэлая прорва, бо мэтады іх работы дыямэтральна супроцьлеглы.

Першая група звычайна абмяжоўваецца надворным прызнаньнем марксызму, яго ўрачыстым абвяшчэньнем. Ня ўмее

ці не жадае ўнікнуць у сутнасьць марксызму, ня ўмее ці нежадаеператварыць яго ў жыцьцё, яна жывыя і рэвалюцыйныя палажэньні марксызму ператварае ў няжывыя формы, якія нічога не гавораць. Сваю дзейнасьць яна асноўвае не на вопыце, не на вучоце практычнай работы, а на цытатах з Маркса.

Паказаньні і дырэктывы чэрпае яна не з аналізу жывой рэчаіснасьці, а з аналёгіі і гістарычных параляляй. Разыходжаньне слова з справай—такая асноўная хвароба гэтае групы. Адсюль расчараваньне і вечнае нездавальненьне лёсам, які заўсёды падводзіць яе, пакідае „з носам". Імя гэтай групы—меншавізм (у Расіі), апартунізм, (у Эўропе). Тав. Тышко (Іогіхес) на Лёнданскім зьезьдзе даволі трапна ахарактарызаваў гэту групу, сказаўшы, што яна не стаіць, а ляжыць на пункце гледжаньня марксызму.

Другая група, наадварот, пераносіць цэнтр цяжару пытаньня ад надворнага прызнаньня марксызму, на яго правядзеньне, на яго ператварэньне ў жыцьцё. Вызначэньне шляхоў і сродкаў ажыцьцяўленьня марксызму, якія адпавядаюць абставінам, зьмена гэтых шляхоў і сродкаў, калі абставіны зьмяняюцца—вось на што галоўным чынам зварачвае сваю ўвагу гэта група. Дырэктывы і паказаньні чэрпае гэта група не з гістарычных аналёгій і параляляй, а з вывучэньня навакольных умоў. У сваёй дзейнасьці апіраецца яна не на цытаты і выслоўі, а на практычны вопыт, правярае кожны свой крок на вопыце, вучыцца на сваіх памылках і вучыць другіх будаўніцтву новага жыцьця. Гэтым уласна і тлумачыцца, што ў дзейнасьці гэтае групы слова не разыходзіцца са справай, а вучэньне Маркса захоўвае цалкам сваю жывую рэвалюцыйную сілу. Да гэтае групы зусім падыходзяць словы Маркса, у сілу якіх марксыстыя ня могуць спыняцца на тым, каб растлумачыць сьвет, а павінны ісьці далей, з тым, каб зьмяніць яго. Імя гэтае групы—бальшавізм, камунізм.

Арганізатарам і правадыром гэтае групы зьяўляецца У. І. Ленін.

(*СТАЛІН—„ПРА ЛЕНІНА"*)

---

# ЖЫЦЬЦЯПІС КАРЛА МАРКСА

## (1818—1883)

Напісаны У. І. Леніным.

КАРЛ Маркс нарадзіўся 5 мая 1818 г. у горадзе Трырэ (Прырэйнская Прусія). Бацька яго быў адвакатам, па нацыянальнасьці яўрэй, які ў 1824 г. прыняў протэстанцтва. Скончыўшы гімназію ў Трырэ, Карл Маркс паступіў ва ўнівэрсытэт, спачатку ў Боннэ, а пасьля ў Бэрліне, вывучаў юрыдычныя навукі, але больш за ўсё гісторыю і філёзофію. Скончыўшы унівэрсытэт у 1841 г., прадставіўшы дысэртацыю пра філёзофію Эпікура. Па сваіх поглядах К. Маркс быў яшчэ тады гэгеліянцам—ідэалістам. У Бэрліне ён трымаў сувязь з гуртком „левых гэгеліянцаў“, якія імкнуліся з філёзофіі Гэгеля рабіць статыстычныя і рэвалюцыйныя вынікі.

Па сканчэньні унівэрсытэту К. Маркс перасяліўся ў Боннэ, разьлічваючы стаць прафэсарам. Але рэакцыйная палітыка ўраду, які ў 1832 г. пазбавіў кафэдры Людвіга Фэйербаха і ў 1836 г. зноў адмовіўся пусьціць яго ва унівэрсытэт, а ў 1841 г. адняў права чытаць лекцыі ў Боннэ ў маладога прафэсара Бруно Бауэра, прымусіла Карла Маркса адмовіцца ад вучонай кар'еры. Разьвіцьцё поглядаў левага гэгеліянства ў Нямеччыне ішло ў гэты час наперад вельмі хутка. Л. Фэйербах у асабліваcьці з 1836 г. пачынае крытыкаваць тэолёгію і паварачвацца да матэрыялізму, які ў поўнай меры бярэ верх у яго ў 1841 г. („Сутнасьць хрысьціянства“); у 1843 г. вышлі яго-ж „асноўныя“ палажэньні філёзофіі будучага. „Мы (гэта значыць, левыя гэгеліянцы, у тым ліку і К. Маркс) сталі адразу фэйербахаўцамі“. У гэты час рэйнскія радыкальныя буржуа, якія мелі пункты дачыненьня з левымі гэгеліянцамі, заснавалі ў Кёльне апазыцыйную газэту: „Рэйнскую газэту“. К. Маркс і Б. Бауэр былі запрошаны ў якасьці галоўных супрацоўнікаў, а ў кастрычніку 1842 г. К. Маркс зрабіўся галоўным рэдактарам і перасяліўся з Боннэ ў Кёльн. Рэвалюцыйна-дэмакратычны напрамак газэты пры рэдактары К. Марксе станавіўся ўсё больш вызначальным, і ўрад спачатку падпарадкаваў газэту

двайной і трайной цэнзуры, а пасьля выраšыў зусім зачыніць. Карлу Марксу прышлося пакінуць рэдактарства. Газэтная работа паказала Карлу Марксу, што ён недастаткова знаёмы з палітычнай эканоміяй, і ён шчыра ўзяўся за яе вывучэньне.

Увосень 1843 г. К. Маркс прыехаў у Парыж, каб выдаваць за мяжой, разам з Арнольдам Рунэ, радыкальную часопісь. Вышла толькі першая кніжка гэтае часопісі „Нямецка-француск. штогоднік". Яна спынілася з-за цяжкасьцяй нелегальнага распаўсюджваньня ў Нямеччыне. У сваіх артыкулах у гэтай часопісі К. Маркс выступае ўжо як рэвалюцыянэр, абвяшчаючы „бязьлітасную крытыку ўсяго існуючага" і ў прыватнасьці „крытыку зброі", апэлюючай да мас і да пралетарыяту.

У верасьні 1844 г. у Парыж прыехаў на некалькі дзён Ф. Энгельс, які стаў да гэтага часу самым блізкім другам К. Маркса. Яны ўдвох прынялі самы гарачы ўдзел у тагачасным кіпучым жыцьці рэвалюцыйных груп Парыжу, і выпрацавалі, рэзка змагаючыся з рознастайнымі вучэньнямі дробнабуржуазнага сацыялізму, тэорыю і тактыку рэвалюцыйнага пралетарскага сацыялізму. У 1845 г. К. Маркс па настойлівасьці прускага ўраду, як небясьпечны рэвалюцыянэр, быў высланы з Парыжу. Ён пераехаў у Брусэль. Вясной 1847 г. К. Маркс і Ф. Энгельс прымкнулі да тайнага прапагандысцкага т-ва „Саюзу камуністых", прынялі выдатны ўдзел на II зьезьдзе гэтага саюзу (лістапад 1847 г.) і па даручэньню зьезду склалі вядомы „Маніфэст камуністычнае партыі", які вышаў у лютым 1848 г.

Калі пачалася лютаўская рэвалюцыя 1848 г., К. Маркс быў высланы з Бельгіі. Ён прыехаў зноў у Парыж, а адтуль пасьля сакавіцкай рэвалюцыі—у Нямеччыну—у Кёльн. У Кёльне выходзіла „Новая рэйнская газэта"; галоўным рэдактарам быў К. Маркс. Новая тэорыя Карла Маркса была бліскуча пацьверджана ходам рэвалюцыйных падзей 1848—49 г г., як пацьвердзілі яе пазьней усе пралетарскія і дэмакратычныя рухі ўсіх краін сьвету. Перамогшая контррэвалюцыя спачатку аддала К. Маркса пад суд, а пасьля выслала з Нямеччыны (16 мая 1849 г.). К. Маркс адправіўся спачатку ў Парыж, але быў высланы і адтуль пасьля дэманстрацыі 13 чэрвеня 1849 г. паехаў у Лёндан, дзе і жыў да самай сьмерці.

Умовы эміграніцкага жыцьця былі надзвычайна цяжкія: матар'яльныя недахопы прыдушалі К. Маркса і яго сям'ю. Каб ня было сталай шчырай грашовай дапамогі з боку Ф. Энгельса, дык К. Маркс ня толькі ня змог бы скончыць „Капітал“, але і нямінуча загінуў-бы ад недахопаў.

Эпоха ажыўленьня дэмакратычнага руху канца 50-х і 60-х гадоў зноў заклікала К. Маркса да практычнае дзейнасьці.. У 1864 г. быў заснаваны ў Лёндане вядомы Першы Інтэрнацыянал (Міжнароднае таварыства рабочых).

К. Маркс быў душою гэтага таварыства, аўтарам яго першага „звароту“, шматлікіх рэзалюцый, заяў, маніфэстаў. Яднаючы рабочы рух розных краін, імкнучыся накіраваць у рэчышча сумеснай дзейнасьці разнастойныя формы непралетарскага, дэмакратычнага сацыялізму, змагаючыся з тэорыямі ўсіх гэтых сэкт і школ, К Маркс выкоўваў адзіную тактыку пралетарскае барацьбы рабочай клясы ў розных краінах. Пасьля перамогі над Парыскаю Камунаю (1871 г.) і пасьля расколу Інтэрнацыяналу бакуністамі, існаваньне К. Маркса ў Эўропе стала немагчымым. К. Маркс правёў пасьля кангрэсу Інтэрнацыяналу ў Гаазе (1872 г.) пераняссеньне генэральнага савету Інтэрнацыяналу ў Нью-Ёрк.

Напружаная работа ў Інтэрнацыянале і яшчэ больш напружаная тэарытычная работа канчаткова падарвалі здароўе К. Маркса. Ён працягваў сваю пераапрацоўку палітычнай эканоміі, сканчэньне „Капіталу“, зьбіраючы новыя матар'ялы і вывучаючы шэраг моў (прыкладам расейскую мову), але скончыць „Капітал“ яму не дала хвароба.

14 Сакавіка 1883 г. К. Маркс памёр.

---

**„Марксызм-ленінізм быў і ёсьць тое кіраўніцтва да пераможнага дзеяньня, якое зрабіла партыю бальшавікоў, пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна, непераможнай, паказала ёй шлях, загартавала яе, дазволіла перамагаць усе труднасьці, браць мацнейшыя крэпасьці“**

**(З адозвы Камінтэрну з повзаду 50-годзьдзя з дня сьмерці Карла Маркса)**

---

# ШТО ЧЫТАЦЬ ПРА КАРЛА МАРКСА І ПРА МАРКСЫЗМ

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА МАРКСЫЗМУ

Ленін—„Карл Маркс“. Артыкул, напісаны Леніным у 1914 годзе для энцыклёпэдычнага слоўніка Бракгаўза-Эфрона. У кароткім артыкуле ва ўмовах царскае цэнзуры Ленін змог даць бліскучы нарыс жыцьця і барацьбы Маркса і асновы марксысцкай тэорыі. Гэты артыкул за подпісам „У. Ільін“ быў надрукаваны ў слоўніку. Прычым, з яго былі выкінуты найбольш важныя мясьціны, што даводзілі рэвалюцыйную сутнасьць марксызму, як разьдзелы: „Аб тактыцы клясавай барацьбы пралетарыяту“ і „Сацыялізм“. Зараз артыкул надрукаваны ў 18-м томе збору твораў Леніна, а таксама ў зборніку Леніна „Маркс-Энгельс-марксізм“.

Маркс-Энгельс.—„Камуністычны маніфэст“. Праграма першай камуністычнай партыі, арганізатарамі якое былі Маркс і Энгельс. „Камуністычны маніфэст“ напісаны ў 1847 годзе, гэта значыць, амаль сто гадоў таму назад. Гэта выключны па сіле дакумант марксызму, перакладзены на ўсе мовы сьвету і распаўсюджаны ў мільёнах экзэмпляраў.

Ленін.—„Тры крыніцы і тры састаўныя часткі марксызму“. У вельмі невялікім артыкуле Ленін паказвае, што марксызм узьнік, як вучэньне на аснове крытычнай перапрацоўкі ўсяе навуковае спадчыны, створанай чалавецтвам да Маркса. Асноўнымі крыніцамі марксызму зьяўляюцца францускі матэрыялізм 18 века, клясычная ангельская палітэканомія і нямецкая ідэалістычная філёзофія Гэгеля. Ленін паказвае, як Маркс змог на гэтай аснове, адкінуўшы і выкрыўшы ўсе іх слабыя бакі і заганы, стварыць і разьвіць стройную навуковую сыстэму марксызму.

Артыкул, надрукаваны ў 16-м томе збору твораў Леніна, а таксама ў зборніку „Маркс-Энгельс-марксызм“.

Энгельс—„Разьвіцьцё сацыялізму ад утопіі да навукі“. Гэты твор Энгельса ўяўляе сабой тры перапрацаваныя разьдзелы з яго кнігі „Анты-Дзюрынг“. З гэтых разьдзелаў выкінуты палемічныя мясьціны з праф. Дзюрынгам. Тут Энгельс дае скарочаны гістарычны нарыс разьвіцьця чалавечае грамады ад сярэднявякоўя да капі

талізму, разглядаючы капіталізм, як гістарычную пераходную граманду, якая немінуча вядзе да ўласнай пагібелі і да перамогі пралетарскае рэвалюцыі.

Сталін.—„Гутарка з першай амэрыканскай рабочай дэлегацыяй“. „Пытаньні ленінізму“, стар. 263-ая.

У адказе на першае пытаньне, дадзенае дэлегацыяй, тав. Сталін дае красамоўную характарыстыку таго новага, што ўнёс Ленін у скарбніцу марксызму. Сталін растлумачвае, чаму ленінізм ёсьць марксызм эпохі імпэрыялізму і пралетарскай рэвалюцыі. Гэта выказваньне Сталіна выяўляе рэвалюцыйную сутнасьць марксызму-ленінізму, паказвае, што марксызм—ня догма, а рэвалюцыйнае вучэньне міжнароднага пралетарыяту, што марксызм ёсьць кіраўніцтва да рэвалюцыйнага дзеяньня.

## ЭКАНАМІЧНАЕ ВУЧЭНЬНЕ К. МАРКСА

Маркс.—„Заработная плата, цана і прыбытак“. Гэта кніжка ўяўляе сабой вельмі папулярнае выкладаньне асноў капіталістычнае грамады, пабудованай на выкалачваньні дадатковай вартасьці, прысваеньні капіталістамі неаплочанай працы рабочых. Вывучэньне гэтай кніжкі стварае ўмовы для лягчэйшага ўспрыйманьня першага тому „Капітала“.

## РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ ПАЛІТЫКА МАРКСЫЗМУ

Маркс.—„Грамадзянская вайна ў Францыі“. Гэта кніжка ўяўляе сабой адозву генэральнага савету першага Інтарнацыяналу з поваду Парыскай Камуны. Адозва напісана Марксам. Яна дае малюнак эканамічнага і палітычнага становішча Францыі ў пэрыяд франка-прускай вайны, што выклікала рэвалюцыю 1871 году. У гэтай адозве Маркс, аналізуючы палітыку Парыскай Камуны, асабліва застанаўліваецца на тых мерапрыемствах, якія выяўляюць клясавы твар Парыскай Камуны, як праобраз дыктатуры пралетарыяту.

Ленін.—„Дзяржава і рэвалюцыя“. Гэты клясычны твор марксызму-ленінізму напісаны Леніным напярэдадні кастрычніцкай рэвалюцыі (жнівень-верасень 1917 году). У гэтым творы Ленін ускрывае скрыўленьні і фальсыфікацыю марксызму апартуністамі II Інтэрнацыяналу.

Твор надрукаваны ў 21-м томе твораў Леніна і скарочана ў зборніку „Маркс-Энгельс-марксызм“

Ленін.—„Прадмова да лістоў Маркса к Кугельману“. Гэта прадмова напісана ў 1907 годзе пры выданьні рускага перакладу гэтых лістоў, рэдактарам якіх быў Ленін.

Прадмова ўваходзіць у дзесяты том збору твораў Леніна і ў зборнік „Маркс-Энгельс-марксызм“.

Сталін.—„Вызначэньне ленінізму“, „Гістарычныя карэньні ленінізму“. Уступ і першы разьдзел брашуры Сталіна „Аб асновах ленінізму“, які надрукаваны ў зборніку „Пытаньні ленінізму“. Лекцыі, прачытаныя тав. Сталіным у Сьвярдлоўскім унівэрсытэце ў 1924 годзе.

Маркс.—„Крытыка Готскай праграмы".—У гэтай кніжцы Маркс падвяргае жорсткай крытыцы праграму, складзеную „сацыял-дэмакратычнай рабочай партыяй Нямеччыны", пры аб'яднаньні яе з партыяй Ласаля „Усеагульны нямецкі рабочы саюз".

Маркс.—„Капитал". Гэта найвялікшы асноўны твор марксызму. У „Капітале" Маркс, пры дапамозе мэтаду матэрыялістычнай дыялектыкі, выявіў законы руху капіталістычнае грамады, выкрыў яе антаганістычныя супярэчнасьці і паказвае нямінучасьць рэвалюцыйнага нізрынуцьця гэтага ладу і ўстанаўленьня дыктатуры пралетарыяту. У першым томе Маркс, пачынаючы з аналізу тавару, яго вартасьці, пераходзіць да аналізу капіталу і паказвае крыніцу дадатковай вартасьці і працэс накапленьня ў капіталістычным грамадзтве, які ідзе як вынік галечы рабочых мас. Другі том дае аналіз працэсу звароту, які не адрываецца Марксам ад вытворчасьці, а разглядаецца ў іх адзінстве. Трэці том разглядае ўвесь працэс капіталістычнай вытворчасьці ў цэлым. Тут Маркс паказвае, як на аснове ўнутраных законаў капіталістычнай грамады абвастраецца асноўная супярэчнасьць капіталізму—паміж грамадзкім характарам працы і прыватным характарам прысваеньня—і на гэтай падставе абвастраюцца ўсе супярэчнасьці капіталізму, шго прыводзяць да клясавай барацьбы, да пралетарскай рэвалюцыі пралетарыяту. „Капітал" Маркса—гэта сьмяротны прысуд капіталізму.

Найглыбокшы эканамічны крызіс, які ахапіў зараз увесь капіталістычны сьвет, зьяўляецца красамоўным адлюстраваньнем правільнасьці „Капітала" Маркса.

Энгельс.—„Анты-Дзюрынг". Адзін з асноўных твораў марксызму у якім Энгельс дае асновы дыялектычнага матэрыялізму і эканамічнага вучэньне Карла Маркса. Гэтая кніга зьмяшчае ў сабе цэлы шэраг навуковых выказваньняў Энгельса пра сацыялізм.

Энгельс.—„Паходжаньне сям'і, прыватнай уласнасьці і дзяржавы". На аснове найбагатшага фактычнага матар'ялу Энгельс паказвае распластаваньне першабытнае радавое грамады і ўзьнікненьне на падставе распластаваньня грамады на клясы прыватнай уласнасьці, дзяржавы і новай формы сям'і.

Энгельс.—„Людвіг Фэербах".—Выкрываючы слабыя бакі матэрыялізму Фэербаха, Энгельс дае асновы матэрыялістычнай дыялектыкі марксызму, распрацаванай Марксам-Энгельсам.

Разам з тэзісамі Маркса аб Фэербаху, уяўляе сабой буйнейшы філёзофскі твор марксызму.

Ленін.—„Аб некаторых асаблівасьцях гістарычнага разьвіцьця марксызму". Артыкул напісаны Леніным у 1911 годзе і накіраваны супроць ідэйнага разброду, які ўносілі апартуністы як справа, гэтак і зьлева ў шэрагі рабочага руху. Ленін выкрывае спробы, якія пад прыкрыцьцём левых рэвалюцыйных фраз скрыўляюць вучэньне Маркса, імкнучыся зрабіць яго з жывога вучэньня мёртвай, застыглай догмай.

Гэты артыкул надрукаваны ў 15-м томе збору твораў Леніна і ў зборніку „Маркс-Энгельс-марксызм.

Ленін.—„Перапіска Маркса-Энгельса“. Няскончаны артыкул Леніна з поваду выданьня на нямецкай мове перапіскі Маркса-Энгельса. Гэты артыкул надрукаваны ў 17-ым томе твораў Леніна і ў зборніку „Маркс-Энгельс-марксызм“.

Ленін.—„Марксызм і рэвізіянізм“. Артыкул напісаны Леніным да 25-годзьдзя з дню сьмерці Маркса, у 1908 годзе для зборніка „Памяці Карла Маркса“. Гэты выключна яскравы артыкул выкрывае тэорыю і практыку рэвізіянізму, як міжнароднай апартуністычнай плыні, што спрабуе выхаласьціць Маркса і стварыць яго вучэньне ў лібэральна-буржуазную тэорыю. Гэта адзін з артыкулаў, які адлюстроўвае выключную ролю Леніна, бальшавікоў у барацьбе з апартунізмам на міжнароднай арэне яшчэ задоўга да сусьветнае вайны.

Сталін.—„Аб асновах ленінізму“.—Адзін з клясычных твораў марксызму-ленінізму. Сталін у сваіх лекцыях, прачытаных у Сьвярдлоўскім унівэрсытэце, дае бліскучы аналіз мэтаду, тэорыі, тактыкі і стратэгіі ленінізму. Сталін растлумачвае міжнароднае значэньне ленінізму, як вучэньне міжнароднага пралетарыяту, вучэньне аб сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі і дыктатуры пралетарыяту.

---

## *МАРКСЫЗМ І НАЦЫЯНАЛІЗМ.*

*Марксызм непрымірымы з нацыяналізмам, будзь ён самы «справядлівы», «чысьценькі», тонкі і цывілізаваны. Марксызм высоўвае на месца ўсякага нацыяналізму —інтэрнацыяналізм, зьліцьцё ўсіх нацый у вышэйшым адзінстве, якое расьце на нашых вачох з кожнай вярстой чыгункі, з кожным міжнародным трэстам, з кожным (міжнародным па сваёй эканамічнай дзейнасьці, а затым і па сваіх ідэях, па сваіх імкненьнях) рабочым саюзам.*

*Прынцып нацыяналньасьці гістарычна няўхільны ў буржуазным грамадзтве, і, лічачыся з гэтым грамадзтвам марксыст у поўнай меры прызнае гістарычную законнасьць нацыянальных рухаў. Але каб гэта прызнаньне не ператварылася ў апалёгію нацыяналізму, трэба, каб яно абмяжоўвалася найстражэй толькі тым, што ёсьць прагрэсыўнага ў гэтых рухах,—каб гэта прызнаньне не вяло да зацямненьня пралетарскай сьвядомасьці буржуазнай ідэалёгіяй.*

*Н. ЛЕНІН.*

---

## ЛІТАРАТУРНАЯ ВУЧОБА

*КУЗЬМА ЧОРНЫ*

# ВЯЛІКАЯ І МАЛАЯ ТЭМА

*РАЗВАРОТ ТВОРЧАГА ЗАМЫСЛУ*

Увечары вярнуліся з работы і сабраліся ўсё ў свайго брыгадзіра Косьціка Раўтовіча, каб падзяліць мануфактуру. Мануфактуру гэтую каапэрацыя адпусьціла на ўсю брыгаду. Яе было гэтулькі, што ўсім прышлося па кавалку, і яшчэ асталася адна хустка, добрая, вялікая, з жаўтаватага паркалю і ў кветкі.

Неяк гэтак вышла, што ня прышлося нічога з гэтай мануфактуры аднэй толькі жанчыне, Марылі. Праўда, яна апошнія дзён шэсьць не хадзіла разам з усімі жаць жыта, але не таму, што не хацела, а таму, што ёй даручылі варыць есьці дзецям у ясьлях. Можна сказаць, нято што даручылі, а проста таклі ўпрасілі, бо яна доўга не хацела станавіцца на гэту работу. Гэта трэба заўважыць, бо пра гэта цяпер увечары ў Косьцікавым двары такая пачалася гарачая гаворка, што кончылася яна сьлязьмі і спрэчкай.

Сам розум дыктаваў даць гэтую паркалёвую хустку Марылі: ёй ня прышлося мануфактуры, а хустка гэтая асталася. І кожны гэтак думаў, ня дурныя-ж людзі былі ў брыгадзе. Усё так ішлося, што адразу гэтак і зрабіць трэба было, аднак-жа адразу гэтага не зрабілі.

Мануфактуру дзялілі паміж сабой, вядома, тыя, што працавалі ў брыгадзе. Праца была цяпер цяжкая. Жанкі жалі сярпамі жыта, а мужчыны дакошвалі купістую сенажаць. Сярпамі жалі жыта не таму, што ў калгасе ня было жняяркі. Дзьве жняяркі, простая і снопавязалка, жалі ў іншым

палетку. А сярпамі жалі там, дзе быў засаджаны сад. Маладыя яблынькі адно самымі вяршкамі выглядалі паверх жыта. Пусьціць туды жняярку значыцца зглуміць сад і жняярку сапсаваць: шчэпы былі паабгароджаны калкамі. Работа жанкам на жніве была цяжкая. Дык з-за гэтага і пашоў гармідар.

— Што будзем рабіць з хусткаю?—падаў голас брыгіадзір Косьцік Раўтовіч, калі падзялілі мануфактуру.

Бачачы, што ўсе маўчаць, ён падказаў сваёй бпрыгадзе куды павярнуць гэтую хустку:

— Што будзем рабіць з Марыляю?—сказаў ён. Тады абазвалася з свайго месца маленькая жанчына Волечка, густавалосая, бялявая:

— Даць Марылі гэтую хустку.

— Даць, даць!—пачулася некалькі галасоў.

Косьцік ужо ўзяў хустку з табарэта, што стаяў пасярод двара і на якім мералі мануфактуру, і хацеў ужо даць яе Марылі. Але Марылі ён перад сабой ня бачыў.

— Марыля,—сказаў ён,—бяры хустку.

Марыля не падышла і не ўзяла хусткі.

— Марылі няма,—сказаў хтосьці.

— А дзе-ж яна?

Яна з самага пачатку, як толькі пачалі дзяліць, пашла дадому—там яна адно дзіця пакінула. Яна мне сказала, каб я ўзяла яе частку і занясла ёй. Давайце сюды хустку.

Гэта сказала Волечка, і ўсе глянулі на яе.

— А-а, якраз і няма яе,—сказаў Косьцік, рушыўшы да Волечкі, каб перадаць ёй хустку.

— Узяла-б дзіця на рукі і прышла-б сама,—пачуўся раптам бурклівы голас.

Гэта сказаў стары Уладзя Гельскі. Ён заўсёды пра ўсё гаварыў гэткім тонам, ці рад чым, ці ня рад, тон яго заўсёды аднолькавы, бурклівы. Раз, напрыклад, ён убачыў, як араты спыніў коняй і адвярнуўся ад ветру прыкурыць папяросу. Левы конь за гэтую паўхвіліну пасьпеў ублытацца ў пастронкі. „Каб на табе, хлопча, шэрсьць курэла з тваім куравам разам“—сказаў Уладзя Гельскі— „Бачыш, конь ублытаўся... Кураць, смокчуць без канца і бяз меры. У цябе ўжо мусіць ў вантробах, як ў коміне, усё пракурана“. І, сказаўшы гэта, Уладзя Гельскі здорава пыхнуў махорач-

ным дымам з вішнёвага папяросьніка. Другі раз было гэтак: хтосьці прынёс на сенажаць біклагу вельмі добрага хлебнага квасу. Дык і Уладзя Гельскі такі ніштавата пацягнуў з біклагі разам з усімі. І ўжо як падменчваў касу, пабурчэў сабе пад нос: „От, каб квасу, канечне, а вады з-пад гнілое крыніцы ня хочаш?!“

Дык і цяпер гэтак сама прабурчэў ён пра Марылю, што яна, не дачакаўшыся канца дзяльбы, пашла дадому.

— Я-ж кажу, што я ёй занясу хустку,—яшчэ раз сказала Волечка.

— Занясі, занясі,— бацькаўскім тонам сказаў Уладзя Гельскі.

Дык тут... і пачалася гаворка. Перш за ўсё падаўся крыху наперад Ёсіф Катлубайскі. Ён падаўся наперад гэтулькі, каб яго добра заўважыў сам брыгадзір Косьцік Раўтовіч. Але і не нагэтулькі ён вылез наперад, каб вельмі аддзяліцца ад натоўпу. Усё было зроблена неўзаметку і ўмеру.

— Даць гэтую хустку Косьцікавай Галене.

Гэта значыцца Косьцікавай жонцы. А гэта косьцікава Галена на работу чамусьці не хадзіла. Сама яна стаяла цяпер тут-жа.

Волечка ад гэтых слоў уся ўстрапянулася, але ў справу спачатку ня ўмяшалася, ня думаючы, каб справа сапраўды павярнула ў гэткі бок. І без яе тут абыйдзецца, а сказаць што-небудзь супроць Галены таксама ня добра, бо заўсёды яны жылі, як блізкія таварышкі. Бачачы-ж, што ўсе на момант прыціхлі, яна сказала гэтак, каб не пакрудзіць Галену.

— Чаму гэта не даваць хустку Марылі?

Ёсіф Катлубанскі ўставіў вочы сабе ў боты і ўпарта буркнуў.

— Каб ёй патрэбна была гэтая хустка, яна-б была тут.

— У яе дзіця малое.

— Магла-б узяць дзіця на рукі і прысьці сюды.

— Як-жа гэта будзе, усім што-небудзь прышлося, а Марылі нічога?

— Эт, усе на полі робяць да сёмага поту, а ёй там дзецям есьці наварыць невялікая работа. Яшчэ й сваіх дзяцей там лепш прыкорміць.

Тут і пачалася спрэчка. З аднаго боку, дзе задавала тон Волечка, крычалі:

— Яна не хацела ісьці ў ясьлі! Яна лепш-бы, ахватней была разам з ўсімі на полі.

— А есьці варыць, дык гэта не работа? Яна раней за цябе ўстае зранку, пакуль зьбярэ з чаго варыць?

Тут ня йдзе гаворка пра гэтае варыва, а пра Марылю. А яна нават лепш за ўсіх рабіла. Яна як рабіла на полі, дык больш за ўсіх жала.

На гэта ня было чаго сказаць, дык з таго боку, дзе задаваў тон Ёсіф Катлубанскі, адно чуваць было раз-поразу:

— Ай, цацка вялікая паркалёвая хустка! Гэтулькі крыку з-за няма нічога. Шкада, каб хустку ўзяла Галена! От бо народ! Бяры, бяры, бяры, Галена, хустку

Нарэшце ўжо справа павярнулася гэтак, што вышла было ня тое, што Марылі ня прыдзецца хустка, а тое,—як гэта Галена возьме хустку, калі яна на поле ня ходзіць рабіць тады, калі ўсе, што дзялілі мануфактуру, робяць дзень пры дні на полі.

— Вазьму хустку,—апраўдвалася Галена,—а пасьля ўсе гаварыць будуць, што, калі жонка брыгадзіра, дык і хустку ўзяла.

— А брыгадзіравай жонцы хусткі ня трэба ці што?— рубам паставіў справу Ёсіф Катлубанскі. І косьці ў ягоных скіўіцах заварушыліся. Бяры, бяры, Галена, хустку.

Галеніны вочы проста такі гарэлі, як кідала яна позіркі на хустку: ёй вельмі хацелася гэтую хустку ўзяць.

— Ліха ведае, што рабіць?—гаварыў адно раз-по-раз зьбянтэжаны Косьцік. Не хачу я гэтае хусткі. Пасьля адно крыўды не абярэшся.

І ён паклаў хустку на табурэт.

Бяры, бяры, Галена, бяры!—крычаў усё Ёсіф Катлубанскі.

Але Галена чакала, каб ёй хто даў гэтую хустку ў рукі.

— А як-жа Марыля будзе?—крычала Волечка.

Хустка ўсё ляжала на табурэце. Ніхто яе не чапаў. Усе па крысе адступаліся ад табурэта. Нарэшце, па адным пачалі разыходзіцца, бо было позна, даўно зьмеркла, і толькі

захад яшчэ ўсё ружавеў. Так усе і разыйшліся. Волечка ішла дадому крычучы сваім:

— Катлубанскі думае, што калі Косьцік брыгадзір, дык ужо і начальнік? Мы-ж яго самі выбралі за брыгадзіра. Гэта-ж гэтак падлізвацца к Косьціку! От чалавек! Падлізваецца! Падхлебнік нейкі, а не чалавек!

Усе ведалі, што гэта й сапраўды так. Таксама ведалі, што няма ніякае патрэбы Ёсіфу Катлубанскаму падлізвацца да Косьціка Раўтовіча.

Але ўжо раз хустка асталася на двары, а кожны сваё атрымаў, а тымчасам позна было, а заўтра, ледзь дзень накопіцца, уставаць трэба будзе, дык усе разыходзіліся, пачынаючы ўжо гаварыць пра сваю кожнадзённую работу. Адна толькі Волечка ўсё гаварыла пра „падхлебніка Ёсіфа Катлубанскага“, а як адыйшлася далей, дык загаварыла і пра Галену:

— Сквапная якая! Няма, каб сказала, што ня трэба мне, значыцца, гэтае хусткі, дык не—каб самой глынуць.

Неўзабаве ўсе разышліся, толькі некалькі мужчын і хлопцаў спыніліся на вуліцы закурыць на адыходак. І от яны ўбачылі, як Косьцік з вельмі гаспадарлівым заклапочаным выглядам прайшоў праз іх да калгаснага двара з мэтроўкаю (меркай) на плячы. Гэтаю мэтроўкаю ён цэлы той дзень мераў палеткі: рязьбіваў аратым дзялянкі і правяраў скошаныя сенажаці.

Так гэта было ці ня так, але некаторым здалося, што Косьцік гэта сумысьля і без патрэбы пашоў гэтакі заклапочаны на калгасны двор, каб паказаць, што ён вельмі многа стараецца, многа мае клопату. А значыцца, няма вялікае ў тым бяды, калі жонка яго ўзяла хустку. Так падумалі людзі.

— Узяла Галена хустку ці не?—сказаў паціху хтось-ці.

Усе адступілі пад Косьцікаву хату. У хаце гарэла газовачка. Яна ледзьве асьвятляла гэту старую трухлявую, чорную, як склеп, хацінку. Малюсенькае люстэрачка вісела ў ёй на сьцяне, і Галена стаяла перад ім у тэй самай хусцы на галаве, углядаючыся, ці да твару ёй гэтая хустка.

Убачыўшы гэта, усе і разышліся. І пра ўсё гэта назаўтра забыліся.

Не забылася толькі адна Волечка. Ёй не давала спакою „гэтая няпраўда". І назаўтра з самага раньня, калі яшчэ ня выганялі на поле жывёлу, яна пабегла да Марылі. Тая зьбіралася ісьці ў абору па малако ў ясьлі. Яна стаяла перад люстэркам і ўглядалася ў яго ці да твару ёй новая паркалёвая хустка. Волечка хацела расказаць Марылі пра ўчарашнія справы з хусткаю, і ня толькі расказаць, а заявіць, што яна гэтае справы так не пакіне. Але яна як-бы пачала пазнаваць хустку, што была на галаве ў Марылі.

— Якая гэта хустка?—запытала Волечка.

— А гэта мне толькі што Косьцік прынёс.

— Што-ж ён гаварыў—не сьцярпела Волечка.

— А ён гаварыў, што ўсе паднімалі гаворку ўчора, каб гэтую хустку даваць ня мне, а ягонай Галене. Але раз Галена на работу цяпер ня ходзіць, а я раблю, дык ён гэтую хустку прынёс мне. Не хачу, кажа, каб пасьля зьвягалі, што раз брыгадзір, дык сабе толькі найбольш глядзіць.

— Я адразу казала. Я яшчэ ўчора казала, што так трэба зрабіць. Дык мяне ўчора ня слухалі. А цяпер—дык самі... Каб я ўчора не пакрычала, дык так і асталося-б,—весела гаварыла Волечка.

*

Гэта апавяданьне. Яно напісана гэтак: аўтар бачыў усё так, як тут пададзена і гэтак запісаў, зрабіўшы толькі пэўны падбор фактаў. Некаторыя толькі другарадныя факты тут прыдуманы. Напрыклад, няўпісана сюды усё, што не належыць да справы з гэтаю паркалёваю хусткай доўгія гутаркі пра надвор'е, пра смольнае бярвеньне на Косьцікавым двары, пра калгаснага барана, на якім дзеці спанатравалі езьдзіць конна. Не запісана таксама пра нейкі „панскі сьпірытус": Уладзя Гельскі расказваў. Ён яшчэ быў малады, даўно гэта было. У нейкім панскім двары яго пачаставалі аднэй чаркай гэтага сьпірытусу: „І я ад аднае гэтае чаркі зьвіўся адразу к чоргавай матары. От мацунак, каб яго агні высмалілі". Гэтак расказваў Уладзя Гельскі з самага пачатку справы з паркалёвай хусткаю.

І шмат іншых было гутарак у той вечар на Косьцікавым двары. Але аўтар пісаў апавяданьне наконт справы з паркалёваю хусткаю, дык ён узяў толькі тое, што круцілася навакол гэтае справы. Ён выбраў патрэбныя яму факты і запісаў іх.

Але гэта ня значыць, што гэта адзіны ці прынамсі самы важны спосаб пісаць апавяданьні. Абсалютна ніякага спосабу нельга кананізаваць. Усялякая кананізацыя толькі зьвязвала-б індывідуальную волю кожнага аўтара, яго творчую арыгінальнасьць. Можна, напрыклад, ня выбіраць

факты з аднаго часу і месца, як у гэтым апавяданьні. Можна выбіраць факты, што былі не ў адзін вечар, а ў год—у два... І не ў адным месцы, а ў шмат якіх мясцох. Можна іх бачыць самому, а можна чуць, або чытаць пра іх. І пасьля складаць іх, падабраўшы іх, і выбраўшы іх паводле творчага замыслу.

Можна і „выдумляць“ факты. Напрыклад, у гэтым апавяданьні, каб даць характарыстыку Уладзю Гельскаму, прыдумана справа з квасам на сенажаці. Але аўтар ня так проста выдумаў гэта, а ў залежнасьці ад усяго складу Уладзі Гельскага, як характару. Аўтар ужо ведаў ягоную справу з аратым (калі араты курыў, а коні заблыталіся ў пастронках), аўтар ведаў і больш штрыхоў уласьцівых гэтаму чалавеку. І аўтар прыдумаў у залежнасьці ад гэтага „факт рэальны“, прачытаўшы пра які ніхто не сказаў-бы: „гэтага Уладзя Гельскі зрабіць (або сказаць, ня можа. Гэта выдумка з квасам патрэбна была аўтару на тое, каб паказаць, чаму Уладзя Гельскі пачаў раптам бурчэць, як дазнаўся, што калгасьніцы Марылі няма на Косьцікавым двары. Вось якога гатунку гэта выдумка...

Адным словам, аўтар запісаў факты гэтакія і гэтулькі, каб вышла апавяданьне, дадаўшы сюды некаторую частку выдумкі (толькі ў дэталях для службовае ролі).

Апавяданьне напісана, малая тэма пра дзяльбу мануфактуры скончана так сама, як скончылася справа з таёю паркалёваю хусткаю.

*

Але ня скончылася справа з чалавечымі вобразамі, з тымі вялікімі прычынамі, якія вымушалі людзей рабіць малыя справы, калі ў брыгадзіравым двары спрачаліся за паркалёвую хустку. Падумаем пра некаторыя моманты.

1. Ёсіф Катлубанскі, калі пачаў угаварваць Косьціка, каб ягоная жонка ўзяла хустку, „падаўся наперад гэтулькі, каб яго добра заўважыў сам брыгадзір Косьцік Раўтовіч. Але і не на гэтулькі ён вылез наперад, каб вельмі аддзяліцца ад натоўпу. Усё было зроблена неўзаметку і ўмеру“.

2. „Так гэта было ці ня так, але некаторым здалося, што Косьцік сумысьля і без патрэб пашоў гэтакі заклапочаны на калгасны двор, каб паказаць, што ён вельмі многа стараецца, многа мае клопату. А значыцца няма вялікае ў тым бяды, калі жонка яго ўзяла хустку“.

3. „Газоўка ледзьве асьвятляла гэтую старую трухлявую чорную, як склеп хацінку“ (Косьцікаву)

4. „Волечка ўсё гаварыла пра „падхлебніка“ Ёсіфа Катлубанскага“

Хоць-бы гэтыя моманты.

Волечка сапраўды мела рацыю, калі абзывала Ёсіфа Катлубанскага падлізьнікам. ці як яна казала—падхлебнікам. Гэты чалавек выразна падлізваўся да брыгадзіра. Брыгадзір, значыцца, быў яму гэткая асоба, гэтакі начальнік. якому трэба падлізацца. (Бо Ёсіф Катлубанскі не такі ўжо й дурань: добра-ж ён ведае, што нязручна было Галене браць тую хустку). Але Ёсіф Катлубанскі стараўся і ня вылазіць лішне наперад, каб гэта ўсё ня лішне кідалася ў вочы людзям. Можна здагадвацца, што

гэты чалавек хацеў-бы, каб было гэтак: каб сам брыгадзір ведаў, што ён яму спрые, а каб больш ніхто пра гэта ня ведаў. Бо часам, калі людзі не здаволены сваім брыгадзірам, Ёсіфу Катлубанскаму добра-б тады. зусім шчыра аблаяць брыгадзіра (завочы, вядома). Але яму могуць сказаць: „Што-ж ты яго лаеш цяпер, а ра́ней дык ты падлізваўся да яго“.

Вось які выявіўся чалавек Ёсіф Катлубанскі. Чалавек няшчыры, падлізьнік. Чалавек двуісты. Стараецца думаць і рабіць гэтак, як дзьме вецер. Гэта, можна сказаць, хітры чалавек.

Але якая гэта хітрасьць?

Кожная чалавечая якасьць пазнаецца з яго дзейнасьці. Як-жа жыў і жыве Ёсіф Катлубанскі? І на што яму канешне падлізвацца да брыгадзіра?

Вывучаючы гэтага чалавека, як прататыпа да стварэньня чалавечага вобразу ў літаратуры, (калі карыстацца гэтым спосабам), аўтар даведаўся, што гэты чалавек ёсьць тып гаротніка. Кажуць, што ягоны бацька быў „заядлы чалавек“: разьбіў калісьці вялікім каменем галаву суседу за тое, што суседзкі певень выграб яму ў гародзе каляў тры тутунёвай расады. Гэта было яшчэ за старым часам. Колькі магла каштаваць тая расада? Некалькі капеек. Значыцца, на суседа ў яго была капеечная крыўда. А за гэтую капеечную крыўду магла прапасьці суседзкая галава. Жыцьцё нават у гэтых людзей мерылася капеечнаю крыўдаю. Так сказаць, жыцьцё мела капеечны бюджэт. Натуральна гэтакім бюджэтам прывык мераць жыцьцё і сын, Ёсіф Катлубанскі: гадаваўся-ж ён пры бацьку. Можна сьмела гаварыць, што і падлізваньне яго да брыгадзіра ёсьць яго капеечная „хітрасьць“. І хіба мы можам сказаць, бяручы пад увагу гэту яго несымпатычную рысу, што гэта не калгасьнік, што гэта чалавек не савецкі? Вось якое пытаньне ўзьнікае. Тое-ж самае і наконт брыгадзіра Косьціка Раўтовіча. Скажам, ён сапраўды гэта ў той вечар сумысьля і без патрэбы праходзіў перад людзьмі на калгасны двор з мэтроўкаю, каб паказаць сваю стараннасьць Гэта рыса, вядома, несымпатычная, але—

„газоўка ледзе асьвятляла гэтую старую, трухлявую чорную, як склеп, хацінку“

Што чалавечае жыцьцё магло быць калі-небудзь у гэтай хацінцы? Асуджаныя на век вечны людзі жыць гэтак—хіба яны маглі быць гарманічныя, ясныя? А Косьцікавы-ж бацькі, дзяды жылі гэтак, несьлі на сабе ўраз усё жыцьцё сваё, гэтую асуджанасьць. Цяперашні брыгадзір радзіўся на сьвет у гэнай самай чорнай нары.

Назаўтра Косьцік панёс хустку з хаты. Ён ня вытрымаў „злачынства“. Дзень пры дні ён заўсёды вельмі старанна вёў сваю брыгадзірскую работу так сама як і Ёсіф Катлубанскі, ёсьць адзін з добрых калгасьнікаў. І разам з тым выступаюць і несымпатычныя рысы.

Такім парадкам мы кінулі позірк на людзей у часе: мы зірнулі ў глыб гэтага часу і там ва ўчарашнім дні стараліся знайсьці крыніцы сёнешніх чалавечых учынкаў. І цяпер нам сталі ясныя некаторыя моманты ўсяе гэтае справы людзі носяць у сабе спадчыну і ад яе ня могуць вызваліцца ў адзін дзень. І чым больш яны ўрастаюць у сваю новую справу (калгас), чым

больш яны гэтую справу адводзяць ад спраў учарашняга свайго спосабу жыцьця, чым больш яны гэтую сваю новую справу вылушчваюць з спраў учарашніх, тым больш і самі вылушчваюцца з гэтых учарашніх спраў. Прыклад таму Волечка. Яна свой калгас выпакутвала, можна сказаць; яна ў калгасе больш за ўсіх тых, што былі ў той вечар на дварэ, яна належыць да ліку арганізатараў калгасу. Гэта пасьля аўтар высьветліў, калі вывучаў гэты характар.

Дык вось: у ход пайшлі сёнешнія ўчынкі людзей, псыхалёгічная спадчына, прычыны, што нарадзілі тое, што засталося ў спадчыну (пра жытыя ўжо часы гэтымі людзьмі). І ўсё гэта ўнікла з патрэбы даць тлумачэньне людзкім учынкам, паказаць гэтых людзей у ходзе іхняга разьвіцьця. Мы бачым, што ўжо да гэтага моманту тэма пачынае разрастацца. Мы прымушаны гаварыць пра маленства і юнацтва гэтых людзей, а, значыцца, пра тыя падзеі, што адбываліся тады (у сувязі з гэтымі падзеямі фармаваліся людзі). Мы, значыцца, прымушаны загаварыць пра тое, як гэтыя людзі жылі, расьлі, фармаваліся, зьмяняліся, у які бок ішлі па сваіх дарогах.

А тымчасам у гэты самы час, калі гэтакія эвалюцыі перажывалі гэтыя людзі, былі якраз войны, рэвалюцыі, перадваеныя і перадрэвалюцыйныя гады. А пасьля—некалькі этапаў нашае рэвалюцыі,—да сёнешняга дню. Гэтыя людзі так ці інакш праходзілі войны, так ці інакш праходзілі рэвалюцыі, ці, прынамсі, мелі дачыненьне і да вайны і да рэвалюцыі. А якое дачыненьне? І як?

Косьцік Раўтовіч, напрыклад, быў мабілізаваны ў канцы імпэрыялістычнае вайны, удзельнічаў пасьля ў вайне грамадзянскай, як чырвонаармеец і вярнуўся пасьля дадому, пасьля гэтае вайны.

Мы бачым, як шырока разгарнулі тэму, мы дайшлі ўжо да зусім новага творчага замыслу. Перад намі паўстаюць ужо людзі ў малюнках вайны і рэвалюцыі. Перад намі ўжо малюнкі нават як ішла рэвалюцыя, якая была вайна, якое месца ў гэтых працэсах займала старая Косьцікава чорная, як склеп, хаціна..· Больш таго хаціне гэтай напэўна ўжо год пад семдзесят. (Рэчы перажываюць людзей). Як выглядаў сьвет тады, калі будавалася гэта хата? Якія людзі будавалі яе. Нас пачынае цікавіць жыцьцёвы працэс у гэтай хаце, ці каля яе, з моманту пабудовы яе і да нашага часу, калі мы напярэдадні бясклясавага грамадзтва.

Маштаб нашага замыслу шырыцца. Усе героі малога апавяданьня просяцца ў большыя творчыя замыслы, у шырэйшыя пляны. Яны хочуць паказаць сябе: і Ёсіф Катлубанскі вымагае шырокага псыхолёгічнага развароту і Косьцік Раўтовіч і Волечка. І нават бацькі гэтых людзей. Вырасла вялікая тэма. Яна перарасла межы апавяданьня. Перад нам працэс жыцьця, наш замысел накіроўвае нашу ўвагу на гістарычную абумоўленасьць жыцьцёвых падзей, чалавечых учынкаў, чалавечых вобразаў.

У гэтакім стане быў разварот вялікае тэмы ў аўтара праз малы час, пасьля таго, як малая тэма рэалізавалася ў апавяданьне. Але неўзабаве аўтар знайшоў яшчэ такое „дапаўненьне“ да сваіх замыслаў, якое пачало прэтэндаваць на заняцьцё галоўнае, цэнтральнае лініі ва ўсёй тэме.

*

Папаўдні было на вуліцы пуста. Сьпёка стаяла ў паветры. Сонныя вароны відны былі на жэрдзяных загарадзях ля паплавоў.

Была прытульная мясьціна на прызьбе ля самае старое хаты: хата стаяла крыху ўглыб двара і перад ёю расьлі клёны і каштаны. Там, на прызьбе, і сядзеў цяпер Уладзя Гельскі. Шырака і цьвёрда паставіўшы ногі на зямлю, ён, здавалася, урос у гэтую прызьбу. Саломінаю ён калупаў зубы.

Неўзабаве вышаў да яго гаспадар тэй хаты, ля якое ён сядзеў, высокі чалавек:

— Хутка трэба ісьці,— сказаў высокі.

— Пойдзем зараз,—адказаў Уладзя Гельскі.

— Сёньня бадай што мы гэтае сена і высушым.

— Можа быць.

— У мяне зуб у граблях зламаўся. Дык ты пасядзі тут, а я пайду гэты зуб устаўлю, і тады пойдзем.

— Ідзі ўстаў і тады пойдзем.

— Я марудзіць ня буду. Я от зараз. Яшчэ ня позна, яшчэ ніхто нават і снапы вязаць ня йшоў пасьля абеду.

Уладзя Гельскі астаўся адзін.

Неўзабаве падышла да яго калгасьніца Рыва.

— Ішлі ўжо жанкі снапы вязаць?—запытала яна.

— Ага,—засьпяваў Уладзя Гельскі,—даўно пайшлі.

— Ня можа быць!—перапалохалася жанчына.

— От табе і ня можа!—холадна прабубніў Уладзя Гельскі.

— У каторы-ж яны палетак пайшлі?—аж калацілася жанчына.

Уладзя Гельскі спачатку яшчэ памучыў: ён спакойна калупнуў зубы, пачухаў за каўняром і дастаў тутунь з кішэні. Пасьля ўжо даў адказ:

— Ня ведаю, ґалубка, у які палетак пашллі. І твар яго быў спакойны і халодны, нічога на гэтым твары ў гэты момант не адлюстравалася.

— У які-ж мне палетак бегчы?

— А што я ведаю?

Жанчына пабегла.

Ужо ўвечары стала ведама, што яна дала ў той дзень ходу, шукаючы вязальнікаў: яна абегла два палеткі і нідзе нікога

не нашла. Яна ўбачыла, што з яе накпілі, што яшчэ вязальнікі ня прышзі пасьля абеду на работу. І яна адна пачала вязаць снапы. Нейкі час яна вязала і, бачачы, што ніхто ня прыходзіць, кінулася ў другі палетак, там ужо ішла работа.

— Позна прыходзіш!—накінуліся на яе.

— Я раней за ўсіх прышла. Я ў тым палетку вязала!—пачала апраўдвацца яна.

— Чаму-ж ты разам з усімі ня ходзіш. Трэба раней гэты палетак скончыць.

Яна пачала расказваць, як з яе накпіў Уладзя Гельскі. Яна заплакала.

Увечары Волечка, белявая малая жанчына, крычала на ўсю вуліцу перад натоўпам:

— Папытайцеся вы, нашто Гельскі гэтакія кпіны строіў! За гэтакі зьдзек ня трэба дараваць. Дзядзька Пракоп,—зірнула Волечка ў вочы высокаму чалавеку, ля хаты якога накпіў Уладзя Гельскі з жанчыны,—ты разам з Гельскім сена гроб, можа ён табе гаварыў што-небудзь пра гэта? Нашто ён кпіны гэтакія строіць?

Пракопа ўсе ведаюць, як чалавека, які не любіць гвалту, гармідару. Але ён ня вытрымаў доўгага Волечкавага позірку:

— Ён мне нічога не казаў пра гэга,—ціха выгаварыў ён,—але раней ён гаварыў,што паналазілі жыды на зямлю, што калгасы гэта паншчына...

Усё было скончана. Паміж Пракопам і Уладзем Гельскім стварылася прорва. Гэта адразу ўбачыў і сам Пракоп.

— А чаго-ж ён у калгасе,—калі калгас паншчына?—крыкнула Волечка.

— Як на мой розум,—сказаў павольна слова за словам Пракоп,—дык каб ён быў індывідуал, то яму, значыцца, ня выгадна быць за індывідуала.

Прорва яшчэ павялічылася. Яна ўжо ўсталявалася на цэлы век. І Пракоп секануў далей:

— Ты, Волечка, пытаеш. А ты-ж сама ведаеш, ён увесь час супроць калгасу. Ён з самае вясны стараўся пасварыць калгасьнікаў аднаго з адным.

І тады пачалося. Пачалі ўспамінаць усё пра Уладзю Гельскага. І тое, што ён перад вайною быў сальнік і што ён у вайну скупліваў сьвіньней і прадаваў вайсковым часьцям і што ў яго

цяпер заўсёды можна паўлітра гарэлкі дастаць (больш як паўлітра зараз не дае—баіцца. Так і пачалі крычаць). Крычаў хтосьці і пра тое, што Ўладзя Гельскі напэўна мае яшчэ і золата, закапанае дзе-небудзь у гаршку.

— Чаму-ж дагэтуль мы ўсе маўчалі!—грозна спытала Волечка.

У калгасе не на жарты пачалася справа з Гельскім.

*

Такім парадкам у новым сьвятле паўстала постаць Уладзі Гельскага. Калі ў справе з паркалёваю хусткаю ён тлумачыўся, як бурклівы сьмяхун і ўрэшце ўсяго ён, нейкі дабрадушны чалавек з сьмешнаю фантазіяй, дык цяпер паўстае ён як хітры і двуісты тып. Хіба можа ня быць думкі, што ён ня так сабе хацеў, каб Марыля атрымала хустку? Тут быў пэўны замысел: было-б нездавальненьне, спрэчкі, неспакой. А з дробнага вырастае вялікае. А шмат дробных фактаў, злучаных разам, могуць скончыцца ня жартам.

Мы бачым клясавага ворага. Ён дзейнічае гэтак тонка, што можа ўяўляцца як добры жартаўнік. Гэтакі ён уцёрся ў першае апавяданьне, „Паркалёвая хустка". І нават прымусіў аўтара выдумаць яму дзеля ягонае характарыстыкі справу з квасам на сенажаці. Уладзя Гельскі, гэты хітры тып, даў аўтару здаравенную пстрычку ў нос. Аўтар сам прызнаецца ў гэтым. З Уладзі Гельскага нельга зьняць і яго жартаўлівасьці. І дзе трэба, трапнасьці ягонага слова. Гэта так. Але за гэтым усім хаваецца сапраўдны твар гэтага чалавека. Чалавек выявіўся у дзейнасьці. Уладзя Гельскі паказаў аўтару на памылкі яго першага апавяданьня.

Уладзя Гельскі разгарнуў нашу тэму.

Перад намі—сялянства. Яно папаўняе сабою розныя катэгорыі. Каб паспрыялі ўмовы, Уладзя Гельскі мог-бы вырасьці ў больш мацнейшага гандляра, а там, можа, дарос-бы і да немалога купца, у прадпрыёмцу. Таксама гэта накіроўвае наш позірк туды, дзе сяляне, трапляючы на фабрыкі і заводы, папаўнялі сабою пралетарыят. Вобразы пралетарыяту вырысоўваюцца перад намі.

Войны, рэвалюцыі, фармаваньне клясаў, увесь працэс гісторыі—вось да якіх гіганцкіх карцін вырасла наша тэма. У цэлы комплекс тэм перарасла яна.

# МАКСІМ ГОРКІ ПРА ЛІТАРАТУРНУЮ ВУЧОБУ

Ня было ў гісторыі сусьветнай літаратуры пісьменьніка, які зрабіў бы такую вялізарную дапамогу маладым, пачынаючым літаратарам, як Максім Горкі.

Горкі для нас прыклад таго, чым павінен быць пралетарскі пісьменьнік-рэвалюцыянэр, які зброяй мастацкага слова актыўна змагаецца за вызваленьне ўсяго працоўнага чалавецтва ад капіталістычнага рабства.

Імя Горкага, які аддаваў і аддае ўсё сваё жыцьцё барацьбе за вызваленьне пралетарыяту, атулена найглыбейшай павагай і любоўю шырокіх працоўных мас усяго сьвету.

Яго творы—лепшы доказ правільнага разуменьня ім тых задач, якія стаяць перад пралетарскай літаратурай. Яны зьяўляюцца мацнейшай зброяй у справе клясавага выхаваньня пралетарскіх мас для далейшай барацьбы за ідэі камунізма, ідэі Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Зьяўленьне ў друку першых твораў Горкага адразу прыцягнула да сябе ўвагу ня толькі чытачоў, але і тых, якія прабавалі свае сілы ў галіне мастацкай літаратуры. Ён стаў магнэсам, да якога пачала цягнуцца маладая пралетарская літаратура.

Пісьменьнік, які шчыльна зьвязваў сваю работу з пралетарыятам, з яго авангардам—ленінскай партыяй, з вялікай любоўю і стараннасьцю дапамагае „самавучкам", якія выходзілі з асяродзьдзя працоўных мас.

Першыя кнігі рабочых пісьменьнікаў, якія выйшлі ў гады царызму, былі абавязаны сваім зьяўленьнем Горкаму, які ніколі не шкадаваў працы і часу для перадачы свайго багацейшага творчага вопыту.

У артыкуле „Аб пісьменьніках-самавучках“ (часопісь „Современный мир“, люты 1911 г.) Горкі ўспамінае, што за час 1906—1910 г. г. ім прачытана больш чатырохсот рукапісаў. Ён ня толькі прачытаў рукапісы, але і зрабіў значную дапамогу сваімі парадамі кваліфікаванага майстра-таварыша.

Ня толькі прадмовы да зборнікаў новых рабочых аўтараў, як гэта мела месца з кнігай Марозава „Разрыў-трава“ (1913 г.), але і стараннае зьбіраньне лепшых твораў новых пралетарскіх пісьменьнікаў характарызуе Горкага.

Ён быў упэўнены, што працоўныя масы, якія бадзёра, з сьвежымі сіламі прыступілі да новай справы, створаць пралетарскую культуру.

Рэдагуючы адзін з першых калектыўных зборнікаў пралетарскіх пісьменьнікаў (1914 г.), М. Горкі ў прадмове падкрэсьлівае, што „пралетарыят можа стварыць сваю мастацкую літаратуру“, і далей: „магчыма, аб гэтай кніжцы ўспомніць, як аб адным з першых крокаў рускага пралетарыяту да ўтварэньня сваёй мастацкай літаратуры“.

З пачынаючымі паэтамі і пісьменьнікамі Горкі падтрымоўваў доўгачасныя сувязі. Дзякуючы яго падтрыманьню, у літаратуру прышлі Бабель, Гладкоў, Новікэў-Прыбой, Трэнеў, Каверын, Пад'ячаў, Дзямідаў, Касаткін, Вольнаў, Ус. Іванаў ды шмат іншых.

Дапамога Горкага ўзрастаючым кадрам літаратуры пасьля рэвалюцыі набыла яшчэ большыя памеры.

З асяродзьдзя рабочае клясы, з заводаў, з калгасаў высоўваюцца сотні новых пісьменьнікаў, якім неабходна дапамога.

Горкі шмат сіл і энэргіі аддае гэтай рабоце. Па яго ініцыятыве і пад яго рэдакцыяй створана часопісь „Литературная учеба“. Вялізарная перапіска Горкага з новымі літаратурнымі кадрамі, гутаркі з рабочымі-ўдарнікамі, закліканымі ў літаратуру, у якіх ён расказвае аб тым, як ён дасягнуў свайго майстэрства,—усё гэта робіць вялізарную дапамогу іх творчай вучобе, якая мае на мэце „навучыць пачынаючых пісьменьнікаў літаратурнай пісьменнасьці, рамяству пісьменьніка, тэхніцы справы, рабоце словам і рабоце над словам“

Артыкулы і прамовы Горкага па пытаньнях літаратуры амаль выключна будуюцца на канкрэтным матар'яле, на разглядзе паасобных кніжок, рукапісаў, і ў гэтым іх найвялікшая карысьць, таму, што яны зьяўляюцца канкрэтнай ідэйна-мастацкай дапамогай маладым аўтарам у іх творчай рабоце.

Горкі не адрывае „тэхнічнай" вучобы пісьменьніка ад ідэйна-палітычных задач нашай літаратуры, падкрэсьліваючы новы літаратурны зьмест той літаратурнай тэхнікі, якая ствараецца зараз і якая якасна адрозьніваецца ад мастацкіх прыёмаў старой буржуазна-дваранскай літаратуры.

Ён разьвівае думку аб тым,што ўсе элемэнты формы мастацкага твору знаходзяцца ў найшчыльнейшым адзінстве з зьместам дадзенага твору і адначасна робіць шэраг заслужоных папрокаў нашай крытыцы, якая павінна вучыць і выхоўваць пісьменьніка ня толькі разглядам ідэйнага зьместу яго творчасьці, але і аналізам усіх элемэнтаў формы—ад кампазыцыі, сюжэта да мовы ўключна.

У сваіх артыкулах і выказваньнях Горкі падкрэсьлівае вялізарную ролю літаратуры, яе грамадзка-выхаваўчае значэньне. Таму ён так часта гаворыць аб культурнасьці пісьменьніка аб неабходнасьці ўвесь час вучыцца, авалодваючы ўсімі дасягненьнямі культуры, бо „пралетарская культура павінна зьявіцца законамерным разьвіцьцём тых запасаў ведаў, якія чалавецтва выпрацавала пад прыгнётам капіталістычнага грамадзтва, чыноўнічага грамадзтва" (Ленін).

Павучаючы людзей,—кажа Горкі,—расказваючы ім аб рэчаіснасьці, „пісьменьнік абавязан усё ведаць, увесь струмень жыцьця і ўсе дробныя цуркі струменя, усе супярэчнасьці рэчаіснасьці, яе драмы і камэдыі, яе гераізм і нікчэмнасьць, ману і праўду".

Імкнуцца да паказу тыповага, найбольш характэрнага—гэта асноўнае, да чаго павінен імкнуцца кожны пісьменьнік.

Падрабязна тлумачачы рабочым-ударнікам усе недахопы іх твораў, Горкі ясна і пэўна ўскрывае спэцыфіку мастацкай літаратуры (гл. Макар'еў „Пометки Горького на книжках начинающих писателей", М. Горкі „Лісты з рэдакцыі" у часопісе „Литературная учеба")

Артыкулы М. Горкага пра літаратуру, літаратурную тэхніку, нататкі аб творчасьці пачынаючых пісьменьнікаў, шмат-

лікія лісты, прысьвячаныя разгляду іх твораў і творчасьці, зьяўляюцца найбагатшым матар'ялам для вучобы.

Савецкія пісьменьнікі, рабочыя-ўдарнікі, заклікаными ў літаратуру, у гэтых матар'ялах атрымоўваюць для сябе ўсё новыя і новыя паказаньні, парады, канкрэтную дапамогу.

Ніжэй мы зьмяшчаем шэраг урыўкаў з артыкулаў і выказваньняў М. Горкага па пытаньнях літаратурнай вучобы.

## Аб рабочых-ударніках, закліканых у літаратуру

Вас, таварышы, тысячы, і пэўна, што сярод вас ёсьць людзі, якія праз гады, праз пяць, магчыма праз дзесяць год павінны ўвайсьці ў літаратуру гаспадарамі. У вас ёсьць для гэтага тое, чаго літаратары майго пакаленьня і наступнага за мной ня мелі: шырокае веданьне і разуменьне тэй энэргіі, якая вытварае ўсякія рэчы і зьмяняе ўсе суадносіны паміж людзьмі.

Вы стаіце ў асяродку гэтага жыцьця, у яго гушчы.

Гэта ня можа ня жывіць вас надзвычай сытна, надзвычай багата вопытам, ня можа ня даць вам прыгожы і новы матар'ял. Вы ўвойдзеце ў жыцьцё значна лепш і багацей узброеныя, чым уваходзілі людзі майго пакаленьня.

Мне здаецца, што гэта дастаткова верная ацэнка таго, чаго ад вас можна ня толькі чакаць, але і патрабаваць.

Ударнікі на фабрыках і заводах, вы самі ствараеце рэчы і факты, і вам, зразумела, лягчэй, чымся каму другому, расказаць, паказаць працэсы ажыцьцяўленьня вашай энэргіі ў рэчаіснасьць, працэсы зьмены рэчаіснасьці, працэсы перавыхаваньня старога і выхаваньня новага чалавека.

(„Беседа на расширенном заседании рабочего редсовета издательства ВУСП"—зб. „Две беседы"—Молодая гвардия 1931 г.)

## Недахопы ў творчасьці рабочых-ударнікаў

„Ударнікі на фабрыках і заводах, вы самі ствараеце рэчы і факты, і вам, зразумела, лягчэй, чымся каму іншаму, расказаць, адлюстраваць працэсы ажыцьцяўленьня вашай энэргіі ў рэчаіснасьць, працэсы зьмены ў рэчаіснасьці, працэсы перавыхаваньня старога і выхаваньня новага чалавека.

Раней, чым перайсьці да іншых пытаньняў, трэба пагаварыць аб некаторых недахопах усіх вашых кніжок. Якія гэта недахопы? Вы, таварышы, трохі ізалюецеся ў кожнай дадзенай кнізе. Адчуваецца, што кнігу пісаў сьлесар такога-та цэху, рабочы такой-та фабрыкі, і ён надзвычай зацікаўлены, каб яго цэх, фабрыка, завод ведалі, што ён піша, але ён забывае, што яго павінны чытаць мільёны.

Ёсьць у вас некаторая прафэсыянальная вузкасьць адносін да вопыту,—надзвычай каштоўнаму вопыту,—які павінен быць вядомы ня толькі ў межах Маскоўскай вобласьці, але і на Урале, у Керчы, у Хібінах,—усюды. Усе такары павінны ведаць тое, што напісаў токар, сьлесары—што напісаў сьлесар, ліцейнікі—што напісаў ліцейнік і г. д. Але і гэтага мала.

У вас у кніжках надзвычай часта шмат тэхнічных тэрмінаў. Людзям іншых галін вытворчасьці тэрміны гэтыя ня зусім ясныя, нават незнаёмыя. Не зразумеюць назваў частак машын і г. д., напрыклад—тэкстыльшчыкаў вуглякопы, а трэба каб усё і ўсім было ясна. Значыць: ня трэба надужываць цэхавую тэрміналёгію, ці трэба вытлумачыць тэрміны. Гэта абавязкова трэба зрабіць таму, што гэта дае кніжцы больш шырокае распаўсюджаньне, дазваляе лягчэй засвоіць ўсё тое, што ў ёй сказана.

Я ведаю, што мае запатрабаваньні ў дадзеным выпадку, магчыма, непамерны, але тым ня менш яны павінны быць пастаўлены. Гэта ў нашых інтарэсах, гэта ў інтарэсах тэй літаратуры, якую вы ствараеце. Літаратурная праца—нялёгкая праца".

(„Гутарка М. Горкага з пісьменьнікамі-ўдарнікамі"—„Литературная учеба", № 6 1931 г.

## Пісьменьнік і кляса

„Літаратар—вочы, вушы і голас клясы. Ён можа не ўсьведамляць гэтага, шчыра адмаўляць гэта, але ён заўсёды і нямінуча орган клясы, адчувальнік яе. Ён успрымае фармуе, адлюстроўвае настроі, трывогі, надзеі, інтарэсы, заганы і годнасьці свае клясы, свае групы. Ён і сам абмяжованы ўсім гэтым у сваім разьвіцьці. Ён ніколі яшчэ ня быў і ня можа быць „чалавекам унутрана вольным", „чалавекам наогул".

Такі цалкам вольны „чалавек для ўсіх“—Чалавек Чалавецтва—магчымы толькі ў будучыні, калі вольнаму росту яго сіл і здольнасьцяй ня стане перашкаджаць скажаючы ўціск ідэй і эмоцый нацыянальных, клясавых, рэлігійных.

А да гэтага часу і пакуль існуе клясавая дзяржава, літаратар, чалавек пэўнага асяродзьдзя і эпохі, павінен служыць і служыць—хоча ён таго, ці не, з агаворкамі, ці без агаворак—інтарэсам свае эпохі, свайго асяродзьдзя.

І калі гістарычна неабходным імкненьням яго клясы яго групы перашкаджае дзяржава, царква, варожая кляса,— літаратар ідзе супроць дзяржавы, царквы, клясы, рызыкуючы сваёй свабодай, не шкадуючы свайго жыцьця. Ён чалавек рэчаіснасьці больш, чым кожны іншы чалавек, калі толькі ён, працуючы над ёю, як над сваім матар'ялам, паклапаціўся ўсебакова вывучыць яе.

(М. Горкі—„Цели нашего журнала“—„Литературная учеба“ № 1, 1930 г.)

## Літаратура і пісьменьнік

„Рэвалюцыя выклікала да жыцьця тысячы моладзі, якая мучыцца жаданьнем пісаць і піша вершы, апавяданьні, раманы; піша ў вялізарнай большасьці выпадкаў тэхнічна няпісьменна і няўдала нават тады, калі ў вершах і апавяданьнях маладога пісьменьніка адчуваецца і веданьне рэчаіснасьці і здольнасьць наглядаць, і сваяасаблівыя адносіны да людзей, да зьяў жыцьця.

Колькасьць асоб, якія пачынаюць пісаць, расьце з кожным годам, і так яно і павінна быць. Шмат хто з іх сьпяшаецца друкаваць свае вершы і апавяданьні, а надрукаваўшы маленькі зборнічак вершаў ці апавяданьняў,—перастаюць вучыцца. Гэта надзвычай дрэнна,—літаратура ад гэтага ня выйграе, а пісьменьнік, які сьпяшаецца, забясьпечвае сабе няшчаснае жыцьцё „няпрызнанага таленту“ ці графамана,—чалавека, які хварэе сьвербам да малапісьменнага пустаслоўя. Шмат хто думае, што праца літаратара простая, лёгкая і хутчэй, чым усякая іншая праца, можа даць добры заробак, зрабіць іх прыкметнымі ў масе людзей, адарыць іх увагай і славай.

Імкненьне да літаратурнай працы ёсьць у аснове сваёй сапраўднае і здаровае імкненьне чалавечай адзінкі ад злу-

чэньня з людзкой масай праз адлюстраваньне, выяўленьне словам невычарпальнай рознастайнасьці зьяў унутранага і вонкавага жыцьця людзей. Для таго, каб адлюстраваць гэтыя зьявы ясна, пуката, праканана, трэба ўсебаковае і глыбокае веданьне жыцьця ў мінулым, веданьне бягучай, якая творыцца людзьмі, рэчаіснасьці і веданьне мовы—вялізарны запас слоў, якімі фармуюцца нагляданьні, уражаньні, пачуцьці, думкі.

Справа нашых маладых літаратараў—цяжкая, складаная справа. Яна ня зводзіцца толькі да крытыкі старое рэчаіснасьці, да выкрываньня пошаснасьці яе заган. Іх задача вывучаць, афармляць, адлюстроўваць і тым самым станавіць новую рэчаіснасьць. Трэба вучыцца бачыць, як у чаднай трупехласьці старога гільля ўспыхваюць, разгараюцца аганькі будучыні. У маладых пісьменьнікаў ёсьць што сказаць аб новых радасьцях жыцьця, аб рознастайным красаваньні творчых сіл у краіне. Яны павінны шукаць натхненьня і матар'ялаў у шырокім і бурным струмені працы, які складае новыя формы жыцьця, ім трэба быць як мага бліжэй да творчай волі нашай эпохі,—воля гэта зьдзейсьнена ў рабочай клясе.

Маладыя пісьменьнікі павінны ведаць, што гісторыя зусім праканала давяла марнасьць барацьбы за свабоду адзінкі і ўладна дыктуе неабходнасьць барацьбы за вызваленьне ўсяго працоўнага народу. Асабліва добра трэба, зразумець, што рэчаіснасьць ствараецца чалавекам, і калі яна дрэнная, у гэтым ніхто не вінаваты, апрача нас".

(М. Горкі—„Цели нашего журнала"—„Литературная учеба", № 1, 1930 г.

„Літаратар працуе з матар'ялам жывым, гнуткім, надзвычай складаным, рознастайных якасьцяй. Найчасьцей матар'ял гэты стаіць перад ім, як загадка; разгадаць яе тым цяжэй, чым менш бачыў літаратар людзей, менш чытаў і думаў аб іх, аб прычынах іх складанасьці і рознастайнасьці і супярэчнасьцях якасьцяй людзей.

Рабочы з руды плавіць чыгун, з чыгуна жалеза, сталь, з сталі робіць швейную голку, гармату, браняносец. Матар'ял літаратара—такі-ж чалавек, як і сам літаратар, з такімі-ж уласьцівасьцямі, задумамі, жаданьнямі, хістаньнямі густаў і настрояў; у нашы дні гэта часьцей за ўсё чалавек, у якога

мінулае супярэчыць сучаснаму, а будучае—ня зусім ясна яму. Гэты матар'ял уладае надзвычай значнай сілай супраціўленьня волі пісьменьніка, які жадае надаць абранай і ўяўляемай адзінцы форму, тыповую для адзінак той ці іншай групы.

Мы лічым таленавітымі літаратараў, якія добра ўладаюць прыёмамі нагляданьня, параўнаньня, адбору найбольш характэрных клясавых асаблівасьцяй і ўключэньня прадстаўленьня гэтых асаблівасьцяй у адну асобу; так ствараецца літаратурны вобраз, сацыяльны тып. Выабражэньне—адзін з найбольш істотных прыёмаў літаратурнай тэхнікі, які стварае вобраз і тэхніку—працэс работы—нельга зьмешваць з разуменьнем формы, як гэта робяць некаторыя нашы крытыкі. Выабражэньне заканчвае працэс вывучэньня, адбору матар'ялу, і канчаткова фармуе яго ў жывы, станоўча ці адмоўна значны, сацыяльны тып.

Работа літаратара мусіць цяжэй за работу вучонага спэцыяліста, напрыклад, за алёга. Работнік навукі, вывучаючы барана, ня мае патрэбы ўяўляюць самаго сябе бараном але літаратар, хоць ён і шчодры, а мусіць уявіць сябе скнарай, хоць ён некарасьлівы—а мусіць адчуць сябе хціўцам, хоць ён слабавольны—а мусіць упэўніваючы паказаць чалавека моцнай волі. Якраз сілай добра разьвітага выабражэньня таленавіты літаратар дасягае часьцяком такога факту, што гэроі, паказаныя ім, зьяўляюцца перад чытачом непараўнальна больш значнымі, яркімі, псыхалёгічна гарманічнымі і суцэльнымі, чымся сам майстар, які х стварыў".

(М. Горкі—„О литературной технике", „Литературная учеба", № 5 за 1932 г., стар. 5—6).

„Шырыня нагляданьняў, багацьце жыцьцёвага вопыту часьцяком ўзбройвае мастака сілай, якая перамагае яго асабовыя адносіны да фактаў, яго суб'ектывізм. Бальзак суб'ектыўна быў прыхільнікам буржуазнага ладу, але ў сваіх раманах ён выявіў нікчэмнасьць і подласьць мяшчанства з надзвычайнай бязьлітаснай якасьцю."

(М. Горкі—„Рабселькорам и военкорам о том, как я учился писать". ГИЗ, Москва, 1931 г.).

## Пісьменьнік і чытач

„Талент разьвіваецца з пачуцьця любасьці да справы, магчыма нават, што талент у існасьці яго і ёсьць толькі любасьць да справы, да працэсу работы. Павага да чытача патрабуецца ад літаратара так сама, як ад хлебапёка: калі хлебапёк дрэнна месіць цеста, калі з-пад яго рук у цеста трапляе бруд, сьмецьце—значыць хлебапёк ня думае на людзей, якія будуць есьці хлеб, ці лічыць іх ніжэй за сябе, ці-ж ён хуліган, які, мяркуючы, што „чалавек ня сьвіньня усё зьесьць“, знарок дадае да цеста бруд. У нашай краіне наш чытач мае асабліва глыбока абгрунтованае права на павагу, таму, што ён—гістарычна юнак, які толькі што ўвайшоў у жыцьцё, і кніга для яго—не забаўка, а зброя пашырэньня ведаў аб жыцьці, аб людзях.“

(М. Горкі—„Письма из рэдакции—письмо 3-е—„Литературная учеба“, № 1, 1930 г., стар. 57).

„Вы пішаце для мільёнаў і гэтую акалічнасьць ня трэба запамятаваць. Гэта абавязвае вас да строгай работы, да сумленных адносін да слова, да барвістасьці, яскравасьці, да ўсіх тых прыёмаў, пры дапамозе чаго вы найдакладней перададзеце ваш вопыт, вашы ўражаньні шматмільёнаму чытачу; для гэтага чытача чытаньне яшчэ цяжкая вучоба, а не асалода мастацтва.“

(М. Горкі—„Две беседы“ „Молодая гвардия“, 1931 г.)

## Неабходнасьць вучобы

„У дадатак яшчэ раз кажу тое, што, мусіць, ужо абрыдзела, аднак усё яшчэ не засвоена: трэба вучыцца. Трэба вучыцца наглядаць, параўноўваць, адбіраць клясава-тыповае ў рэвалюцыянэр-пролетарыі і ў кансэрватары-мешчаніне: трэба вучыцца адрозьніваць у паняцьцях атруту старога і мёд новага. Трэба вывучаць прыёмы і тэхніку літаратурнай працы, толькі за ўмоваю аўладаньня гэтай тэхнікай можна надаць матар'ялу больш ці менш дасканалую мастацкую форму.“

(М. Горкі—„О литературной технике“, „Литературная учеба“, № 5, 1932 г.).

„Чаму і як павінен вучыцца ўдарнік-пісьменьнік? Гэтае пытаньне ў вышэйшай ступені складанае і ў той-жа час вельмі простае. Вучыцца трэба ўсяму. Чым больш ведае чалавек, тым ён мацней, тым лепш ён узброены. Гэта ясна і бясспрэчна. Я лічу, што вам вучыцца прасьцей, чымся каму-б там ні было іншаму, таму, што вы ўмееце рабіць. Калі-ж вы пытаеце, як навучыцца пісаць, то аб гэтым, зразумела, нельга сказаць у некалькіх дзесятках слоў. Гэта патрабуе досыць доўгага тлумачэньня, і тут ужо мне прыдзецца абмежавацца тым, каб проста паказаць на простае выйсьце: трэба больш чытаць, і тыя з вас, якія выбралі гэты шлях, шлях літаратараў, павінны перш-на-перш вывучаць літаратуру, гісторыю літаратуры, гісторыю арганізацыі тыпаў.

(„Гутарка М. Горкага з пісьменьнікамі-ўдарнікамі" — „Литературная учеба", № 1, 1931.)

## Арганізацыя вучобы

„Калі гутарка ідзе аб тэхнічнай арганізацыі, то я думаю, што ў вас існуюць якія-небудзь гурткі ці што-небудзь блізкае да гэтага. Наогул, я прапанаваў-бы для таго, каб арганізаваць вучобу, узяць шэраг кніжак па гісторыі літаратуры, па гісторыі літаратурных тыпаў і г. д., наогул па літаратурнай тэхніцы. Кожная справа, літаратура таксама, патрабуе ведаў тэхнічных, бяз гэтага нічога ня зробіш. Літаратар працуе са сваім вопытам, які ён апранае ў слова. Мова—гэта інструмант, трэба вучыцца мове, трэба пашыраць свой лексыкон, вучыцца апранаць свае ўражаньні ў больш складаную, яркую, простую форму. Гэта і будзе тое, што трэба.

(„Гутарка М. Горкага з пісьменьнікамі-ўдарнікамі" — „Литературная учеба", № 1, 1931 г.)

*(Канец—будзе)*

*Вытрымкі сабраў*
*М. АЛЯХНОВІЧ*

# З ПАРТФЭЛЮ РЭДАКЦЫІ

*Агляд не надрукаваных твораў*

Некаторыя таварышы, пачынаючы пісаць вершы, або апавяданьні ставяцца да творчай работы павярхоуна, нясур'ёзна. Яны не даацэньваюць усёй складанасьці і адказнасьці працы над літаратурным творам. Яны глядзяць на працэс мастацкай творчасьці, як на лёгкую работу. Такія адносіны тармозяць іх творчы рост, а часамі скіроўваюць на рэйкі вэрсіфікатарства і халтуры.

Ад гэтага „лёгкага" падыходу да творчай работы мы хочам перасьцерагчы тых таварышоў, якія сумленна і аддана імкнуцца працаваць на літаратурным фронце.

А што такія настроі маюцца, што аб гэтым трэба папярэдзіць і ня мала каго, сьведчыць хоць-бы верш „П я т н а ц ц а т ы п а в е р х" М і х а с я К а л а ч ы н с к а г а.

Пазнаёмімся з вершам. Аўтар спачатку канстатуе, што мы пабудавалі пятнаццаты паверх (?), выходзім дэманстраваць свае посьпехі, свае перамогі ,і на дэманстрацыі рапартуюць краіне героі-ўдарнікі-„бэтоншчыкі" і „будаўнікі сьцен" (?).

Прачытаўшы верш, мы не ўяўляем сабе панарамы нашых дасягненьняў, мы не адчуваем, ня бачым героя—ударніка—чалавека. Агульныя словы, голае канстатаваньне фактаў. Верш не дасягнуў мэты, не зьяўляецца творчым дакумантам дзён сацыялістычнага будаўніцтва. Замест таго, каб удумліва падыйсьці да мастацкага вырашэньня заданьня, якое перад сабою ставіць аўтар, замест вывучэньня сабранага матар'ялу, выбару з яго характэрнага, абагульняючага (факты, падзеі, рысы характару, паводзіны) М. Калачынскі займаецца фокусамі, слоўнай эквілібрыстыкай, непатрэбі-

цай і шкодна траціць на гэта сваю энэргію, свой час. Вось „узор“ характарыстыкі нашага грандыёзнага будаўніцтва:

Мы падымаем
пят
нац
цаты
малады
Збу
да
валі.
Пят
нац
цаты
паверх
падняла
уверх
рука
про
ле
тара-бальшавіка.
(Разьбіўка захована аўтарская).

Альбо „Рапарт“ бэтоншчыкаў:

Бэтон
кла
дзем
няс
пын
на
З гартам,
каб
дэман
стры
раваць
краіне
Рапартам.

і г. д.

Асобныя мясьціны і радкі, што маюцца ў вершы М. Калачынскага, сьведчаць, што ён можа працаваць, але першым чынам мы раім яму пазбавіцца „цыркавой хваробы“, адкінуць трукачаства і пасур'ёзнаму ўзяцца за працу, сыстэматычна і ўпарта пачаць вучыцца, уясьніць сабе, што да творчай работы нельга падыходзіць „скандачка“.

Для пачынаючых пісаць, пытаньні складанае, найстойлівае творчае вучобы, а для некаторых, на першы плян, і справа аўладаньня элемэнтарнай пісьменнасьцю—галоўнейшая задача.

Ф. Войніч у вершы „Мая песьня“ піша:

17 год я толькі маю,
17 год пражыў ўсяго
17 год працы і змаганьня,
17 год жыцьця майго.

Каму гэта, апроч як самому аўтару, цікава? Якое гэта мае грамадзкае значэньне? Вядомая рэч, ніякага, а значыць так пісаць нельга. Канчае свой верш аўтар радкамі захапленьня:

Ах рытмы, рытмы
Дарагія мае,
Як добра працаваць,
Лёгка змагацца,
Калі калгас
Перамогай пяе.

Гэтыя радкі сьведчаць пра нясур'ёзны, ня сталы, павярхоўны падыход да творчай працы. Казаць, што „калі калгас перамогай пяе“, дык „лёгка змагацца“—гэта будзе палітычна зусім няправільна. Мы ведаем, у якіх складаных формах клясавае барацьбы праходзіць пераможны рух калгаснага будаўніцтва. Збожжазагатоўкі, цяпер веснавая сяўба—выразна паказваюць нам, як кулакі, падкулачнікі, злыднітунеядцы імкнуцца падарваць моц калгаснага руху і калі „калгас перамогай пяе“, дык гэта дасягнута ня ў „лёгкім змаганьні“, а ў бязьлітаснай барацьбе з клясавымі ворагамі, пад кіраўніцтвам партыі. Зусім другая рэч сказаць, што—як добра працаваць, як прыемна змагацца, калі пяе перамога, калі стаіш на шляху перамог. Прыемна змагацца гэта зусім ня знача, што лёгка. Варта было-б удумліва Ф. Войнічу прачытаць свой верш, як, бязумоўна, ён і сам заўважыў-бы гэтую памылку.

Вершы М. Здурава „Жыцьцё“, „Напужаў“—Янкі Сыча—маюць агульныя хібы. Апроч таго, што ў іх ня відаць зусім адзнак літаратурнае тэхнікі, яны вельмі агульныя, галаслоўныя, расьцягнутыя, бязьдзейныя.

М. Здураў гаворыць пра жыцьцё працоўных да рэвалюцыі, а сам, відаць, зусім яшчэ малады і дарэвалюцыйнага жыцьця ня ведае. Бярэцца за той матар'ял, якога ня бачыў, якога ня мае—а таму і выходзіць агульная няцікавая размова. І гэта характэрна для іншых.

У вершы „Сталёвы конь“ У. Вясёлы піша:

Чарнеюць узгоркі
На калгасных палёх.
Колгасы ўжо працуюць
Калёнамі на трактарох

Вясёлы хацеў выказаць правільную думку: бач, мы ўжо нагэтулькі вырасьлі, што калгасныя палі апрацоўваюць трактары! А што вышла? Бяссэнсіца. Як гэта калгасы могуць працаваць калёнамі на трактарох?

Відаць, над сабою працуюць, імкнуцца аўладаць тэхнікай вершу, выразна выказаць думку сваю—Янка Лукашонак, Т. Кузьмянкоў, Х. Цімчанка.

Дзякуючы агульнаму ўздыму нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР, мы наглядаем надзвычайна вялікую зацікаўленасьць з боку шырокіх мас працоўнай моладзі да творчае работы, жаданьне актыўна ўдзельнічаць у стварэньні савецкай літаратуры. Задача „Заклiку“ і ўсёй пісьменьніцкай грамадзкасьці—сустрэць гэтае жаданьне практычнай дапамогай гэтым таварышам у іх літаратурнай вучобе і ў іх творчым росьце і ў іх працы над узбагачэньнем свайго сьветапогляду, а гэта забясьпечыць яшчэ большы рост беларускай савецкай літаратуры.

# Хроніка

## ПЕРШЫ ПАШЫРАНЫ ПЛЕНУМ АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ БССР

адчыніўся 24-га лютага а 9-й гадзіне вечару ў будынку Польскага дзяржаўнага тэатру БССР уступнаю прамовай старшыні Аргкамітэту тав. М. Клімковіча.

У прэзыдыдыум пленуму абраны т. т. Жаброўскі, Ляўкоў, Кірпоцін, Платун, Брагінскі, Клімковіч, Ляхаў, Тарыч, Александровіч, Ал. Некрашэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Харык, Галавач, Чарот, Кобец, Самахвалаў, Кацнэльсон, Эрмлер, Броўка, Гараўскі, Шаўцоў, Звонак, Домбаль, Лынькоў, Чорны, Крапіва, Бэндэ, Дварчанін, Бучукас.

У ганаровы прэзыдыум пад бурныя воплескі абіраюцца Палітбюро ЦК УсеКП(б), на чале з таварышом СТАЛІНЫМ, Бюро ЦК КП(б)Б, на чале з тав. Гікало, т. т. Тэльман, Ленскі, Корчык, Постышаў, Стэцкі, Гронскі, Горкі і Серафімовіч.

З прывітальнымі прамовамі выступалі адказны сакратар Арганізацыйнага камітэту саюзу савецкіх пісьменьнікаў СССР тав. Кірпоцін, ад калектыву кінофабрыкі „Савецкая Беларусь"—тав. Тарыч, які перадаў пленуму альбом з здымкамі першага беларускага гукавога кінофільму „Першы ўзвод", ад рэвалюцыйных пісьменьнікаў Заходняе Беларусі былы пасол польскага сойму—палітэмігрант тав. Дварчанін.

З дакладам на тэму: „Сучаснае становішча беларускай савецкай літаратуры і задачы саюзу савецкіх Пісьменьнікаў БССР" выступіў тав. Клімковіч.

● На ранішнім паседжаньні пленуму 25-га лютага, якое адбывалася ў залі Дома пісьменьніка, былі заслуханы даклады т. т. Бранштэйна і Ліманоўскага пра творчыя пытаньні літаратуры.

● Вячэрняе паседжаньне было распачата выступленьнем у спрэчках прадстаўнікоў філій ССПБ т. т. Сабаленка Р. (Гомель), Б. Пяркоўскі (Клімавічы), П. Кавалёў (Смалявічы), Люгоўскі (Віцебск), Шапіра (Д. Ч. А.), Вольны, С. Баранавых, С. Нортман, Ц. Гартны, Р. Кобец, М. Хведаровіч і інш.

● 26-га, 27, 28 лютага і 1-га сакавіка выступалі т. т. Шукевіч-Трэцякоў, Модэль, Піотуховіч, Замоцін, Платун, Бурыкін, Бужан, Мікуліч, Глебка, народныя паэты рэспублікі Янка Купала і Якуб Колас, Кірпоцін, Шапавалаў, Кульбак, Галавач, Звонак, Бядуля, Броўка, Лужанін, Крапіва, Зарэцкі, Шукайла, Кучар, Лынькоў, Брагінскі, Дунец, Бэндэ, Чорны, Харык, Александровіч, Мурашка, Усс і інш.

● 1-га сакавіка на ранішнім паседжаньні былі заслуханы заключныя словы т.т. Клімковіча і Ліманоўскага.

З дакладам аб кінофабрыцы „Савецкая Беларусь“ выступіў дырэктар фабрыкі Кацнэльсон.

● 1-га сакав ка на вячэрнім паседжаньні, якое адбывалася ў залі клюбу харчавікоў, сустрэты бурнымі воплескамі, з вялікай прамовай выступіў сакратар ЦК КП(б)Б тав. Жаброўскі.

● 2-га сакавіка на ранішнім паседжаньні працягваліся спрэчкі па дакладу тав. Кацнэльсона, у якіх выступалі т. т.: Броўка, Кучар, сцэнарыст Брадзянскі, дырэктар трэсту Белдзяржкіно Галкін, кінорэжысэр Тарыч і інш.

● Пленум ухваліў адозвы да ўсіх савецкіх пісьменьнікаў БССР, да ўсіх працаўнікоў мастацтва ў зьвязку з задачамі па ўдзелу ўсіх творчых работнікаў у пасеўнай кампаніі першай бальшавіцкай вясны другой пяцігодкі.

● У адказ на адозву рабочых заводу імя Варашылава, імя Ланцуцкага, калгасьнікаў калгасу імя Дзяржынскага пленум аднагалосна прыняў рад практычных абавязкаў па рэалізацыі патрабаваньняў рабочых і калгасьнікаў.

● Пашыраны пленум аднагалосна пастанавіў кааптаваць у склад Аргкамітэту т. т. Ляўкова, (Культпроп ЦК КП(б)Б, Карпачова (Палыў №-скай дывізіі), Я. Бранштэйна (яўрэйская сэкцыя ССПБ) і народных паэтаў рэспублікі Янку Купалу і Якуба Коласа.

● На заключным паседжаньні пленуму з прамовай на тэму аб удзеле камсамолу ў літаратурнай рабоце выступаў сакратар ЦК ЛКСМБ тав. Ляхаў.

● Прэзыдыум Аргкамітэту ССП пастанавіў выдаць стэнаграфічную справаздачу першага пашыранага пленуму ССП БССР.

## ГУТАРКА НАЧПАЛІТКІРАЎНІЦТВА БВА ТАВ. АРАНШТАМА З САВЕЦКІМІ ПІСЬМЕНЬНІКАМІ.

22-га лютага ў Доме пісьменьніка адбылася гутарка работнікаў савецкай літаратуры, музыкі, тэатру і кіно з членам РВС БВА. тав. Л. Аранштамам.

Тав. Аранштам расказаў работнікам савецкага мастацтва аб дасягненьнях і перамогах чырвонай арміі за пятнаццаць год і падрабязна спыніўся на ролі і абавязках работнікаў фронту культурнай рэвалюцыі ў справе далейшага ўмацаваньня абароназдольнасьці Чырвонае арміі.

У заключэньне сваёй гутаркі тав. Аранштам прад'явіў пісьменьнікам, кампазытарам і драматургам чырвонаармейскі рахунак на вялікія мастацкія творы, на баявыя песьні, на карціны, вартыя Чырвонай арміі.

На нарадзе выступалі т. т. Андрэй Александровіч, кампазытар Палонскі Пятрусь Броўка. дырэктар кансэрваторыі Казакоў, сцэнарыст Брадзянскі, прадстаўнік Чангарскай дывізіі Кручкін.

Ансамбль пад кіраўніцтвам тав. Палонскага ў заключэньне гэтай сустрэчы выканаў шэраг чырвонаармейскіх песень.

● 20-га лютага ў польскім дзяржаўным тэатры БССР адбыўся вялікі літаратурны вечар, прысьвячаны падрыхтоўцы да першага пашыранага пленуму Аргкамітэту ССП БССР. З дакладам на тэму аб варожых вылазках на літаратурным фронце выступаў тав. Л. Бэндэ.

з чыткай сваіх твораў выступалі: Андрэй Александровіч, І. Харык, Пятрусь Броўка, Паўлюк Шукайла, Алесь Звонак, Раман Сабаленка, Люгоўскі, Уладзімер Хадыка, З. Аксельрод.

● 23-га лютага на прадпрыемствах Мінску брыгады пісьменьнікаў праводзілі гутаркі, прысьвячаныя сучаснаму становішчу беларускай савецкай літаратуры і першаму пашыранаму пленуму Аргкамітэту ССПБ.

На заводзе імя Варашылава выступала брыгада ў складзе т. т.: М. Лынькова, С. Нортмана, Ул. Хадыкі, Б. Пяркоўскага, С. Фаміна і Махонька.

На заводзе „Камунар"—М. Хведаровіч, П. Шукайла, Ал. Звонак, Кацовіч, Вінаградаў.

На фабрыцы „Кастрычнік"—Харык, Платнэр, Аксельрод.

На заводзе імя Мясьнікова—Кобец, Гутараў, Э. Каган.

● 24-га лютага, па запрашэньню рабочых мэханічнага цэху заводу імя Варашылава, з чыткаю сваіх твораў выступала брыгада ў складзе: Янкі Купалы, С. Нортмана, Крапівы, С. Дарожнага, Камянецкага.

● 27-га лютага ў Пэдінстытуце быў праведзены літаратурны вечар, на якім з чыткай сваіх твораў выступалі П. Галавач, Шукайла, Янка Купала і інш.

● 28-га лютага для выступленьня на пленуме ЦК ЛКМСБ ад імя пленуму аргкамітэту была вылучана дэлегацыя ў складзе Платона Галавача, Андрэя Александровіча і Барыса Мікуліча.

● 15-га і 18-га лютага адбыўся агульны сход яўрэйскай сэкцыі савецкіх пісьменьнікаў БССР, прысьвячаны пытаньням вылазак клясавага ворага на літаратурным фронце. З дакладам на гэтую тэму выступаў тав. Дунец.

У спрэчках па дакладу выказаліся т.т. Бранштэйн, Юдэльсон, Палонскі, Дубравіцкі, А. Каган, Вайнгауз, Кацовіч, Кульбак і інш.

● Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі ў 1933 г. выдасьць альбом (першы выпуск) 12 мастацкіх партрэтаў (літаграфія) беларускіх савецкіх пісьменьнікаў. Партрэты работы мастака Волкава.

● У часопісі—„V. O. K. S." № 3—4 за 1933 г., што выдаецца на ангельскай мове, зьмешчаны артыкул пра творчасьць Андрэя Александровіча і ў перакладзе паэта Л. Кора вершы—„Ленінская песьня" і „Гудкі".

● 1-га мая г. г. адбудзецца ўрачыстая закладка пабудовы Дома пісьменьніка.

## ДРАМАТУРГІЯ

● Надаючы асаблівае значэньне тэатру, як аднаму з найбольш сапраўдных сродкаў палітычнага выхаваньня шырокіх мас працоўных і ў мэтах стварэньня высока-мастацкіх тэатральных п'ес, якія будуць садзейнічаць выхаваньню мас ў духу сацыялізму, Савет народных камісараў Саюза ССР пастанавіў:

1. Абвясьціць конкурс пісьменьнікаў СССР на стварэньне лепшых тэатральных п'ес (тэмы—па выбару пісьменьнікаў з быта СССР і замежных краін).

2. Для прэм'яваньня лепшых драматургічных твораў, дасланых на конкурс, устаноўлена дзесяць прэмій СНК СССР:

2 першых прэміі па 15 тысяч рублёў;

3 другія прэміі па 10 тысяч рублёў;

5 трэціх прэмій па 5 тысяч рублёў.

Тэрмін прадстаўленьня п'ес на конкурс—1 лістапада 1933 году. П'есы могуць дасылацца на конкурс пад дэвізам ці за подпісам аўтара.

3. Для разгляду дасланых на конкурс п'ес і вызначэньня прэмій вызначана журы ў складзе: Стэцкі А. І. (старшыня журы), Бубноў А. С (Наркамасьветы РСФСР), Гронскі І. М. (старшыня Аргкамітэту ССП СССР), Луначарскі А. В. (старшыня навуковага камітэту пры ЦВК СССР), Станіслаўскі (дырэктар МХАТ'І), Мэерхольд В. Р. (дырэктар тэатру), Кулік Н. У. (старшыня Аргкамітэту ССП УССР), Уладзімераў В. К. (дырэктар Малага тэатру), Сіманаў Р. Н. (рэжысэр тэатра імя Вахтангава), Любімаў-Ланской Е. О. (дырэктар тэатру МОСПС), Літоўскі О. С. (начальнік Галоўрэпэрткому РСФСР), Талстой А. Н.

● Белдрамтаварыства абвясьціла конкурс на напісаньне малых драматычных твораў да пасеўнай кампаніі вясны 1933 году. Лепшыя творы будуць прэм'яваны.

● Украінскі Дзяржаўны чырвоназаводзкі тэатр прыняў да пастаноўкі п'есу Кузьмы Чорнага „Бацькаўшчына“.

● Сэктар „ЛІМ“ ДВБ падрыхтоўвае да друку п'есы: Барыса Мікуліча „Рот фронт“ і Васіля Сташэўскага „На варце“—п'еса для клюбнай і вясковай сцэны.

## КІНО

● Я. Бобрык і Л. Кацнэльсон напісалі кнігу пра шляхі разьвіцьця беларускай савецкай кінэматаграфіі. Кніга багата ілюстравана і будзе выдана ДВБ.

● Першая беларуская гукавая кінокарціна „Першы ўзвод“ (рэжысэр Корш, сцэнарыст Брадзянскі) карысталася ў Менску вялікім посьпехам. „Першы ўзвод“ праглядзела звыш 30 тысяч гледачоў.

● У пачатку сакавіка г. г. у Менску адчыніўся першы ў БССР дзіцячы гукавы кінотэатр.

● Ленінградзкай кінофабрыкай „Савецкая Беларусь“ скончана і здадзена фільмзбыту карціна „Бірабіджан“—рэжысэры Малчанаў і Шапіра. Фільм зьяўляецца кінонарысам аб жыцьці працоўных яўрэяў у Бірабіджане.

● Для збору матар'ялаў па сцэнарыю карціны „Беларусь“ у Менск прыехалі сцэнарысты т. т. Іваноў і Шамшур.

● Зьвярнулася на фабрыку з экспэдыцыі брыгада рэжысэра Аршанскага і прыступіла да павільённых здымкаў карціны „Двойчы народжаны“ па сцэнарыю Рыгора Кобеца.

## ЛІТАРАТУРНЫ ІНСТЫТУТ ІМЯ М. ГОРКАГА.

ЦВК СССР у адзнаку 40-гадовай літаратурнай дзейнасьці М. Горкага вынес пастанову аб адчыненьні ў Маскве літаратурнага інстытуту імя Горкага.

Навуковы камітэт пры ЦВК СССР разгледзеў і зацьвердзіў праект палажэньня аб інстытуце. Літаратурны інстытут імя М. Горкага будзе зьяўляцца вышэйшым літаратурным на

вуковым і навукова-дасьледчым цэнтрам, які ставіць сваёй мэтай падрыхтоўку з колаў рабочых і сялян, творча выявіўшых сябе, высока-кваліфікаваных літаратурных работнікаў, пісьменьнікаў, драматургаў, крытыкаў і гісторыкаў літаратуры; перападрыхтоўку і падвышэньне іх кваліфікацыі, а таксама вылучэньне з іх колаў работнікаў на навукова-дасьледчую работу па пытаньнях марксыцка-ленінскага літаратуразнаўства і гісторыі літаратуры. Інстытут будзе весьці навукова-дасьледчую работу ў галіне мастацкай літаратуры, вывучаць і абагульваць вопыт асобных пісьменьнікаў, папулярызаваць і прапагандаваць мастацкую літаратуру сярод працоўных СССР, аказваць дапамогу пісьменьнікам.

Інстытут будзе мець тры аддзяленьні: спэцыяльна-творчае (пісьменьніцкае) з 2-х гадовым тэрмінам навучаньня, вузаўскае з 4-х гадовым тэрмінам навучаньня і навукова-дасьледчае з 3-гадовым тэрмінам навучаньня.

● Маскоўскім абласным архіўным кіраўніцтвам выяўлены новыя матар'ялы па гісторыі літаратуры:

Аб Салтыкове-Шчэдрыне. Матар'ялы пра дзейнасьці М. Е. Салтыкова-Шчэдрына ў якасьці кіраўніка тульскай казённай палатай з верасьня 1867 па ліпень 1868 г., фармулярны сьпісак Салтыкова-Шчэдрына, шэраг яго рэзалюцый, цыркуляраў, напісаных ягонай рукой адказаў гарадзкім думам, даклад міністру фінансаў і інш.

Аб Сухава-Кабыліне, знойдзена сапраўднае справаводзтва асобнай сьледчай камісіі, у якім знаходзілася перапіска Сухава-Кабыліна з Сімон-Дэманш.

Аб А. Міцкевічу. У архіве маскоўскага вайсковага генэрал-губэрнатара за 1826 г. знойдзены матар'ялы пра службу Міцкевіча ў Маскве і характарыстыка, выдадзеная Навасільцавым.

Аб А. С. Пушкіне. У архіве маскоўскага обэр-паліцмэйстэра знойдзены новы пушкінскі аўтограф у сувязі з прыцягненьнем яго к справе аб „возмутительных стихах“,

Аб Г. Кюхельбэкеру. У тым-жа архіве маскоўскага обэр-паліцмэйстэра знойдзен шэраг дакумантаў аб Кюхельбэкеру, яго розыску і арышце.

● Знойдзеныя матар'ялы будуць надрукованы ў часопісе „Литературное наследство“.

---

*Рэдкалегія:* А. Александровіч (адказны рэдактар), Л. Бэндэ, П. Глебка, К. Дзехцяр, Р. Кобец, Н. Ляхаў.
*Адказны сэкратар* С. Нортман

Адрас рэдакцыі—Менск, Савецкая, 68, Дом пісьменьніка 2-гі паверх.

Уп. Галоўлітбелу № 176 Заказ № 876—3000 экз. Гомель, „Палесдрук“.

